# БОЛЬШЭВІЦКІ ДРУК





ГАЛОЎНАЕ
Ў НУМАРЫ:



СТУДЗЕНЬ
1935 г. 1-2




Выдавецтва ЦК КП(б)Б
„Звязда"

# ЗМЕСТ

## ПАМЯЦІ ВАЛЕРЫЯНА ВЛАДЗІМІРАВІЧА КУЙБЫШЭВА



# Урадавае паведамленне

25 студзеня, у 14 гадзін 30 мін., памёр ад склероза сэрца першы намеснік старшыні Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Совета працы і абароны, старшыня Камісіі Совецкага Кантроля, член Палітбюро ЦК ВКП(б)—таварыш

**Валерыян Владзіміровіч КУЙБЫШЭЎ**





# Прашчай, наш родны і блізкі Валерыян!

Наша партыя панесла вялікую страту: 25 студзеня 1935 года раптоўна памёр ад склероза сэрца тав. **Валерыян Уладзіміравіч Куйбышэў.**

Валерыян Уладзіміравіч Куйбышэў з юнацкіх гадоў змагаўся пад вялікім сцягам Леніна.

Ён упарта, не пакладаючы рук, працаваў і ў бальшэвіцкім падполлі, і на франтах грамадзянскай вайны, і на важнейшых участках сацыялістычнага будаўніцтва.

Ужо ў 1905 годзе тав. Куйбышэў у Пецярбургу актыўна ўдзельнічае ў рэвалюцыі, як бальшавік. Ён працуе затым у бальшэвіцкай арганізацыі Сібіры, як партыец-прафесіянал; у перапынках паміж неадпаразовымі ссылкамі і турэмнымі зняволеннямі ён вядзе кіруючую партыйную работу і ў бальшэвіцкай арганізацыі Піцера.

Лютаўская рэвалюцыя застае тав. Куйбышэва на дарозе ў чарговую ссылку ў Турухански край.

Тав. Куйбышэў — арганізатар бальшэвікоў Самары і іх кіраўнік у часе Октябрскага перавароту.

Тав. Куйбышэў быў адным з віднейшых палітычных кіраўнікоў Чырвонай арміі ў баях супроць чэхаславакаў і калчакоўцаў, а затым на Туркестанскім фронце.

Нястомны, чоткі ў рабоце, бязмежна адданы справе пралетарскай рэвалюцыі — ён з'яўляўся ўзорам выдатнага бальшэвіцкага дзяржаўнага дзеяча.

Тав. Куйбышэў быў старшынёй рэарганізаванай па ўказаннях Леніна ЦКК-РСІ, вёў паслядоўную, непрымірымую барацьбу з усімі ўхіламі ад генеральнай лініі партыі.

Буйнейшы арганізатар і знаток гаспадаркі нашай краіны, тав. Куйбышэў узначальваў у свой час Вышэйшы Совет Народнай Гаспадаркі, кіруючы сацыялістычнай індустрыяй. Тав. Куйбышэў узначальваў затым Дзяржаўную планавую камісію, кіруючы складаннем народна-гаспадарчых планаў 1-й і 2-й пяцігодкі.

Багацейшы вопыт арганізатарскай і гаспадарчай работы тав. Куйбышэва, яго шырокі дзяржаўны кругагляд асабліва ярка праявіліся на пасту намесніка старшыні Совета Народных Камісараў СССР.

Тав. Куйбышэў памёр на баявым пасту, працуючы не пакладаючы рук з усіх сіл, да апошняй мінуты свайго жыцця.

Ён аддаў усё сваё жыццё, усяго сябе — справе рабочага класа, справе нашага гераічнага народу.

Прашчай, наш родны і блізкі Валерыян!

| | |
|---|---|
| **І. Сталін** | **С. Касіор** |
| **В. Молатаў** | **А. Мікаян** |
| **К. Варашылаў** | **В. Чубар** |
| **Л. Кагановіч** | **Г. Петроўскі** |
| **М. Калінін** | **П. Постышэў** |
| **Г. Орджанікідзе** | **Я. Рудзутак** |
| **А. Андрэеў** | **А. Жданаў.** |



Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# Большэвіцкі друк

СТУДЗЕНЬ 1935 г. — № 1-2 (25)

ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы ў месяц.

*Адказны рэдактар А. ДЖЭЛЮК*

Адрас рэдакцыі і выдавецтва
МЕНСК, Совецкая 63, тэл. 22412

***

А. Г. ЧАРВЯКОЎ
Старшыня ЦВК СССР і БССР

## СОВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ АД З'ЕЗДА ДА З'ЕЗДА

Совецкая Беларусь прыходзіць да XI ўсебеларускага і VII ўсесаюзнага з'ездаў советаў з аграмаднымі перамогамі на ўсіх франтах соцыялістычнага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Асабліва вялікі поспехі соцыялістычнага будаўніцтва Совецкай Беларусі за апошнія пяць год, у сувязі з пераможным завяршэннем першай пяцігодкі ў чатыры гады і паспяховым выкананнем задач другога года другой пяцігодкі. Гэтыя перамогі так значны, што карэнным чынам змяняюць выгляд Совецкай Беларусі.



З адсталай акраіны царскай Расіі, паднявольнай царызмам, прыгнятаемай чорнасоценнай паліцэйшчынай і памешчыкамі, з краіны з адсталай сельскай гаспадаркай, з выключна слабай прамысловасцю, з «черты оседлости» для яўрэйскага насельніцтва, з яе нечалавечымі здзекамі, — Беларусь ператварылася у краіну перамагаючага соцыялізма, у краіну індустрыяльна-аграрную з высокай тэхнікай як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы, у краіну суцэльнай граматнасці і пышнага роста квіту культуры, соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме.

Занава рэканструяваны старыя прадпрыемствы і пабудован рад новых буйных фабрык і заводаў, дзякуючы чаму валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі павялічылася ў параўнанні з даваенным часам больш чым у 10 раз і складае звыш 60 проц. усёй валавой прадукцыі народнай гаспадаркі. Замест поўсаматужных і саматужных прадпрыемстваў Беларусь узбагацілася новымі буйнымі фабрыкамі і заводамі, абсталяванымі па апошняму слову тэхнікі і налічваючымі сотні і тысячы рабочых. Тэмпы развіцця прамысловасці ў Беларусі значна перавышаюць тэмпы росту прамысловасці Совецкага Саюза.

Пачынаючы з 1931 года, уступілі ў строй новыя буйныя прадпрыемствы: шчацінна-шчотачны камбінат, панчош-

на-трыкатажная фабрыка «КІМ», маслабойны завод у гор. Віцебску, дрэваапрацоўчы камбінат імя **Гікало**, маргарынавы завод, шклозавод імя Сталіна ў гор. Гомелі, Барысаўская макаронная фабрыка, Рэчыцкі экстрактны завод, Крычаўскі цэментны завод, Магілеўскі трубаліцейны завод і рад іншых.

Вялікія поспехі дасягнуты ў справе выкарыстання мясцовай сыравіны, а таксама асваення новых відаў вытворчасці, вызваляючых Савецкі Саюз ад неабходнасці імпартаваць рад варштатаў з-за граніцы. Так, металазаводы Совецкай Беларусі ўпершыню ў Саюзе ССР выпрабляюць цэнтравальныя, працяжныя, калібровачна-абточныя і разьбанарэзныя варштаты, пілы для халоднай рэзкі метала, тарфяны камбайн-багер, прадольна-стругальны варштат і інш.

Разам з ростам прамысловасці ва многа раз вырасла колькасць рабочых у Беларусі за кошт уцягнення новых кадраў у вытворчасць з мястэчак і вёсак. Замест 22,8 тыс. рабочых у 1913 годзе агульная колькасць рабочых у 1933 годзе перавысіла 135 тыс. чалавек.

Значна змяніўся і нацыянальны склад рабочых за кошт вырошчвання мясцовых кадраў. У цэнзавай прамысловасці за гады толькі першай пяцігодкі склад рабочых беларусаў павялічыўся з 21,8 да 61,4 тыс. і складаў 62,4 проц., а склад рабочых яўрэяў павялічыўся з 14,3 тыс. да 25,1 тыс.

Усё гэта яшчэ больш спрыяла далейшаму ўмацаванню кіруючай ролі рабочага класа Беларусі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. Рабочы клас Беларусі доблесна выканаў промфінплан другога года другой пяцігодкі. Да студзеня 1935 г. датэрмінова выканалі свой гадавы промфінплан саюзная прамысловасць БССР і такія галіны прамысловасці, як машынабудаўнічая, тарфяная, скурана-абутковая, шкляная, харчовая, будматэрыялаў, млынавая, запалкавая, фанерная, дрэваапрацоўчая, штучнага валакна; выканан план лесасплаву, выканан план саміпромкааперацыяй: Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Барысаў, Бабруйск, Орша, Дуброўна, Рэчыца — буйнейшыя прамысловыя цэнтры Беларусі — рапартавалі аб датэрміновым выкананні плана.

Соцыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі з'яўляецца самай цяжкай задачай у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Аднак і на гэтым участку Совецкая Беларусь, на аснове індустрыялізацыі Саюза ССР і БССР, на аснове бязлітаснай барацьбы з кулацтвам, шырокага развіцця МТС дабілася аграмаднага росту калгасаў і соўгасаў, перамогі калгаснага ладу і ліквідацыі кулацкай кабалы. Сотні тысяч індывідуальных распыленых сялянскіх беднацка-серадняцкіх гаспадарак, дзесяткі тысяч сталыпінскіх хутароў ператварыліся ў тысячы калгасаў, сялянскія аднаасобныя палоскі замяніліся шырокімі палямі калгасаў і соўгасаў, на якіх працуюць тысячы трактароў і навейшых складаных сельскагаспадарчых машын, на якіх уводзіцца правільны севазварот, на якіх з года ў год ідзе паспяховая барацьба за павышэнне ўраджайнасці.

Паспяховае завяршэнне ўсіх сельскагаспадарчых работ 1934 года, датэрміновае і поўнае выкананне калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай і значнае павелічэнне кошту працадня, забяспечваючае палепшэнне жыцця калгаснікаў, — з'яўляюцца лепшым паказальнікам трыумфу калгаснага ладу, доказам таго, што беднацка-серадняцкае сялянства Беларусі цвёрда стала пад чырвоны сцяг соцыялізма. Лета і восень 1934 года азнаменаваліся новым масавым прылівам у калгасы і на 1 снежня ў калгасах Беларусі яднаецца звыш 70 проц. беднацка-серадняцкіх гаспадарак.

Калгаснае сялянства Беларусі, узброіўшыся ўказаннямі партыі і любімага правадыра таварыша **Сталіна**, паспяхова змагаецца за поўнае ажыццяўленне лозунга аб ператварэнні калгасаў у бальшэвіцкія і калгаснікаў у заможных. Калгаснікі Аршанскага раёна рапартуюць: «зерневых у гэтым годзе на працадзень прыходзіцца 3 кілограмы, а ў мінулым годзе было 1,9 клг., бульбы замест леташніх 3 клг. атрымліваем 10 клг. Нашы калгасы моцна сталі на шлях заможнага жыцця. Ужо ў гэтым годзе сотні калгасных сем'яў будуць жыць заможным, культурным жыццём. Расце і квітнее пролетарская культура. Сетка школ вырасла ў два разы. Калі ў 1931 годзе ў школах навучалася

10.060 чалавек, то цяпер вучыцца 26.709 чалавек. Усё гэта мы заваявалі таму, што чэсна выконваем указанні партыі і ўрада».

Поспехі Совецкай Беларусі ў справе культурнага будаўніцтва з'яўляюцца гордасцю не толькі самой Совецкай Беларусі, але і ўсяго Совецкага Саюза. Беларусь да рэволюцыі мела каля 70 проц. няграматных. У сучасны момант Беларусь стала краінай суцэльнай граматнасці, дзе ажыццяўляецца ўсеагульнае абавязковае навучанне дзяцей школьнага ўзросту. Сямігодка і дзесяцігодка з'яўляюцца здабыткам дзяцей рабочых, калгаснікаў і працоўных Совецкай Беларусі.

Побач з пачатковай асветай расце таксама сярэдняя, спецыяльная і вышэйшая асвета. У 1934 годзе ў Беларусі працуе 18 вышэйшых навучальных устаноў, 81 тэхнікум, 35 рабфакаў, 76 школ ФЗВ. Працоўныя ўсіх нацыянальнасцей забяспечаны магчымасцю карыстання роднай мовай у школах, установах і інш.

Совецкая Беларусь дабілася аграмадных поспехаў у справе развіцця друку, навукі, мастацтва, літаратуры, радыё і інш. Колькасць выданняў па беларускай мове за адзін 1934 год далёка перавышае ўсё тое, што было выдана на беларускай мове за апошнія 150 год да рэволюцыі. Гадавы тыраж усіх газет у Беларусі, выдаваемых на беларускай, рускай, яўрэйскай, польскай, літоўскай, латышскай і інш. мовах перавышае 130 млн. экз., гэта значыць, што газета з'яўляецца здабыткам самых шырокіх мас працоўных горада і вёскі.

У Беларусі выраслі новыя кадры інтэлігенцыі і навуковых работнікаў з асяроддзя рабочых, калгаснікаў і сялян, створана цэлая сетка навукова-даследчых устаноў з Беларускай Акадэміяй навук, заняўшай віднае месца ў агульным культурным і гаспадарчым соцыялістычным будаўніцтве.

Пералічаныя поспехі і ўсё соцыялістычнае будаўніцтва Совецкай Беларусі з'яўляюцца часткай адзінага плана вялікай соцыялістычнай будоўлі ўсяго Совецкага Саюза, таксама як і сама Совецкая Беларусь складае непарыўную частку Совецкага Саюза. У гэтым арганічным адзінстве ўсіх частак Совецкага Саюза, у гэтым адзінстве плана соцыялістычнага будаўніцтва заключаецца крыніца перамог кожнай совецкай рэспублікі і ўсяго Совецкага Саюза.

Толькі дзякуючы таму, што Совецкая Беларусь складае неразрыўную частку Совецкага Саюза, толькі дзякуючы таму, што Совецкі Саюз паслядоўна ажыццяўляў і ажыццяўляе палітыку комуністычнай партыі, накіраваную на ліквідацыю эканамічнай і культурнай адсталасці былых акраін царскай Расіі і аказвае Совецкай Беларусі пастаянную аграмадную матэрыяльную дапамогу, Совецкая Беларусь дабілася аграмадных гістарычных поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва. На аснове поспехаў Совецкай Беларусі і адначасовых поспехаў усіх рэспублік і абласцей Совецкага Саюза, яшчэ больш расце гаспадарчая, культурная, палітычная магутнасць Саюза ССР, як адзінай совецкай дзяржавы.

Палітыка совецкага ўрада з'яўляецца прамым выражэннем ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі комуністычнай партыі.

Складанейшыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва Совецкая Беларусь паспяхова вырашае пад кіраўніцтвам КП(б)Б толькі на аснове няўхільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, як магутнай зброі ўмацавання дыктатуры пролетарыята, у барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм, за інтэрнацыянальнае выхаванне шырокіх мас працоўных усіх нацыянальнасцей.

Таму поспехі Совецкай Беларусі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляюцца яркім прыкладам трыумфу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б у Совецкай Беларусі сакрушаны спробы вялікадзяржаўных шавіністаў сарваць ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі і адначасова рашуча разгромлены спробы беларускіх нацдэмаў і іх агентуры ўнутры партыі рэстаўраваць уладу капіталістаў і памешчыкаў.

У 1929-30 г. г. у Беларусі была раскрыта і разгромлена нацыянал-дэмакратычная контррэволюцыйная арганізацыя на чале з Лёсікам, Некрашэвічам,

Краскоўскім і іншымі, члены якой — Ігнатоўскі, Прышчэпаў, Баліцкі, і інш. пралезлі ў партыю і, як правакатары-двурушнікі, ажыццяўлялі па справе дырэктывы заграпічных капіталістаў, якія імкнуліся шляхам адрыву Совецкай Беларусі ад Совецкага Саюза аднавіць у Беларусі ўладу капіталістаў, памешчыкаў і ператварыць Беларусь у сваю калонію.

Увесь прайшоўшы перыяд соцыялістычнага будаўніцтва праходзіў пад знакам жорсткай класавай барацьбы, пад знакам ліквідацыі астаткаў капіталістычных элементаў, аказваўшых жорсткае супраціўленне соцыялістычнаму наступленню, пад знакам ліквідацыі вынікаў контррэволюцыйнай шкодніцкай работы ўскрытых і разгромленых нацдэмаў і раду шкодніцкіх арганізацый.

У рабоце совецкіх, гаспадарчых, каапарацыйных і іншых арганізацый Совецкай Беларусі было і яшчэ ёсць шмат недахопаў, якія з'яўляюцца крыніцай значных прарываў у рабоце. Гэта з'яўляецца тым больш недапушчальным, што Совецкая Беларусь мае ўсе магчымасці працаваць без недахопаў і паспяхова вырашаць задачы соцыялістычнага будаўніцтва на ўсіх без выключэння ўчастках работы.

У ліку сур'ёзнейшых прарываў за прашоўшы час неабходна напомніць дрэнны стан загатовак 1932 года, нездавальняючае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, справу настаўніка Сцяпуры, прарывы ў рабоце самапромкааперацыі і інш. Гэтыя недахопы былі своечасова ўказаны Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) і ўрадам Совецкага Саюза.

З аграмадным задаваленнем неабходна прызнаць тую вялікую ролю, якую адыграла ў справе соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі большэвіцкая крытыка работы Беларусі, змяшчаемая на старонках цэнтральнага органа «Праўды».

У рэзультаце паслядоўнага праведзення ўказанняў ЦК ВКП(б) і «Праўды» і выпраўлення дапушчаных памылак у Совецкай Беларусі была ўскрыта і разгромлена новая контррэволюцыйная арганізацыя, ядром якой былі перакінутыя заграпічнай контрразведкай, пад відам праследуемых рэволюцыйных дзеячоў, шпіёны і правакатары Ракміхайлоўскі, Валошын, Капуцкі, Мятла, Гаўрылюк, Дварчанін і інш. Гэта контррэволюцыйная арганізацыя прадаўжала падрыўную работу ўскрытых ужо раней нацдэмаўскіх шкодніцкіх шпіёнскіх і іншых арганізацый і, яднаючыся з нацыянал-фашыстамі, правакатарамі і шпіёнамі за граніцай (Луцкевіч і Астроўскі ў Польшчы, Езавітаў у Латвіі, Якавюк у Літве), з рускімі, украінскімі белагвардзейцамі, германскімі і польскімі фашыстамі, — вяла контррэволюцыйную работу на грошы заграпічных контрразведак, ставячы мэтай падрыхтоўку тылу для імперыялістычнай інтэрвенцыі і адрыву Совецкай Беларусі ад Совецкага Саюза.

Узброеныя ўказаннямі ЦК ВКП(б) і ўрада Совецкага Саюза, а таксама большэвіцкай крытыкай «Праўды», рабочыя, калгаснікі, працоўныя, советы Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе Цэнтральнага Камітэта паднялі рашучую барацьбу супроць недахопаў, перабудоўваючы сваю работу на аснове рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б. Указанні XVII з'езда ВКП(б) у галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, асабліва жывёлагадоўлі, транспарта, оргмасавай работы советаў, узмацнення класавай пільнасці і інш. пакладзены ў аснову ўсёй работы советаў Беларусі.

Гаворачы аб поспехах Совецкай Беларусі, як неадрыўнай часткі Совецкага Саюза, мы гаворым аб трыумфе генеральнай лініі партыі, бо гэтыя поспехі дасягнуты на аснове цяснейшага згуртавання рабочых, калгаснікаў пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў барацьбе за яе генеральную лінію.

Гаворачы аб поспехах Совецкай Беларусі, неабходна асоба падкрэсліць велізарную ролю ў справе барацьбы за соцыялізм і будаўніцтва Совецкай Беларусі таварыша **Сталіна,** вялікага па сваёй геніяльнай празорлівасці важатага нашай краіны, блізкага і даступнага разуменню і сэрцу кожнага рабочага, работніцы, калгасніка, калгасніцы і ўсіх працоўных. Уся гісторыя Совецкай Беларусі, яе стварэнне, барацьба за вызваленне, аднаўленне зруйнаванай пасля вайны гаспадаркі, соцыялістычнае будаўніцтва, пышны росквіт культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу адбываліся пры непасрэд-

ным кіраўніцтве таварыша Сталіна.

Вось чаму рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя, працоўныя на выбарчых сходах советаў аднадушна заяўлялі, што перамогі Совецкай Беларусі ёсць рэзультат кіраўніцтва вялікай комуністычнай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта, на чале якога стаіць геніяльны рулявы, родны і блізкі таварыш Сталін.

Зладзейскае забойства таварыша С. М. Кірава—аднаго з лепшых сыноў і кіраўнікоў партыі і Совецкай краіны — зладзейскай рукой агіднага паследка зіноўеўскай антысовецкай групы, падасланага ворагамі рабочага класа, не пахіснула радоў будаўнікоў соцыялізма, але яшчэ мацней згуртавала рабочых, калгаснікаў і працоўных Совецкай Беларусі вакол партыі і яе ЦК на чале з таварышом Сталіным. Яшчэ цясней згуртаваліся рады рабочага класа і працоўных, яшчэ больш грознымі яны сталі для ўсіх ворагаў рабочага класа, яшчэ больш цвёрдым стаў поступ рэволюцыйных барацьбітоў за соцыялізм, яшчэ мацней сціскае вінтоўку дазорны совецкіх межаў супроць усіх ворагаў сваёй соцыялістычнай радзімы.

Совецкая Беларусь, знаходзячыся на рубяжы Совецкага Саюза з капіталістычным светам, мае ўсе магчымасці, каб стаць перадавой рэспублікай сярод абласцей і рэспублік Совецкага Саюза. Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва Совецкага Саюза і Совецкай Беларусі, як яго неадрыўнай часткі, расчрылі перад Совецкай Беларуссю неабмежаваныя магчымасці для далейшага соцыялістычнага развіцця і росквіту.

Аграмаднейшая актыўнасць рабочых, калгаснікаў і працоўных у дні перавыбараў советаў сведчыць аб тым, што пераўтварэнне Совецкай Беларусі ў перадавую, квітнеючую частку Совецкага Саюза з'яўляецца воляй шматмільённых мас працоўных.

Перад усёй вялікай краінай будуючагася соцыялізма, перад наступаючым VII з'ездам советаў Саюза ССР мы бярэм на сябе абавязацельства зрабіць усё тое, што патрабуе ад нас наша партыя, наша краіна, справа рэволюцыі для доблеснага выканання вялікай і ганаровай ролі, якая ляжыць на Совецкай Беларусі, як неадрыўнай часткі Совецкага Саюза, як фарпосце соцыялізма на заходняй мяжы з капіталістычным светам.

---

**КАЛГАСНЫ АДПАЧЫНАК.**



**ПАСЛЯ РАБОТЫ.** (Калгас імя Дзяржынскага, Рэчыцкага раёна).

## АБ КУЛЬТУРЫ І ВУЧОБЕ РАБОТНІКАЎ ГАЗЕТ

# ЗАЎВАГІ АБ РАБОЦЕ РАЁННЫХ ГАЗЕТ

**Гутарка загадчыка аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б тав. Д. Ю. КОНІКА з работнікамі раённых газет — завочнікамі КІЖ'а.**

**Скліканне Комуністычным інстытутам журналістыкі імя Кірава канферэнцыі завочнікаў з'яўляецца надзвычай каштоўным вопытам.** На канферэнцыі вы ўбачылі канкрэтныя памылкі, промахі ў сваёй рабоце, убачылі, як не трэба працаваць, і пры дапамозе кіруючых работнікаў КІЖ'а падвучыліся, як трэба працаваць. Работа праробдена немаленькая. Гэта з пункту гледжання ацэнкі данай канферэнцыі.

Што-ж датычыць ацэнкі становішча нашых раённых газет, то трэба сказаць, што на гэтым участку нашай работы становішча далёка не здавальняючае. Нашы раённыя газеты працуюць слаба, недастаткова змагаюцца за ажыццяўленне дырэктыў партыі.

Раённая газета патрабуе моцнага кіраўніцтва з боку цэнтральных органаў, раённага камітэта партыі, мясцовых работнікаў. Але такое кіраўніцтва мы на мясцах яшчэ не ўсюды маем. Некаторыя раённыя газеты прадастаўлены самі сабе, канкрэтнага кіраўніцтва імі няма. Няма штодзенных указанняў, што вось такія і такія пытанні не адлюстроўваюцца на старонках вашай газеты, а калі і адлюстроўваюцца, то не зусім востра, і рэзультат гэтага —**небаявітасць** раду раённых газет у барацьбе за выкананне важнейшых рашэнняў нашай партыі.

Зараз, на даным этапе нашай работы, пасля гістарычнага рашэння пленума ЦК ВКП(б) перад друкам стаяць адказнейшыя задачы. Неабходна давесці рашэнні пленума да кожнага рабочага, кожнага калгасніка. Ваша роля ў гэтых адносінах аграмадная.

Прапаганда гістарычных рашэнняў партыі ні ў якім разе не заключаецца толькі ў перадруку пастаноў пленума ці змяшчэнні аднаго-двух прапагандысцкіх артыкулаў. Гэта работа доўгая і палітычна-адказная. Вакол рашэнняў пленума наш друк павінен весці сістэматычную і глыбокую работу на сваіх старонках. Вы гэта зможаце рабіць толькі тады, калі самі будзеце над сабой працаваць, калі вы самі рашэнні партыі ўсвядоміце да канца, як бальшэвікі, пастаўленыя на важнейшым участку нашай работы. Пакуль вы самі не ўзброіліся сябе рашэннямі партыі, датуль вы не можаце іх давесці да свядомасці рабочага класа, калгасных мас.

Нашы газеты павінны як мага больш паказваць сваю арганізуючую ролю, ролю арганізатара, прапагандыста, агітатара. Вы павінны штодзенна даводзіць кожны пункт рашэнняў партыі да свядомасці мас, **арганізоўваць людзей, арганізоўваць сваіх рабкораў, селькораў на рэалізацыю гэтых пастаноў.** Кожны рабкор, селькор павінен, па-першае, сам добра ведаць гэтыя рашэнні, павінен быць агітатарам, прапагандыстам. Вы гэтага пакуль не дабіліся. У вас толькі адзінкі такіх рабселькораў. Я ўпэўнен, што кожны з вас, перш чым назваць прозвішча якога-небудзь селькора, павінен грунтоўна задумацца, каб успомніць, хто ў яго з'яўляецца такім добрым селькорам, рабкорам. А ў вас яны ёсць, толькі вы іх не ведаеце. І таму мы знаходзімся падчас у затрудненым становішчы ў адносінах вылучэння кадраў з рабселькораў.

У нас не хапае газетных работнікаў. Мы з вялікай труднасцю знаходзім, калі нам трэба, рэдактара, намесніка, інструктара. Умець знайсці ўжо вырасшага чалавека вельмі вялікая справа. Трэба яго ведаць, трэба бачыць гэтага чалавека з пункту погляду яго перспектыўнага развіцця. Гэта прамая наша задача. Кіраваць людзьмі—**гэта зна-**

чыць ведаць чалавека, своечасова прасоўваць на рабоце і, калі ўжо вылучылі, падтрымаць яго ў рабоце, а калі памыляецца, то паправіць.

Вы павінны выхоўваць людзей. Вы павінны сістэматычна збіраць рабселькораў на 5-10 дзён і як след папрацаваць з імі. Перанясіце той вопыт, які вамі атрыман тут, у сваю работу з рабкорамі, селькорамі, магчыма крыху ў іншай форме, трэба гэта прадумаць. Можа трэба паслаць таварышоў з Менска ў буйнейшыя раёны, каб дапамагчы вам прарабіць гэту работу, паказаць на месцы, як трэба арганізоўваць рабселькораўскую работу.

Мы ўжо больш паўгода рыхтуемся да рабселькораўскага з'езда, але мне здаецца, што гэта работа яшчэ зусім недастатковая. Гавораць, што ў нас 40 тысяч селькораў. Але ніхто дакладна не ведае, — колькі ў яго раёне селькораў. Адзін кажа 250, другі — 400, трэці — 500. І патрэбен цэлы рад мерапрыемстваў, каб, нарэшце, выявіць поўнасцю наш рабселькораўскі актыў, каб узяць кожнага на ўчот, замацаваць і лічыць прызваным па лініі друку.

Безумоўна, сказаць, што ўсе нашы газеты працуюць дрэнна, будзе няправільна. Аднак, супастаўляючы вашу работу з тым, што партыя патрабуе ад вас, трэба адзначыць, што большасць раённых газет працуюць дрэнна. Партыя патрабуе працаваць і паварочвацца ў сваёй рабоце вельмі хутка: хутка ўясняць, быць на вышыні падзей, якія адбываюцца ў нашай соцыялістычнай краіне, хутка адлюстроўваць па-партыйнаму гэтыя падзеі, каб быць сапраўдным прапагандыстам, агітатарам і арган'затарам мас.

Возьмем пытанні культурнага будаўніцтва. У мінулым годзе быў склікан з'езд совецкіх пісьменнікаў. На 1935 год намячаецца рад другіх з'ездаў: архітэктараў, работнікаў мастацтва. Усе гэтыя пытанні павінны знайсці свой адбітак у вашай рабоце. Газета абавязана займацца ўсімі пытаннямі культуры, і быту працоўных. Вас павінна цікавіць і кватэра калгасніка, і становішча калгаснага двара, і чытанне калгаснікамі газет, кніг і т. д. У нас калгасы занялі пануючае месца ў сельскай гаспадарцы. І для нас не ўсё раўно, якое становішча конскага двара, як чысцяцца коні, як будуецца хлеў і т. д. Гэтыя ўсе пытанні павінны быць вамі ўзняты на надзвычай вялікую вышыню. А калі праглядаеш нашы райгазеты, то ў большасці не бачыш, каб яны ўзнімалі і ставілі на сваіх старонках гэтыя важнейшыя пытанні так, як ставіць іх наша партыя. А без гэтых элементаў, без ліквідацыі гразі, некультурных адносін у сям'і у быту калгасніка мы бяскласавага грамадства не пабудуем. Бяскласавае грамадства — гэта грамадства з высокім росквітам культуры.

Нам трэба ва ўсім нашым друку **узмацніць большэвіцкую баявітасць.** Глядзіш на газету — такая яна часта шэранькая, не кліча, не мабілізуе. Не гаворачы ўжо аб клішэ (клішэ ў газетах часамі прама жудасныя, лепш ужо калі іх няма: чалавек, партрэт якога змяшчаюць, сам сябе не пазнае), усё афармленне газет часта вельмі дрэннае. Трэба аўладаць тэхнікай гэтай справы, пара пакончыць з такімі агіднасцямі.

Вельмі многа яшчэ трафарэту ў нашых газетах. Возьмем «шапкі». Над імі не думаюць, таму адна шапка паходзіць на другую, як дзве кроплі вады. Вось вазьміце «шапкі» **«Чырвонай змены»**. «Шапкі» вялікай колькасці яе нумароў непрадуманыя, трафарэтныя, бяззубыя. Трэба абвясціць рашучую барацьбу трафарэту, істэрычнаму крыку, накшталт «біць», «рашуча ўдарыць» і т. д. Не крычаць і пагражаць трэба, а **паказваць вопыт,** ускрываць прычыны і канкрэтных вінаватых у дрэннай рабоце на тым ці іншым участку, **справай** дапамагаць палепшыць работу, а не крыкам і лаянкай. Лепшых людзей трэба шырока паказваць у газеце, на іх прыкладзе выхоўваць масы. Але паказваць знатных людзей соцыялістычнага будаўніцтва трэба не толькі ў святочныя дні, як гэта ў нас звычайна робіцца. Трэба паказваць іх і ў будзённыя дні, паказваць умела, удумліва, без сюсюкання, трафарэту, а каб жывыя справы, работа гэтых людзей былі выразна відны, каб на такім матэрыяле

вучыцца маглі рабочыя і калгаснікі.

Тое самае і з выкрываючымі матэрыяламі. Калі вы ўжо крытыкуеце, лаеце чалавека, рабіце гэта так, каб і ён, і ўсе чытачы ведалі, за што вы яго лаеце. У вас-жа ў руках мацнейшая і астрэйшая зброя. Трэба ёю ўмела карыстацца. трэба надзвычай беражліва адносіцца да людзей, самым пільным чынам правяраць кожную заметку, перш чым яе надрукаваць. Гэта адносіцца не толькі да рэдактароў, але і да загадчыкаў аддзеламі, інструктароў. Загадчык аддзела райгазеты — вялікая справа. Яму даручан лёс пэўнага ўчастка работы, куды ўваходзіць і вывучэнне і ацэнка людзей, выхаванне іх. Возьмем важнейшы аддзел — сельскагаспадарчы. Часта-ж іменна ад гэтага аддзела, ад таго, як ён паставіць пытанне ў газеце, залежыць і аўтарытэт, а часта і лёс старшыні сельсовета, калгаса, брыгадзіра. Старшыня калгаса ці брыгадзір пасля таго, як вы яго вылаялі ў газеце, прыдзе да вас, будзе спрачацца, даказваць сваю правату. І калі вы не зможаце даказаць яму, у чым яго памылкі, недахопы, вы страціце аўтарытэт газеты. Вось чаму яшчэ і яшчэ раз трэба детальна правяраць матэрыялы, якія вы друкуеце. Але, калі вы ўжо змясцілі правераны матэрыял, то трэба біцца за яго да канца, дабіцца рэагавання. І тады газета будзе вострай. баявой.

Чым можна вытлумачыць вашу ўступчывасць, калі не рэагуюць на заметку, а вы здаеце пазіцыі, як неведаннем справы, тым, што вы самі цвёрда не ўпэўнены ў гэтым матэрыяле. Бо калі-б вы былі пераконаны да канца, вы-б да канца і змагаліся за матэрыял.

Наконт рэагавання. Тут даныя мне лічбы, што газетамі атрыманы 183.000 карэспандэнцый па ўсіх раёнах БССР, а рэагаванне атрымана на 24.000. Можна гэтым лічбам верыць і не верыць, але гэтыя лічбы гавораць аб многім. Яны гавораць аб усё яшчэ дрэннай рабоце з пісьмамі працоўных. Гэта не гледзячы на неаднаразовыя ўказанні партыі, што стрыжнем нашай работы з'яўляюцца пісьмы працоўных. Возьмем аршанскую раённую газету **«Ленінскі прызыў»**. Са слоў рэдактара гэтай газеты, яна атрымала 2.500 пісем, змешчана 1.900, наслана на расследванне 180 і паслана ў архіў 500. Але, калі мы праверылі, то выявілася, што весткі гэтыя няправільныя, што змешчана менш, больш адпраўлена ў архіў. І такія бюракратычныя адносіны да пісем і допісаў не толькі ў Оршы. Вам трэба зрабіць адсюль адпаведныя палітычныя вывады.

Пісьмы працоўных у рэдакцыю — гэта-ж залаты фонд нашых газет. Вы павінны да яго надзвычай беражна адносіцца, умела скарыстоўваць.

Тут таварышы гаварылі, што ў іх слаба з пытаннямі партработы. Майце на ўвазе, што вялікім недахопам цэлага раду арганізацый з'яўляецца іменна слабасць партработы. Ваш прамы абавязак—моцна ўзяцца за гэты ўчастак работы. Партработа — гэта работа з членам партыі, з партгрупай, з адзіночкай-партыйцам; гэта пытанні партвучобы, пытанні ідэалагічнага росту кожнага члена партыі і т. д. Гэты ўчастак у радзе арганізацый у нас адстае. Пытанні партработы, работы комсамола. партыйнага кіраўніцтва комсамолам павінны быць у цэнтры ўвагі вашай работы.

Асабліва востра стаіць зараз пытанне аб нашай партыйнай пільнасці, аб рэволюцыйнай пільнасці.

Правадыр нашай партыі тав. **СТАЛІН** не раз падкрэсліваў, што **«рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам»**.

Зараз, калі класавы вораг перад тварам нашых рашаючых перамог ужывае самыя гнусныя, самыя вострыя сродкі барацьбы, калі агентура гэтых ворагаў пускаецца на любую маню, двурушніцтва, хітрасць і подласць з мэтай пралезці ў нашы ўстановы, звіць контррэволюцыйнае гняздо на фабрыцы або ў калгасе, на брыху ўпаўзці нават у партыю, або скарыстаць правакатараў з партбілетамі ў кішэні, апартуністаў, стаўшых стопроцантнымі здраднікамі і контррэволюцыянерамі, накшталт Зіноўевых і Каменевых, Залуцкіх і інш. ворагаў нашага народу, — нам патрэбна пільнасць, пільнасць і пільнасць.

Мы павінны не ўпускаць ні аднаго выпадку варожай дзейнасці, разумець тактыку класавага ворага, ведаць і бачыць усе яго лазейкі, выкрываць іх перад шырокімі масамі працоўных, трэба штодзенна вучыць гэтаму рабселькораў.

Ёсць у нас яшчэ ўсякая контррэвалюцыйная сволач, і нам патрэбна быць надзвычай пільнымі.

Трэба быць рэвалюцыйна пільнымі на справе, а не на словах. Рэвалюцыйная пільнасць заключаецца перш за ўсё ў праверцы людзей. Вылучаць трэба людзей правераных, да канца адданых справе партыі Леніна - Сталіна. Рэвалюцыйная пільнасць патрабуе выкараненне да канца расхлябанасці, разгільдзяйства, бесклапотнасці і сляпой даверлівасці, якія служаць толькі ворагу і палягчаюць яго падрыўную работу.

Каб добра кіраваць, трэба над сабой працаваць. Мне здаецца, вы атрымалі тут зарадку і ў тым, што вы пераканаліся, што вы слабы ў рабоце і слабы таму, што мала працуеце над сабой.

Лепшы сын нашай бальшэвіцкай партыі **Сергей Міронавіч Кіраў** з трыбуны XVII з'езда ВКП(б) гаварыў:

«...Мы ні на адну мінуту не павінны забываць, што мы жывем у такой абстаноўцы, калі тая навука, якая вывучае супраціўленне процістаячых нам класаў унутры краіны і за яе межамі— гэта навука павінна займаць першае месца».

Гэта навука, распрацаваная Леніным і Сталіным, з'яўляецца магутнейшай зброяй у барацьбе за пабудову бескласавага грамадства. Навукай гэтай трэба авалодваць штодзённа.

За 10 дзён ні адзін КІЖ не можа даць больш, чым можа даць. Ён можа даць толькі зарадку, навучыць, як над сабой працаваць. Вам трэба самім настойліва працаваць над сабой. Чаго варты рэдактар, калі ён не чытае мастацкай літаратуры. Скажам, калгаснік прачытаў «Дрыгву» Коласа і прыходзіць к рэдактару пагаварыць пра дзеда Талаша. А што скажа яму рэдактар, калі ён сам «Дрыгвы» не чытаў? Неабходна чытаць сучасную мастацкую літаратуру. Мастацкая літаратура — гэта тая-ж партыйная літаратура. Мы не друкуем усё, што пішуць, мы друкуем творы, якія адлюстроўваюць нашу соцыялістычную радзіму, адлюстроўваюць наша шматграннае жыццё, якія паказваюць лепшых людзей нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба, каб вы абавязкова чыталі газеты, кнігі, каб вы звязаліся з бібліятэкамі. Калі вы не будзеце надрыхтоўваць сябе, вы будзеце адставаць. Зараз нельга тантацца на месцы, зараз трэба толькі ісці наперад, бо інакш адстанеш. Ваша-ж адставанне адразу адаб'ецца на газеце. Некультурны рэдактар не можа рабіць культурную газету.

Трэба самім вучыцца і рабселькораў вучыць.

Неабходна паставіць пытанне наконт нарад рабселькораў так, каб кожная нарада ў раёне сапраўды з'яўлялася вучобай рабселькораў. Трэба на канкрэтных прыкладах вучыць людзей, выхоўваць іх. Нядаўна ЦК паслаў вам пісьмо наконт перавыбараў рэдкалегій. Трэба вывучыць кожнага таварыша, якога вы вылучаеце ў рэдкалегію. Трэба, каб у часе гэтых перавыбараў быў яшчэ больш узняты аўтарытэт газеты, трэба мабілізаваць масы вакол гэтых выбараў. Я думаю, што калі вы гэту работу разгорнеце як след, то мы к нашаму рабселькораўскаму з'езду прыдзем з лепшымі паказчыкамі.

Наконт дапамогі цэнтральных газет. Яны вам дапамагаюць мала. Нельга, зразумела, абмяжоўвацца дапамогай толькі па лініі агляду раённай газеты. Наш журнал **«Большэвіцкі друк»** прарабіў вялікую работу, каб ускрыць недахопы раённых газет. Але ён недастаткова паказвае станоўчыя бакі, вопыт работы. А на добрым-жа ўзоры таксама вучацца газеты.

«Большэвіцкі друк»—гэта фактычна адзіны орган, які дапамагае райгазетам. «Звязда» слаба кіруе нізавым друкам. «Рабочий» сёе-тое робіць па дапамозе фабрычна-заводскім шматтыражкам, але таксама недастаткова. Так што на абавязак «Большэвіцкага друку» падае роля адказнага і аўтарытэтнага памочніка райгазет і ён павінен грунтоўна ўзмацніць сваю работу.

Нарэшце, хачу сказаць, што тыя задачы, якія стаяць перад нашай партыяй у галіне рэалізацыі гістарычных рашэнняў пленума ЦК партыі, прад'яўляюць вялікія патрабаванні да нашых газет. Дазвольце спадзявацца, што вы, прыехаўшы на месцы, разгорнеце работу так, што газета ў вашых руках будзе сапраўды вострай і моцнай зброяй партарганізацыі ў барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў нашай слаўнай большэвіцкай партыі, партыі Леніна-Сталіна.

**М. ЗЕРНІЦКІ**

Загадчык завочнага сектара КІЖ'а імя Кірава

# Дэкада ўдарнай работы завочнікаў

**(Вынікі канферэнцыі завочнікаў КІЖ'а імя Кірава)**

Год таму назад па пастанове ЦК КП(б)Б у Комуністычным інстытуце журналістыкі быў створан **сектар завочнага навучання газетных работнікаў.**

У ліку 74 завочнікаў — 34 рэдактары і намеснікі рэдактароў раённых і палітаддзельскіх газет, 17 загадчыкаў аддзеламі газет, 6 адказных сакратароў. Комуністаў сярод завчнікаў—46, комсамольцаў — 26, беспартыйных—2 (прыняты па асобных рэкамендацыях партарганізацый).

Увесь мінулы год завочнікі займаліся па праграме: ленінізм, газетныя дысцыпліны (кіжаўскі курс «Работа над газетай»), беларуская мова і літаратура.

Цікава спыніцца на даных аб тым, што і як прапрацавалі за мінулы год завочнікі з заданняў завочнага КІЖ'а.

Уступнае заданне па газетных дысцыплінах выканалі 26 завочнікаў, па двух заданнях па беларускай мове прысланы 34 работы, па двух заданнях курса «Работа над газетай» выканалі работу 16 завочнікаў, па пяці заданнях курса ленінізма прыслалі работы 6 завочнікаў (у апошні час, улічваючы вялікую загрузку завочнікаў, якія ў пераважнай большасці з'яўляюцца адказнымі аператыўнымі работнікамі газет, мы патрабавалі замест прысылкі пісьмовых работ па ленінізму—весці канспекты—рабочыя запісы, якія прадстаўляць пры здачы вусных залікаў). Завочнікі, прыслаўшыя заданні, атрымалі наступныя адзнакі па пісьмовых работах: «вельмі добра» і «добра» 36 проц., «здавальняюча»—57 проц. і «нездавальняюча»—7 проц.

Далёка не ўсе завочнікі акуратна выконвалі заданні. Значная колькасць таварышоў не выканалі амаль ні аднаго задання. Гэта — рэзультат не толькі слабай работы над сабой саміх завочнікаў, дрэнных мясцовых умоў для вучобы газетных работнікаў, але яшчэ ў большай ступені рэзультат слабага да апошняга часу кантролю за вучобай завочнікаў з боку завочнага сектара КІЖ'а. Цяпер зусім відавочна, што стандартныя напамінкі «ў першы раз», «другі раз», «трэці раз», якія пасылаліся завочным сектарам, не апраўдалі сябе.

Вялікія затрудненні для завочнай вучобы газетных работнікаў—гэта адсутнасць вучэбных дапаможнікаў. Гэта прымусіла пасадзіць асобных выкладчыкаў КІЖ'а за складанне пісьмовых лекцый і разгорнутых заданняў для завочнікаў. Але аўтарскіх кадраў (асабліва па газетных дысцыплінах) у нас пакуль што лічаныя адзінкі, таму за мінулы год мы паспелі выдаць усяго толькі некалькі вучэбных дапаможнікаў: дзве кніжкі па пытаннях работы над заметкай і пісьмом рабочага і калгасніка, два заданні па беларускай мове і адзін зборнік па пытанню «Нарыс і фельетон». У студзені 1935 г. выходзяць з друку зборнік па інфармацыі і трэцяе заданне па беларускай мове.

Каб узняць актыўнасць і дысцыпліну ў выкананні заданняў, былі арганізаваны ў снежні мінулага года тры групавыя кароткатэрміновыя (на 2 дні) выклікі завочнікаў для прыняцця ў іх залікаў па прапрацаваных тэмах. Усяго былі прыняты залікі за час гэтых выклікаў у 11 чал. (з 15 выкліканых). Як паказвае вопыт, гэтыя кароткатэрміновыя выклікі трэба прызнаць вельмі карысная формай кантролю і дапамогі завочнікам у іх працы.

Больш значным этапам работы завочнага КІЖ'а трэба лічыць першую канферэнцыю завочнікаў, якая нядаўна адбылася (3—13 студзеня).

З выкліканых на канферэнцыю 30 чалавек прыехала 18. Сярод іх адказных рэдактароў — 8, намеснікаў рэдактароў—4, іншых работнікаў газет—6. У ліку прыехаўшых 11 членаў партыі і 6 комсамольцаў.

Не гледзячы на адносна кароткі тэрмін работы (10 дзён), канферэнцыя закончылася з безумоўна дадатнымі рэзультатамі. Прапрацаваны матэрыялы лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) і снежаньскага пленума ЦК КП(б)Б, пы-

танне аб сутнасці былой антыпартыйнай контррэвалюцыйнай зіноўеўскай групы. З літаратурных твораў абмеркавалі «Паднятую цаліну» Шолахава і «Дрыгву» Якуба Коласа. Па газетных дысцыплінах прапрацаваны дзве тэмы: «Прынцыпы большэвіцкага друку» і «Мова газеты». Апрача гэтага былі праведзены заняткі па тэхніцы афармлення газеты на матэрыяле газет завочнікаў. Па ленінізму прапрацаваны дзве тэмы, па беларускай мове паўтораны 2 заданні, распрацавана новае заданне. З завочнікамі таксама праведзены заняткі на тэму «Як працаваць над кнігай і слоўнікам».

Прапрацоўка матэрыялаў лістападаўскага пленума (прапрацоўкай кіравала дырэктар КІЖ'а тав. **Чыжова)** паказала ў поўнай меры здавальняючую арыентоўку таварышоў у важнейшых задачах, якія ставяцца цяпер партыяй у рашэннях апошняга пленума ЦК ВКП(б). Слабей аказаліся веды таварышоў у галіне гісторыі барацьбы партыі з былой антыпартыйнай зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыяй. Прапрацоўка гэтых матэрыялаў завастрыла большэвіцкую пільнасць і ўзброіла таварышоў канкрэтнымі ведамі з гісторыі барацьбы партыі з антыпартыйнай зіноўеўскай апазіцыяй, контррэвалюцыйныя падонкі якой сталі на шлях белагвардзейска-фашысцкага тэрору і вырвалі з нашых радоў любімца усёй партыі—т. **Кірава.**

З вялікай адказнасцю аднесліся завочнікі да прапрацоўкі двух тэм па ленінізму—«Марксізм-ленінізм» і «Нацыянальна-каланіяльнае пытанне».

Выключную зацікаўленасць выклікаў на канферэнцыі разбор «Паднятай цаліны» Шолахава і «Дрыгвы» Коласа. Няма патрэбы даказваць, наколькі важным з'яўляецца разбор гэтых твораў для работнікаў раённых і палітаддзельскіх газет, якім па прыездзе на месцы прыдзецца прыняць актыўны кіруючы ўдзел у правядзенні літаратурнага паходу.

Спынімся цяпер на выніках заняткаў па тэмах «Прынцыпы большэвіцкага друку» і «Мова большэвіцкай газеты». Прапрацоўка гэтых тэм выявіла вельмі сур'ёзныя недахопы ў радзе раённых і палітаддзельскіхг азет.

Досыць часта асобныя газеты не праяўляюць ініцыятывы ў пастаноўцы важнейшых палітычных пытанняў, недастаткова палітычна-завострана ставяць пытанні, не праяўляюць неабходнай большэвіцкай пільнасці. З нямалай колькасці такіх прыкладаў спынімся толькі на некалькіх фактах.

Пры азнаямленні з суражскай райгазетай **«Ударнік»** (рэдактар завочнік тав. **Баранаў)** высветлілася, што матэрыялы аб забойстве таварыша **КІРАВА** газета змясціла толькі 6 снежня, між тым у гэты час вышлі нумары газеты за 1 снежня і 4 снежня. У нумары за 4 снежня змешчан матэрыял раённага з'езда советаў, але аб гнусным забойстве тав. Кірава ні слова. У нумары за 6 снежня дан толькі афіцыяльны матэрыял, а водгукаў раённых арганізацый, рабочых, калгаснікаў на забойства тав. Кірава—ні ў гэтым нумары, ні ў некалькіх наступных нумарах няма.

**Быхаўская** райгазета ў перадоўцы ад 16-XI 1934 г. **мімаходам** паведамляла аб такіх фактах:

**«У Баркалабаўскім сельсовеце... умудрыліся рэкамендаваць у новы склад сельсовета Пакатовіча Пятра, псіхічна хворага, і Барсукова Фядота, які 15 год таму назад памёр».**

Факт наглай класава-варожай спробы дыскрэдытаваць выбары ў нізавыя органы совецкай улады газета па сутнасці змазала, не здолела завастрыць увагу мас чытачоў на барацьбе супроць гэтых наглых кулацкіх махінацый, абмежаваўшыся ўсяго толькі некалькімі радкамі аб гэтых абураючых фактах.

Другі вельмі пашыраны недахоп газет: вельмі мала паказу дадатнага вопыта, знатных людзей нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Даволі павучальнай з'яўляецца гутарка, якая адбылася ў культпропе ЦК КП(б)Б паміж таварышам **Конікам** і рэдактарам лельчыцкай газеты тав. **Скурат-Анісовічам.**

— Ці давалі вы,—запытаў т. Конік,—матэрыял з паказам лепшага вопыта, знатных людзей калгасаў?

— Давалі, — адказвае тав. Скурат-Анісовіч.

— У якіх нумарах?

— У нумары за 7 лістапада.

— Гэта значыць, у святочным нумары? А ў будзённыя дні паказвалі лепшых людзей у газеце?

— Не. У будзённыя дні, — шчыра прызнаецца рэдактар,—мы знатных людзей не паказвалі. Гэты адказ выкл...

каў смех ва ўсіх прысутных на гутарцы. Але-ж так робіць не толькі лельчыцкая газета, а і рад іншых газет.

Вельмі абмежавана тэматыка газет, кола пытанняў, якія закранаюцца ў газетах. Рэдакцыі не прыцягваюць да ўдзелу ў газеце значных культурных сіл, якія ёсць у раённым цэнтры (райпартактыў, аграномаў, урачоў, выкладчыкаў). Не ўсе газеты рэгулярна даюць замежную інфармацыю, інфармацыю аб выдатных падзеях па СССР і БССР. Няма накуль што на старонках газет водзываў аб кнігах, аб кінопастаноўках і т. д. А гэтага-ж патрабуе зараз наш масавы чытач, які культурна надзвычай вырас за апошнія гады.

Усё яшчэ слаба масава-выхаваўчая работа з рабселькорамі. Толькі гэтым можна тлумачыць, напрыклад, такі факт, калі ў адным нумары дзяржынскай палітаддзельскай газеты ад 28 снежня мы знайшлі такія подпісы: «Калгаснік», «Калючы», «Тутэйшы», «Сусед», «Чатыры подпісы», «Два подпісы». Жывых людзей не відаць на старонках газеты.

Можна прывесці нямала фактаў палітычна нячоткага афармлення матэрыялаў у газетах.

У **дрысенскай** палітаддзельскай газеце ў артыкуле «Вывесці калгас «Новая ніва» з адстаючых у перадавыя» ёсць такі сказ:

**«Кожны свядомы калгаснік, які хварэе за калгасную справу, які лічыць агульнакалгасную справу вышэй сваіх асабістых шкурніцкіх інтарэсаў абавязан змагацца...».**

Безумоўна правільна, што грамадскія інтарэсы павінны стаяць вышэй асабістых, але мы супроць таго, каб асабістыя інтарэсы калгасніка газета кваліфікавала як шкурніцкія. Трэба было сказаць, што грамадскія інтарэсы неабходна спалучаць з асабістымі інтарэсамі калгасніка.

Пры чытанні газет, дзе працуюць завочнікі, выявілася шмат іншых фактаў неахайнага літаратурнага і палітычнага афармлення газет. Асабліва небяспечным участкам з'яўляецца мова газет.

Шмат яшчэ шаблону, трафарэту.

Некаторыя газеты імкнуцца пісаць больш жывой мовай, але дапускаюць пры гэтым моманты апашлення, вульгарызацыі мовы.

Вось, напрыклад, загаловак у чашніцкай райгазеце:

**«Заганяюць у бутылку фонд сцімуліравання».**

Дрысенская палітаддзельская газета ўжывае такія словы: «калупаюцца», «слюні распусцілі». Расонская райгазета піша: «Запраўдышны большэвік» (замест сапраўдны большэвік). Сустракаюцца ў газеце незразумелыя, зусім заблытаныя фразы.

І ў раённых і ў палітаддзельскіх газетах сустракаецца шмат іншамоўных слоў, якія не растлумачваюцца чытачу. Вось словы, якімі стракацяць рагачоўская райгазета: «эмігрант», «эксперыменты», «эстакада». Лепельская райгазета піша: «Каланіяльная эксплаатацыя жанчын» (16-XI), «Абмен ратыфікацый нымі граматамі паміж Францыяй і Савецкім Саюзам» (23-XII). Чэрыкаўская райгазета: «фарпост», «гегемон», «пейзаж», «мізернае», «рэльефна» і т. д.

Мы ўжо тут не спыняемся на мностве памылак, якія сведчаць аб самай элементарнай няграматнасці газет, аб мностве карэктарскіх памылак, якія скажаюць сэнс газетнага матэрыялу.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што газетны работнік павінен упарта вучыцца, каб быць здольным рабіць палітычна-завостраную і разам з тым культурную, граматную газету.

Састаўной часткай вучэбна-выхаваўчай работы на канферэнцыі з'явіліся культпаходы ў тэатры і кіно на пастаноўкі «Мост», «Канец дружбы» і кінофільмы: «Чапаеў», «Вясёлыя рэбяты» і «Гібель эскадры», экскурсіі на завод імя Кірава, а таксама **сустрэча з рэдакцыяй журнала «Большэвіцкі друк».**

У гутарцы з загадчыкам аддзела культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б тав. **Конікам** (з удзелам прадстаўнікоў цэнтральнага друку) завочнікі атрымалі рад выключна важных указанняў прынцыпова-палітычнага характару для сваёй далейшай газетнай работы і вучобы.

У часе гутаркі з тав. Конікам і на сустрэчы з рэдакцыяй журнала «Большэвіцкі друк» асобныя таварышы скардзіліся: «Чаму не давалі агляду па маёй газеце». Гэтым таварышам зусім правільна адказвалі другія: вучыцца можна і патрэбна не толькі на аглядах сваёй газеты, але і на іншых аглядах у журнале, дзе адзначаюцца тыповыя недахопы раду газет, на ўсіх матэрыялах, змяшчаемых у журнале.

Але нямала было зусім правільных заўваг і прапаноў адносна работы журнала «Большэвіцкі друк».

Вось што гаварылі таварышы.

Журнал павінен больш поўна, канкрэтна, нястомна вучыць, як трэба рабіць партыйную, палітычна-завостраную большэвіцка-прынцыповую газету.

Даваць больш часта разгорнуты паказ дадатнага вопыта работы газет.

Журнал звычайна крытыкуе толькі рэдактароў, часта забывае пра сярэдняе звяно работнікаў газет—сакратароў, загадчыкаў аддзелаў і іншых работнікаў. А аб іх рабоце трэба ставіць пытанне на старонках журнала. Трэба вывучаць вопыт правільнай расстаноўкі сіл і арганізацыі работы рэдакцый раённых газет.

Журнал павінен своечасова змяшчаць на сваіх старонках інструктаж, парады, як лепш арганізаваць у газеце пастаноўку пытанняў, якія вынікаюць з пастаноў партыйных пленумаў, канферэнцый, кіруючых органаў партыі, як лепш арганізаваць выпуск нумара газеты да ленінскіх дзён, гадавіны Чырвонай арміі, да 1 мая, Окцябрскай рэволюцыі.

Асвятленне гэтых пытанняў кожная газета праводзіць як уздумаецца рэдактару (так было ў асобных газетах з асвятленнем XVII з'езда партыі). На падставе лепшага вопыта адных газет журнал павінен вучыць усе астатнія газеты.

Урэшце, усе таварышы аднадушна падкрэслівалі неабходнасць узмацнення аддзела «Вучоба рэдактара», устанаўлення большай сувязі паміж завочным КІЖ'ам і рэдакцыяй журнала, даваць на старонках журнала вучэбны матэрыял, кансультацыі, паказваць ход спаборніцтва на лепшую завочную вучобу і т. д.

Вельмі патрэбна ўвесці аддзел бібліяграфіі («кніжная паліца»), дзе даваць водгукі на кнігі, якія могуць быць скарыстаны для вучобы газетных работнікаў.

На сходзе, дзе падводзілі вынікі канферэнцыі, завочнікі адзначылі, што канферэнцыя дала ім надзвычай многа для далейшай самастойнай вучобы. «Мы ўбачылі самі сябе, як мы яшчэ адстаем ад сучасных патрабаванняў партыі да газет і газетных работнікаў, як мы адстаем, асабліва па ўчастку мовы». Гэта канферэнцыя з'явілася добрай праверкай ведаў завочнікаў. Вялікае значэнне канферэнцыі як трыбуны для абмену вопытам работы. «Мы на канферэнцыі даведаліся, у чым нашы галоўныя недахопы, якім чынам трэба палепшыць змест сваёй газеты і оргмасавую работу з рабселькорамі».

Усе завочнікі добра сабе ўяўляюць, што канферэнцыя — гэта вялікі штуршок, але толькі штуршок для далейшай паглыбленай самастойнай работы. Завочнікі заключылі паміж сабой соцыялістычныя дагавары, узялі на сябе рад канкрэтных абавязацельстваў па ўзняццю свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню.

У святле вынікаў канферэнцыі больш ярка вырысоўваюцца чарговыя задачы завочнага сектара КІЖ'а.

Трэба арганізаваць вярбоўку завочнікаў у раёнах, якія дагэтуль не ахоплены завочным навучаннем. А такіх раёнаў яшчэ даволі многа. Трэба пашырыць праграму завочнага навучання і ўключыць у яе такія дысцыпліны, як дыялектычны матэрыялізм, гісторыя партыі, палітэканомія, эканамічная і палітычная геаграфія. Аб неабходнасці такога пашырэння праграмы настойліва паставілі пытанне самі завочнікі.

Прыдзецца значна ўзняць вучэбную дысцыпліну па выкананню заданняў, арганізаваць жывы кантроль і праверку работ завочнікаў шляхам перыядычных аглядаў газет завочнікаў, групавых выклікаў і рэгулярнага склікання падагульняючых канферэнцый (раз у паўгода).

Для паляпшэння сувязі завочнікаў з КІЖ'ам трэба прыступіць к выданню спецыяльнай газеты завочнікаў КІЖ'а —на першых парах адзін раз у месяц. Вельмі важна таксама, каб завочнікі ўзмацнілі сувязь з журналам «Большэвіцкі друк», ставячы перад ім і завочным КІЖ'ам усе пытанні, якія ўзнікаюць у іх у працэсе практычнай работы.

Вышэй узняць большэвіцкую пільнасць ва ўсёй рабоце, ставіць у газеце пытанні больш палітычна-завострана, працаваць лепш, удумлівей, культурней рабіць газету—вось як, прыехаўшы на месцы, павінны разгарнуць сваю работу завочнікі КІЖ'а імя Кірава.

З новымі сіламі за работу, за большэвіцкую вучобу!

Агляд друку

# Урокі мінулага года не улічаны

### «Барацьбіт за калектывізацыю»

Вясной мінулага года за маруднае правядзенне сяўбы Плешчаніцкі раён быў занесен рэспубліканскай камісіяй па спаборніцтву па чорную дошку. Гэта ганебная пляма ляжала на раёне не толькі з прычыны неаператыўнай, дрэннай работы раённых арганізацый, а і па віне раённай газеты **«Барацьбіт за калектывізацыю»,** якая амаль зусім не займалася падрыхтоўкай да сяўбы, дрэнна асвятляла самы яе ход. Газета толькі тады пачала заклікаць зняць раён з чорнай дошкі, калі большасць раёнаў ужо скончыла сяўбу.

Ці ўлічыла газета гэтыя памылкі? Як яна змагаецца за падрыхтоўку да веснавой сяўбы бягучага года?

У Плешчаніцкім раёне і ў гэтым годзе падрыхтоўка да сяўбы праходзіць нездавальняюча. Каб не быць галаслоўнымі, прывядзем некалькі лічбаў. На 20 студзеня план засыпкі насенных фондаў выканан толькі на 92,2 проц., плугоў адрамантавана каля паловы, сявялак — адна трэць, калёсы толькі пачынаюць рамантаваць. План рамонту трактароў па МТС на 25 студзеня выканан усяго на 76,2 проц. і т. д.

А ў рэдакцыі «Барацьбіта за калектывізацыю», як і ў мінулым годзе, панує алімпійскі спакой. Толькі ў нумары за 26 снежня ў першы раз даецца адна карэспандэнцыя пад загалоўкам: **«Засыпка насення не рушымая запаведзь».**

Ужо к першай заметцы аб веснавой сяўбе даецца такі нячоткі, няправільны загаловак, як быццам рэдакцыя вельмі многа займалася гэтым пытаннем і ўжо выдахлася. Што азначае, тав. **Кучынскі,** «Засыпка насення не рушымая запаведзь»?

Але гэта яшчэ поўбяды. Галоўнае ў тым, што рэдакцыя раіць такую перадышку, якую яна зрабіла для сябе, зрабіць калгасам.

**«Пачнуся зімовы перыяд,**—гаворыцца ў карэспандэнцыі,—**калі калгаснікі вучачыся і АДПАЧЫВАЯ** (і аб праматнасці трэба падумаць, тав. Кучынскі. — **Рэд. «Б. Д.») набіраюць сіл для таго, каб 1935 г. зрабіць годам рэкордных ураджаяў».**

Незразумела, як гэта «адпачываючы» можна дабіцца «рэкордных ураджаяў». Гэта толькі ў казках, т. Кучынскі, ёсць рэкі з кісельнымі берагамі, «абрусы-самабранкі» і інш., і можна нічога не рабіць, адпачываць, па-ранейшаму, і ўсім карыстацца.

Партыя змагаецца з работай рыўкамі, з рознымі перадышкамі, за планавую работу, а «Барацьбіт за калектывізацыю» раіць у зімовы перыяд зрабіць адпачынак, зрабіць перадышку. Такая «ўстаноўка» ёсць грубая палітычная памылка.

Вышэй ужо ўпаміналася, што ў Плешчаніцкім раёне яшчэ не засыпаны насенныя фонды. Замест таго, каб выкрыць прычыны гэтага, арганізаваць абмен насення паміж калгасамі, выявіўшы, якія калгасы маюць лішкі насення, у якіх калгасах не хапае асобных культур, выявіць калгасы, у якіх насенне непрыгоднае для пасеву, — «Барацьбіт за калектывізацыю» ў нумары за 9 студзеня піша (у трэцяй па ліку заметцы аб падрыхтоўцы да веснавой сяўбы):

> **«Большасць калгасаў нашага раёна ўжо скончылі стварэнне насенных і страхавых фондаў».**

і, лічачы, што з насеннем пакончана, газета ставіць на гэтым кропку, гаворачы:

> **«А вось аб рамонце інвентара ў радзе калгасаў нашага раёна забыліся».**

І так з насеннем пакончана. Раз «большасць калгасаў» засыпалі насенне, то хіба варта займацца меншасцю калгасаў, якая яшчэ насення не засыпала? Так «Барацьбіт за калектывізацыю» «змагаецца» за важнейшую ўмову паспяховага правядзення веснавой

сяўбы — засыпку насенных фондаў.

Не лепш газета займаецца і другімі галінамі падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

У Ганцаўскі сельсовет быў паслан работнік рэдакцыі тав. **Клімовіч,** каб дасканала абследаваць, як калгасы рыхтуюцца да веснавой сяўбы. 29 снежня ў газеце даецца яго матэрыял на трох калонках. І ўсё-ж у такім шырок'м матэрыяле, прэтэндуючым на ўсебаковае асвятленне становішча падрыхтоўкі да веснавой сяўбы калгасаў Ганцаўскага сельсовета, упушчана такая «дробязь», як падрыхтоўка каня да сяўбы. Калі-б рэдакцыя разумела ролю каня ў правядзенні веснавой сяўбы, яна-б паказала лепшых конюхаў, праверыла-б, каму ў радзе калгасаў даручан догляд каня. І гэта тым лягчэй было зрабіць, калі рэдакцыя паслала на месца свайго работніка.

І яшчэ адну заўвагу мы павінны зрабіць аб гэтай карэспандэнцыі. Праверка падрыхтоўкі да веснавой сяўбы тады будзе поўнай, усебаковай, калі ў яе ўцягнуты шырокія масы. Трэба было і ў Ганцаўскім сельсовеце арганізаваць рэйд праверкі, уцягнуць у яго лепшых калгаснікаў-ударнікаў, тады-б не былі ўпушчаны такія «дробязі», як конь, землеўпарадкаванне калгасаў у сувязі з новым прылівам і т. д. Але гэта не было зроблена. Матэрыял быў напісан толькі т. Кл'мовічам.

Калі рэдакцыя забывае пра каня, то можа яна займаецца рамонтам інвентару? Не! Пра рамонт трактароў «Барацьбіт за калектывізацыю» таксама не дае ні слова, хоць план рамонту выканан усяго на 52,3 процанты.

Плешчаніцкі раён адставаў у веснавую сяўбу мінулага года. Ён не павінен адставаць у бягучым годзе. «Барацьбіт за калектывізацыю», улічыўшы і свае і ўсяго раёна ўрокі мінулага года, раскрытыкаваўшы іх на сваіх старонках, выправіўшы допушчаныя памылкі, павінен дабіцца, каб Плешчаніцкі раён з адстаючых выйшаў за гэту зіму і вясну ў перадавыя.

А гэтага можна дабіцца толькі арганізаваўшы своечасовую падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы.



# НЕ ТОЙ МОВАЙ

## „ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ"

Орган Сіроцінскага РК КП(б)Б, РВК і РПС

Гутарка будзе пра **сіроцінскую** раённую газету **«Ленінскі шлях»**.

Пачынаючы з першага студзеньскага нумара, у сіроцінскай газеце друкуюцца матэрыялы, у якіх асвятляецца культурнае жыццё раёна, ставіцца рад важных пытанняў культурна-бытавога абслугоўвання працоўных.

Што можна сказаць супроць гэтага пачынання газеты? Безумоўна, вельмі добрая, карысная справа. Трэба толькі вітаць ініцыятыву газеты, тым больш, што да гэтага часу пытаннямі культуры і быту газета «Ленінскі шлях» не займалася.

Але вітаць пачакаем. Спачатку азнаёмімся са зместам артыкулаў «Ленінскага шляху».

Пачнем з артыкула «Куды пайсці?», падпісанага, да рэчы, часова выконваючым абавязкі рэдактара т. **Галаўнёвым.** Трэба прымусіць сябе да канца прачытаць гэты бязграматны артыкул. Нас перш за ўсё цікавіць яго змест. Артыкул прысвечан стану работы культурна-масавых установ раёна. Аўтар, выкрываючы вельмі дрэнную работу гэтых установ, робіць правільны вывад, што рабочаму, калгасніку, служачаму пасля работы няма куды пайсці, няма дзе культурна правесці свой вольны час. Не хочучы быць галаслоўным, т. Галаўнёў далей адразу прыступае да канкрэтных вінаватых. Гнеў свой выконваючы абавязкі рэдактара «Ленінскага шляха» накіроўвае на настаўнікаў і спецыялістаў раёна.

Вось радкі з артыкула, як'мі аўтар, відаць, хацеў пасароміць спецыялістаў і зацікавіць іх грамадскай работай:

**«Нам здаецца, што ў ветфельчара ці сан. урача жывот не забалеў-бы, калі-б яны перыядычна праводзілі ў калгасах гутаркі».**

Падобныя радкі, ад якіх нясе нікчэмнай пошласцю, сустракаюцца ў артыкуле «Куды пайсці?» амаль у кожным абзацы.

Крыху ніжэй аўтар гаворыць аб не-



паторых раённых работніках так:

**«Загадчык раёна Васкабовіч, загадчык райза Бабкоў... да запатрабаванняў калгаснікаў зрабіліся глухаватымі (маецца і такая хвароба)... і як толькі не сорамна ім паказвацца на вочы мас?»**

Некалькі радкоў у артыкуле прысвячаецца і жыхарам мястэчка Шуміліна. Тут аўтар уваходзіць у асаблівы смак:

**«Вось, к прыкладу скажам, Вы, адзін з 1000 жыхароў мястэчка з'явіліся з работы ў 6-7 гадзін вечара, першай справай вы пасля абеда адпускаеце поўгадзіны на тое, каб гэта самае роўнамерна абцякло скажам сала».**

Далей у такім-жа тоне аўтар падае нейкую бязглуздзіцу пра машыніста электрастанцыі Станіслава, які заснуў каля машыны «па выпадку перагрузкі «градусаў». Гэты «фігурны» вобраз, мусіць, азначае, што машыніст прышоў на работу п'яным. Але ў артыкуле не прыводзіцца ніякіх фактаў, якімі-б даказвалася гэта абвінавачанне.

У нумары за 11 студзеня надрукован чарговы артыкул на культурна-бытавую тэму пад назвай «Дзіўная бестурботнасць». У артыкуле аўтар т. Ганчароў імкнуўся выкрыць недахопы шуміліанскай амбулаторыі. Артыкул адзначаецца надзвычайнай бязграматнасцю. Напісан ён, так сказаць, з прэтэнзіяй на фельетон. Але гэта форма газетнага матэрыялу аказалася яўна не па плячу т. Ганчарову. Аўтар у пагоні за «фельетонным стылем» дапусціў у артыкуле многа незразумелых і нават не маючых ніякага сэнсу месц. Вось адно з іх:

**«За некалькі гадовую сваю практыку ў паасобных з гэтых людзей выработаўся звычай у рабоце, як гэта ёсць пагаворка: «з точнасцю, як у аптэцы». Карацей кажучы тут такая точнасць адсутнічае, але раз тут адсутнічае, дык у другіх выпадках гэта прадугледжана з поўнай точнасцю.. Разыходжанне можа і бывае на некалькі мінут».**

Да сэнсу гэтай вытрымкі так і нельга дабрацца. У такім тоне напісан і ўвесь артыкул.

Сказанае можна паўтарыць і пра некалькі другіх артыкулаў з першых студзеньскіх нумароў газеты «Ленінскі шлях» («Неадкладна ачысціць сталовую») і інш.

Рэдакцыя сіроцінскай газеты зусім не звярачае ўвагі на стылістычную апрацоўку і граматнасць матэрыялаў. Рэдакцыя не змагаецца за зразумеласць, за прастату і завостранасць мовы газеты. У выніку газета часта збіваецца на непартыйны, мяшчанска-пошлы тон.

# ПРА ШКОДНІКАЎ НА СВІНАФЕРМЕ І ДАЛІКАТНАГА РЭДАКТАРА

## УДАРНІК СОЎГАСА

Мы атрымалі нумар за 19 снежня газеты **«Ўдарнік соўгаса»** (соўгас **«Кухцічы»,** Уздзенскага раёна). Мяркуючы па матэрыялах, надрукаваных у гэтым нумары, становішча спраў на соўгаснай свінаферме вельмі дрэннае: другі месяц ідзе масавы адыход парасят і дарослых свіней. Пазіцыя-ж, якую заняла газета ў гэтым пытанні, выклікае больш чым простае здзіўленне.

Вось што піша «Ўдарнік соўгаса» пра работу брыгад Даманеўскай і Францкевіча:

**«У лістападзе брыгада Даманеўскай угробіла 40 парасят. Здавалася-б, што такая нездавальняючая работа другой брыгады павінна была прымусіць Даманеўскую пераключыцца і пачаць лепш працаваць. Але не. Яна, бачыце, супакоілася тым, што першая брыгада Францкевіча работала яшчэ горш. Там пала за лістапад 78 парасят».**

Так было ў лістападзе. У снежні становішча яшчэ пагоршылася: толькі за 10 дзён снежня ў брыгадзе Даманеўскай загінула 32 парасят.

Факты гавораць самі за сябе. У брыгадах Даманеўскай і Францкевіча шкоднікі знішчаюць маладняк. Толькі шкод-

ніцтва магло прывесці да такога вялікага адыходу парасят у гэтых брыгадах.

Рэдактар-жа «Ударніка соўгаса» тав. **Кацман** мае на гэта некалькі іншы погляд. Па яго думцы, тое, што парасяты дохнуць дзесяткамі на працягу дэкады, толькі рэзультат... нездавальняючай работы брыгад. Вось які вывад робіць газета пасля паведамлення аб масавым адыходзе парасят:

**«Мы патрабуем ад брыгадзіра Даманеўскай сапраўднай работы, каб знішчыць адыход».**

Шкоднікі са свінафермы соўгаса «Кухцічы» не могуць паскардзіцца на соўгасную газету. Наадварот, яны вельмі ёю задаволены. Яны знішчаюць маладняк, а газета ад іх патрабуе толькі «сапраўднай работы». Няма чаго сказаць, вельмі далікатна адносіцца рэдактар Кацман да шкоднікаў.

Ёсць у соўгасе «Кухцічы» ізалятар для заразна-хворай жывёлы. Гэты ізалятар не ізалюе хворую жывёлу ад здаровай, а распаўсюджвае хваробу: хворыя і здаровыя свінні стаяць у ізалятары разам. У адным з папярэдніх нумароў «Ударніка соўгаса» была надрукавана заметка, выкрываючая шкодніцтва ветэрынарнага персанала ізалятара. У разглядаемым нумары газеты таксама ёсць матэрыял пра ізалятар. «Ізалятар, як быў магільшчыкам свіней, так і застаўся»—вымушана заявіць газета.

Далей з матэрыялу гэтага-ж нумара даведваемся, што станам ізалятара займалася спецыяльная камісія. Надрукавана і пастанова гэтай камісіі. Камісія прызнала правільнай крытыку работы ізалятара і парашыла справу аб ветурачу Грунтаву перадаць на разгляд... секцыі інжынерна-тэхнічных работнікаў для «выяснення арганізацыйных узысканняў».

Гэты факт пралівае святло на ўсю сістэму барацьбы са шкодніцтвам у соўгасе «Кухцічы». Замест неадкладнага прыцягнення шкоднікаў да судовай адказнасці галавацяпы з кіраўніцтва соўгаса ствараюць камісію, камісія перадае справу ў секцыю інжынерна-тэхнічных работнікаў, секцыя ІТР, відаць, перадасць справу яшчэ куды-небудзь.

Газета-ж «Ударнік соўгаса» не знаходзіць больш моцных слоў для шкоднікаў, чым далікатныя заклікі «лепш працаваць», «дабіцца сапраўднай работы».




Памятнік Чапаеву ў Самары.

## АРТЫКУЛЫ

★ ★ ★

Н. СЫРЭЦ

# НЕ АСЛАБЛЯЦЬ ПАДРЫХТОЎКІ К З'ЕЗДУ РАБСЕЛЬКОРАЎ

Падрыхтоўка к 3-му ўсебеларускаму з'езду рабселькораў пачалася ў раёнах з другой паловы ліпеня, пасля апублікавання пастановы бюро ЦК КП(б)Б аб склікашні з'езда.

За гэты перыяд у пераважнай большасці раёнаў з рабселькорамі і рэдкалегіямі насценгазет праведзена вялікая работа. У рэзультаце гэтай работы значна павысілася актыўнасць рабселькораў і нізавога друку ў барацьбе за выкананне гістарычных рашэнняў XVII з'езда ВКП(б), за паспяховае правядзенне раду выключна адказных гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы — мерапрыемстваў па паспяховаму завяршэнню 1934 гаспадарчага года.

Справе падрыхтоўкі к рабселькораўскаму з'езду частка партарганізацый і рэдакцый газет надалі выключна вялікую ўвагу. Возьмем хоць-бы фабрыку **«Сцяг індустрыялізацыі»** ў Віцебску. Дзякуючы штодзеннай увазе парткома, усёй партарганізацыі фабрыкі, падрыхтоўка к рабселькораўскаму з'езду стала на фабрыцы справай не толькі ўсіх рабкораў, але і ўсіх рабочых. Аб надыходзячым з'ездзе ведае і рыхтуецца к яму ўвесь рабочы калектыў. За час падрыхтоўкі к з'езду непараўнаўча палепшылася работа цэхавых і брыгадных насценгазет, створаны новыя насценгазеты, павялічыўся лік рабкораў, палепшылася вучоба рабкораў і членаў рэдкалегій насценгазет. Цяпер партыйны камітэт фабрыкі рашыў стварыць на фабрыцы пастаянную вячэрнюю школу для рабкораў.

Многа прыкладаў узмацнення работы рабселькораў і насценгазет у сувязі з падрыхтоўкай к з'езду ёсць і ў калгасах. Адзін з прыкладаў — работа селькораў калгаса **«Чырвоны сцяг», Чэрвеньскага раёна.** Тут усе селькоры з'яўляюцца лепшымі ўдарнікамі, паказваюць усім калгаснікам прыклад высокасвядомых адносін да работы ў калгасе, прыклад соцыялістычных адносін да грамадскай маемасці.

Такіх прадпрыемстваў, як «Сцяг індустрыялізацыі» і такіх калгасаў, як «Чырвоны сцяг» можна налічыць сотні.

ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове ад 15 снежня адзначыў, што «ў большасці раёнаў БССР значна палепшылася арганізацыйна-масавая работа з рабселькорамі, значна ўзрасла палітычная актыўнасць рабселькораў у барацьбе за паспяховае завяршэнне 1934 гаспадарчага года».

Гэта, аднак, не дае партарганізацыям і рэдакцыям газет ніякага права аслабляць работу з рабселькорамі, бо тут зроблена яшчэ далёка не ўсё. У той-жа пастанове ЦК КП(б)Б вельмі своечасова і правільна адзначае, што «сур'ёзная штодзенная вучоба рабселькораў у гуртках і семінарах, вылучэнне рабселькораў на адказную совецкую, газетную і іншыя работы, своечасовае рэагаванне на пісьмы і карэспандэнцыі рабселькораў і штодзеннае жывое кіраўніцтва насцендрукам у радзе раёнаў пастаўлена нездавальняюча».

Штодзенна і глыбока вучыць рабселькораў, лепшых праверaных рабселькораў смела вылучаць на адказную работу ў рэдакцыі газет, своечасова рэагаваць на кожнае рабселькораўскае пісьмо, зрабіць кіраўніцтва рабселькорамі жывым, дзейсным, канкрэтным, прыстасаваным да кожнага асобнага прадпрыемства, калгаса — вось задачы, якія ЦК паставіў перад кожнай партарганізацыяй, перад кожнай газетай.

Не трэба доўга шукаць фактаў, якія пацвярджаюць, як дрэнна яшчэ боль-

шасць нашых партарганізацый і асабліва рэдакцый газет выконваюць гэтыя задачы. Не будзем успамінаць тых рэдакцый газет, факты аб надзвычайна дрэннай рабоце якіх з рабселькорамі апублікоўваліся у «Большэвіцкім друку» (увараўіцкі «Калектывіст», «За пролетарскія кадры» і інш.). Возьмем газеты Уздзенскага, Мсціслаўскага, Суражскага раёнаў.

У гэтых раёнах не праводзіцца амаль ніякай работы з рабселькорамі. Зусім бяздзейнічаюць у гэтай важнейшай справе і рэдакцыі раённых газет.

Рэдактар мсціслаўскай раённай газеты т. **Барыскін** і суражскай — т. **Баранаў** прабуюць апраўдаць сваю бяздзейнасць тым, што «заняты другімі, не менш важнымі работамі». Ніхто не адмаўляе, што рэдакцыі раённых газет загружаны многімі важнымі і адказнымі справамі. Але ці можна прыняць у разлік паданыя словы рэдактароў мсціслаўскай і суражскай раённых газет? Ні ў якім разе. **Падрыхтоўка к рабселькораўскаму з'езду не ёсць нешта адарванае ад чарговых задач партыі, яе трэба праводзіць, цесна ўвязваючы з гэтымі задачамі, уздымаючы актыўнасць рабселькораў на выкананне гэтых задач.**

Таму нежаданне рэдактароў мсціслаўскай і суражскай газет весці падрыхтоўку к з'езду рабселькораў ёсць простае ігнараванне імі важнейшых указанняў партыі. Толькі так трэба ацаніць паводзіны т.т. Барыскіна і Баранава.

Аслабленне падрыхтоўкі к з'езду рабселькораў мае месца не толькі ва ўказаных раёнах, а і ў радзе іншых. Трэба напомніць рэдактарам газет гэтых раёнаў аб тым, што ЦК КП(б)Б у той-жа пастанове ад 15 снежня патрабуе «яшчэ больш мабілізаваць рабселькораў і нізавы друк на паспяховае правядзенне ўсіх гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў 1935 года». Гэта значыць, што ніякага аслаблення работы з рабселькорамі дапусціць нельга, што трэба з дня ў дзень узмацняць гэту работу, узмацняць барацьбу рабселькораў за велізарнейшыя задачы, якія стаяць перад намі ў бягучым годзе.

**З 15 студзеня па 15 лютага па ўсёй БССР праводзяцца перавыбары рэдкалегій насценгазет.** Перавыбары рэдкалегій з'яўляюцца цяпер адным з важнейшых мерапрыемстваў у падрыхтоўцы к з'езду рабселькораў. Не гледзячы на гэта, ужо ёсць сігналы з раду раёнаў аб слабай увазе гэтай справе з боку райкомаў партыі і рэдакцый раённых газет. З дня атрымання дырэктывы аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б ужо прайшло больш 10 дзён, а рэдктары мсціслаўскай, бялыніцкай і раду іншых раённых газет яшчэ і не думалі прыступаць да справы.

Аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б у сваім дырэктыўным пісьме аб перавыбарах рэдкалегій ясна і выразна ўказаў, што неабходна «забяспечыць кіраўніцтва гэтай работай і практычны ўдзел у ёй кожнай нізавой партарганізацыі і кожнага комуніста».

Гэта неабходна імення таму, каб забяспечыць шырокую масавасць справаздач і перавыбараў рэдкалегій, каб забяспечыць выбары ў рэдкалегіі ўсебакова правераных на практычнай рабоце рабселькораў-ударнікаў, каб забяспечыць добрую пастаноўку вучобы рабселькораў і членаў рэдкалегій насценгазет.

Перавыбары рэдкалегій павінны ўзняць вышэй боездольнасць нашага нізавога друку ў выкананні ўсіх задач, пастаўленых партыяй. Яны павінны таксама забяспечыць хуткую і вычарпальную дзейнасць кожнага рабселькораўскага пісьма, кожнага сігнала насценгазет.

Вось чаму трэба цяпер-жа рашуча папярэдзіць усе рэдакцыі газет аб тым, што **ні ў якім разе нельга звесці кампанію перавыбараў рэдкалегій к фармальным перавыбарам без шырокай масавай работы, без арганізацыі вучобы рабселькораў.**

Перавыбары рэдкалегій павінны прайсці пры высокай актыўнасці рабселькораў і пры ўдзеле самых шырокіх мас працоўных горада і вёскі.

Аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б, выходзячы з гэтага, прапануе яшчэ да перавыбарчых сходаў стварыць **самаправерачныя брыгады** па праверцы работы кожнай насценгазеты. У брыгады трэба ўцягнуць не толькі лепшых рабселькораў, але і лепшых рабочых, калгаснікаў, профсаюзны і грамадскі актыў.

Да перавыбарчага схода брыгада па-

віна ўсебакова праверыць, вывучыць работу насценгазеты, выкрыць недахопы. На самым перавыбарчым сходзе члены самаправерачнай брыгады павінны выступіць з садакладам, расказаць аб выяўленых недахопах у рабоце насценгазеты і гэтым самым вучыць рэдкалегію, як лепш паставіць работу.

Такава адказнейшая задача самаправерачных брыгад. Таму асабліва вялікая ўвага павінна быць звернута на склад брыгад, на падбор моцнага кіраўніка брыгады.

Выключна важная задача кампаніі перавыбараў рэдкалегій заключаецца яшчэ і ў тым, каб дабіцца павелічэння ліку насценгазет, каб арганізаваць насценгазеты ў кожным цэху, калгасе, у кожнай брыгадзе, у якіх насценгазеты дасюль яшчэ не выходзілі, і забяспечыць баявую, палітычна-завостраную іх работу.

Праводзячы перавыбары рэдкалегій, неабходна добра памятаць аб тым, што астаткі недабітых класава-варожых элементаў імкнуцца пралезці ў рэдкалегіі насценгазет для таго, каб прыгупіць гэту магутнейшую зброю партыі, скарыстаць насценныя друк у сваіх інтарэсах. Задача газет заключаецца ў тым, каб **мабілізаваць партарганізацыі, масы сялькораў і ўсіх працоўных на ўзмацненне рэволюцыйнай класавай пільнасці.**

У склад рэдкалегій нізавых насценгазет павінны ўвайсці толькі лепшыя рабсялькоры-ўдарнікі, комуністы, комсамольцы і беспартыйныя, якія дастаткова і ўсебакова правераны на практычнай рабоце.

У заключэнне трэба спыніцца на асвятленні ў раённых газетах ходу перавыбараў рэдкалегій. У радзе раёнаў ужо разгортваецца праверка работы насценгазет і перавыбары. Газеты-ж яшчэ вельмі дрэнна асвятляюць ход перавыбараў. Гэты буйнейшы недахоп трэба зараз-жа выправіць.

Газеты павінны ў кожным нумары адводзіць месца перавыбарам рэдкалегій, паказаць лепшыя рэдкалегіі, лепшых рэдактароў, рабсялькораў, лепшыя партарган'зацыі, лепшых парторгаў, якія ўзорна кіруюць нізавым друкам. Разам з тым нельга замоўчваць недахопы і з усёй сілай трэба бічаваць усё дрэннае, што яшчэ ёсць у рабоце насценгазет, бязлітасна выкрываць ілжэсялькораў, жорстка крытыкаваць тыя партарганізацыі, якія не забяспечваюць кіраўніцтва насценгазетамі і рабсялькорамі.

Шматтысячная армія рабсялькораў Совецкай Беларусі падыходзіць к свайму трэцяму з'езду з велізарнейшымі дасягненнямі. Час, што застаўся да з'езда, трэба поўнасцю выкарыстаць для таго, каб у шмат раз памножыць гэтыя дасягненні.

**Юр. БЕЛЬКО**

# МАГУТНЫ СРОДАК ВЫХАВАННЯ ЛЮДЗЕЙ

Кожны дзень прыносіць усё новыя і новыя весткі аб разгортванні паходу калгаснікаў Совецкай Беларусі за аўладанне лепшымі творамі мастацкай літаратуры. Звыш 500 гурткоў калектыўнага чытання мастацкіх твораў працуюць у нашых калгасах. Лік гурткоў расце з кожным днём.

Некаторыя раённыя і палітаддзельскія газеты друкуюць заметкі аб занятках гурткоў, даюць выступленні калгаснікаў аб прачытаных кнігах, выступленні кіраўнікоў гурткоў. Як ні дрэнна, часта яшчэ падаюцца ў газетах гэтыя матэрыялы, усё-ж яны ярка сведчаць аб адным — аб велізарным культурным росце калгаснага сялянства, аб велізарнай зацікаўленасці калгаснікаў творамі совецкай мастацкай літаратуры.

Аб якіх яркіх, цікавейшых фактах паведамляе наш друк. Газеты пішуць, як часта калгаснікі, сабраўшыся з вечара, слухаюць шолахаўскую **«Паднятую цаліну»** або **«Дрыгву» Я. Коласа** аж да рання. На чыткі мастацкіх твораў прыходзяць дзесяткі калгаснікаў і калгасніц, што і не запісаліся ў гурток. Часта ў такіх выпадках гурток ператвараецца ў многалюдны сход, які пры поўнай цішыні з напружанай увагай слухае чытчыка.

**Літаратурны паход стаў выдатнейшай падзеяй вялікага культурна-палітычнага значэння.** Гэта велізарнейшае значэнне паходу адзначана ў пастановах ЦК КП(б)Б і Менгаркома КП(б)Б, а таксама ў нядаўніх выступленнях у «Звяздзе» раду вядомых рускіх совецкіх пісьменнікаў.

Як-жа праходзіць паход у разрэзе раёнаў? Тут мы маем досыць стракаты малюнак. Побач з такімі раёнамі, як Крычаўскі, Аршанскі, Мазырскі, Барысаўскі і інш., дзе ўжо працуюць дзесяткі гурткоў, ёсць раёны, у якіх не створан яшчэ ні адзін гурток. Такавы Глускі, Парыцкі, Ельскі, Быхаўскі, Талачынскі, Крупскі, Лагойскі і рад іншых раёнаў.

Азнаёміўшыся са становішчам бліжэй, не трудна адказаць на пытанне: чаму ў значнай частцы раёнаў літаратурны паход разгортваецца зусім марудна, або зусім яшчэ не пачаты. Справа ў тым, што партыйнае кіраўніцтва некаторых раёнаў не ўзялося за гэту важнейшую справу, лічыць яе другараднай. Тое-ж самае трэба сказаць і пра газеты гэтых раёнаў.

Поспех літаратурнага паходу ў кожным раёне залежыць ад таго, наколькі раённая партарганізацыя, партыйны друк забяспечаць кіраўніцтва паходам.

У разгортванні літаратурнага паходу нашы газеты могуць і павінны практычна зрабіць, бадай, больш, чым другія раённыя арганізацыі. Справа-ж датычыць чытачоў, перадавых чытачоў, рабселькораў, лепшых людзей нашых калгасаў, якія далучаюцца да вялікай мастацкай літаратуры, становяцца больш культурнымі, больш палітычна развітымі.

Асобныя газеты вельмі добра ўсвядомілі задачы, якія перад імі стаяць у літаратурным паходзе. Да ліку такіх газэт трэба аднесці крычаўскі **«Соцыялістычны шлях»**.

Перш за ўсё трэба адзначыць усебаковасць асвятлення ў газеце літаратурнага паходу. Газета многа месца аддае матэрыялам у дапамогу кіраўнікам гурткоў. У першых студзеньскіх нумарах надрукаваны артыкулы аб «Паднятай цаліне» і «Дрыгве». Побач з гэтым знаходзім у газеце кароткія заметкі, якія азнаямляюць чытача з жыццём пісьменнікаў Шолахава і Коласа. Па пытанню літаратурнага паходу ў газеце надрукован каштоўны канкрэтны артыкул намесніка начальніка палітаддзела МТС тав. **Мацюка:** «Зіму скарыстаем для культурнага і палітычнага развіцця калгаснікаў». Апрача таго ў газеце з нумара ў нумар друкуюцца матэрыялы з калгасаў аб літаратурным паходзе і тут газета ўзяла правільны напрамак.

Разгледзім нумар «Соцыялістычнага шляха» за 12 студзеня. У нумары надрукавана надзвычай цікавая заметка «Чытай далей» кіраўніка гуртка ў калгасе «Чырвоны пахар» тав. **Сапанкевіча.**

**«Я чытаю калгаснікам аповесць Якуба Коласа «Дрыгва», — піша т. Сапанкевіч. Мы ўжо прачыталі большую частку твору і зараз слухачы калгаснікі ўжо маюць дастатковае ўяўленне аб партызанскай барацьбе працоўнага сялянства з бандамі акупантаў-белапалякаў.**

**Уся ўвага слухачоў прыкавана да старога партызана дзеда Талаша і яго сератнікаў Марціна Рыля і ўзводнага Купрэя.**

**Калі мы дайшлі да таго месца ў творы, як «прысяга лапцю», — калгаснікі з захапленнем смяюцца, выяўляючы свае сімпатыі да герояў-партызан выгукамі: «Во, няхай ведаюць паны, чаго варты лапаць працоўнага селяніна».**

**...Калі мы канчаем чытку, то ніхто не паднімаецца з месца, калгаснікі пачынаюць прасіць мяне: «чытай далей».**

Якой мэты дасягае такая заметка ў раённай газеце? Яна ярка перадае ўражанні калгаснікаў ад прачытанага твору Коласа, яна адначасова прыкоўвае цікавасць да аповесці з боку тых кал-

гасцікаў, якія гэтай кнігі яшчэ не чыталі. Заслуга рэдакцыі ў тым, што яна змагла толкова падаць пісьмо кіраўніка гуртка. Падобных-жа выступленняў у газеце ўжо надрукавана больш дзесяці.

Газета займаецца і іншымі пытаннямі, звязанымі з паходам. Яна жорстка раскрытыкавала работу раённай бібліятэкі, друкуе заметкі аб рабоце калгасных бібліятэк. Некалькі заметак прысьвечана памяшканням для правядзення чытак. Газета займаецца і тым, як забяспечаны гурткі газай, і робіць вельмі правільна, бо газа далёка не дробязь у пастаноўцы вячэрніх чытак.

Нельга абмінуць і добрую работу газеты **«За большэвіцкія калгасы»** — палітаддзела Даманавіцкай МТС (Мазыршчына). Газета выходзіць невялічкім фарматам, але яна здолела паказальна паставіць асвятленне літаратурнага паходу, дзякуючы выключнай увазе да апрацоўкі матэрыялаў.

29 снежня газета прысвяціла літаратурнаму паходу адну старонку. На гэтай старонцы рэдакцыя змясціла невялічкую рэдакцыйную заметку аб ходзе паходу ў калгасах МТС, выступленні двух кіраўнікоў гурткоў і чатыры заметкі калгаснікаў.

Матэрыял падан надзвычай умела, ярка і разам з тым сцісла. Асабліва звярачае на сябе ўвагу заметка «Так было і ў нашым калгасе», якую падаем без скарачэнняў.

> **«Чытка кнігі «Паднятая цаліна» нас усіх захапіла», — пішуць калгаснікі калгаса «Рухавік рэволюцыі». Чытаем і часта кажам: «Дык гэта-ж так было і ў нашым калгасе». Вельмі праўдзіва паказан комуніст Дэвыдаў, які змагаўся за большэвіцкі калгас. Верна паказаны і кулакі, якія «ціхай сапай» імкнуліся шкодзіць калгасу «Грэмячы лог».**
>
> **Не мала было іх і ў нас. Вось, напрыклад, Зміцер Лапацін таксама дзейнічаў і ў нашым калгасе. Ён сам «за калгас» і сам-жа ўгаварвае беднякоў выйсці з калгаса. Мы гэтага кулацкага агента выкінулі з калгаса».**

Вельмі добрая, вельмі карысная заметка. У ёй ярка паказана, як праўдзівы мастацкі твор дапамагае калгаснікам распазнаваць ворагаў, завастрае рэволюцыйную пільнасць калгаснікаў.

Кіраўнікі чытак дзеляцца на старонках газеты сваім вопытам, метадамі правядзення чытак. Кіраўнік гуртка тав. **Ягур,** напрыклад, піша:

> **«Работу праводзім такім чынам: чытаем раздзел, абгаварваем. Чытка праходзіць весела. Зацікаўленасць велізарная. Чытаем 2 разы ў тыдзень па 2-3 гадзіны».**

А вось урывак з выступлення чытчыка тав. Дарошка:

> **«Я так працую: калі прыступаем да чыткі, я і некаторыя калгаснікі коратка перадаем змест папярэдніх раздзелаў. Да гэтага часу мы мала абгаварвалі прачытаны матэрыял. Зараз я больш увагі ўдзяляю абгаварэнню прачытанага».**

Такія заметкі чытчыкаў карысны тым, што перадаюць вопыт пастаноўкі работы гурткоў. Гэта вельмі важна, асабліва цяпер, калі з кожным днём у калгасах ствараюцца ўсё новыя і новыя гурткі.

Газета Даманавіцкай МТС разам з палітаддзелам паказвае таксама ўзор і арганізацыйнай работы па паходу. 29-га снежня газета, напрыклад, паведамляе аб правядзенні **злёта** калгаснікаў, праслухаўшых ці прачытаўшых «Паднятую цаліну». У радзе калгасаў, калі канчаюць чытаць, праводзяцца **канферэнцыі** па «Паднятай цаліне».

Прыклад газет «Соцыялістычны шлях» і «За большэвіцкія калгасы» гаворыць аб тым, што можа зрабіць газета ў справе літаратурнага паходу, калі яна па-сапраўднаму ўзялася за справу.

⁂

Некалькі слоў **аб недахопах у асвятленні паходу** нашымі газетамі.

Дасюль газеты не паднялі як належыць пытання аб разгортванні індывідуальнага чытання кніжак калгаснікамі, не займаюцца тым, што калгаснік чытае дома, дзе ён дастае кнігі, ці можа дастаць патрэбную кнігу.

Трэба памятаць, што гурткі **калектыўнага чытання не ёсць самамэта, а толькі магутны сродак прасоўвання мастацкай літаратуры ў гушчы калгаснікаў.** Аб добрай ці дрэннай рабоце гуртка будзе гаварыць тое, як калгаснікі данага калгаса самастойна будуць чытаць літаратуру. Азнаёміць калгаснікаў з некаторымі лепшымі творамі мастацкай літаратуры, гэтым самым заахвоціць іх самастойным чытаннем не толькі сучаснай, але і класічнай літаратуры — такава задача гуртка.

Гэта галоўная задача літаратурнага паходу яшчэ вельмі дрэнна адбіваецца нашым друкам.

Газеты не заўсёды сярод удзельнікаў чытак бачаць **канкрэтных калгаснікаў.** Газеты пішуць больш аб тым, якое ўражанне зрабіў прачытаны твор на ўсіх слухачоў, але мала займаюцца асобнымі слухачамі-калгаснікамі.

Таму вельмі пачэсная задача газет цяпер у тым, каб дайсці да **канкрэтнага калгасніка-слухача.** Трэба таксама ярка, як некаторыя газеты апісваюць работу гурткоў, паказаць канкрэтных калгаснікаў, расказаць, як, якія кнігі самастойна чытаюць гэтыя калгаснікі, апісаць, якія кнігі яны набылі, дзе набылі і даць слова калгаснікам аб прачытаных імі кнігах.

Газеты выпускаюць з-пад увагі і яшчэ некаторыя пытанні, звязаныя з літаратурным паходам. Ні адна газета, за выключэннем адзінак, не заняласся яшчэ, напрыклад, тым, як прасоўваюцца ў раёны і непасрэдна ў калгасы, у гурткі кнігі («Маці» і «Паднятая цаліна»), выданыя нядаўна ў лік кніг літаратурнага мінімума. Гэтай важнай справай павінны неадкладна заняцца ўсе раённыя і палітаддзельскія газеты.

Вельмі малая колькасць газет цікавяцца работай хат-чытален, дамоў сацыялістычнай культуры, яшчэ менш работай і станам калгасных і раённых бібліятэк. А гэта-ж зразумела, што без наладжання работы гэтых устаноў нельга дабіцца колькі-небудзь значных поспехаў літаратурнага паходу.

Нарэшце, нельга абыйсці міма тыя раённыя і палітаддзельскія газеты, якія за гэтага часу яшчэ зусім не ўключыліся ў паход, ці абмежаваліся толькі перадрукам 1-2 артыкулаў з цэнтральных газет. Да ліку такіх газет трэба аднесці **«Калгаснік Талачыншчыны»** (рэдактар тав. **Байкачоў),** глускі **«Сцяг калектывізацыі»** (рэд. т. **Рагінскі),** быхаўскі **«Маяк комуны»** (рэд. т. **Левін),** крупскую газету **«Комуністычны шлях»** (рэд. т. **Лявоненка),** лагойскую, парыцкую і некаторыя іншыя раённыя газеты.

З усёй рэзкасцю трэба заявіць аб поўным неразуменні памянёнымі рэдактарамі велізарнейшага культурна-палітычнага значэння паходу.

Не павінна быць у БССР ні адной раённай і палітаддзельскай газеты, якая-б стаяла ў баку ад магутнага паходу калгаснікаў за аўладанне мастацкай літаратурай. Месца газет — у першых калонах, на чале гэтага паходу.

Трэба напомніць таварышам наступныя выдатнейшыя словы з нядаўняй гутаркі тав. **СТАЛІНА** з металургамі: «Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва».

На радзе прыкладаў мы кожны дзень бачым, якім магутнейшым сродкам выхавання людзей з'яўляецца мастацкая літаратура. Вось чаму кожная газета павінна вельмі клапатліва, з велізарнейшай увагай і любоўю весці літаратурны паход.

**А. АНТАНЕВІЧ, М. РЭЙДЭР**

# Дзіцячаму друку БССР пяць год

У чэрвені 1929 года піонеры Совецкай Беларусі з'ехаліся ў Менск на першы усебеларускі злёт піонераў.

Гэты злёт абмеркаваў важнейшыя пытанні піонерскага руху. У цэнтр увагі злёт паставіў задачу выпрацоўкі социялістычных адносін піонераў да вучобы, працы і грамадска-карыснай работы не толькі сярод піонераў, але і сярод усіх працоўных дзяцей Беларусі. Гэта значыць дасягнуць такога становішча каб кожны піонер усюды — у школе, сям'і, на вуліцы, піонерклубе, у лагерах па дысцыплінаванасці быў сапраўды ўсім дзецям прыкладам. Дапамагчы ў гэтым, кіраваць гэтай справай павінен дзіцячы друк. Але яго ў той час не было. І першы ўсебеларускі злёт просіць ЦК КП(б)Б і ўрад БССР пачаць выданне дзіцячых піонерскіх газет. Піонеры добра разумелі, што ўсе важнейшыя пытанні ім дапаможа вырашыць газета.

ЦК КП(б)Б і ўрад БССР заўсёды чула адносіліся да запатрабаванняў пролетарскіх дзяцей. І вялікая была радасць піонераў і вучняў Беларусі, калі ў кастрычніку яны атрымалі першы нумар газеты на беларускай мове **«Піонер Беларусі»** і на яўрэйскай мове **«Юнгер ленінец».** Вялікая была радасць октябрат, калі ім прынеслі першы нумар журнала для малодшых дзяцей — **«Іскры Ільіча».**

**1930 год.** Калгасныя піонерскія атрады значна адстаюць у сваёй рабоце ад гарадскіх. «Піонер Беларусі» заклікае гарадскіх піонераў і вучняў: **«Дапаможам дзецям калгасаў наладзіць сваю работу. Вышлем лепшыя ўдарныя брыгады піонераў гарадоў у калгасы».**

Праз некаторы час газета ўжо друкуе першыя водгукі: «Сёння лепшыя піонеры Менска выязджаюць у калгасы. Адзін толькі Октябрскі раён Менска выслаў у вёску 14 піонерскіх брыгад. «Брыгада Менскага фармацэўтычнага завода разам з піонерамі калгаса дапамагла ачысціць калгаснае насенне, арганізаваць яслі для дзяцей калгаснікаў, пабудавала паказальны куратнік.

...У атрадзе брыгада арганізавала шумавы аркестр, які зацікавіў не толькі дзяцей, але і дарослых калгаснікаў— паведамляе «Піонер Беларусі» дзяткор **Варэнік** з калгаса «Чырвоная змена», Менскага раёна.

**Па прыкладу менскіх піонераў і вучняў шмат такіх брыгад з падарункамі калгасным дзецям высылаюць усе гарады Беларусі.**

Пазней газета «Піонер Беларусі» на



**Група дэлегатаў 2-га ўсебеларускага злёта дзяткораў.**

працягу доўгага часу праводзіць завочны мітынг аб рабоце насценгазет, рэдкалегій і дзяткораў, у якім прымаюць удзел вялікая армія старшынь рэдкалегій і дзяткораў Беларусі. Гэта значна палепшыла якасць нізавога піонерскага і школьнага друку.

**1931 год.** «Піонер Беларусі» друкуе пісьмо сваіх дзяткораў. **Рэбяты прапануюць заключыць социялістычны дагавор з піонерамі Заходняй вобласці і Азербайджана.** ЦК комсамола Беларусі падтрымлівае гэту прапанову. Ухваляюць яе і піонерскія арганізацыі Заходняй вобласці і Азербайджана, і 20 мая ў Менску збіраюцца лепшыя прадстаўнікі —піонеры Беларусі, Заходняй вобласці і Азербайджана, абмяркоўваюць прапанову дзяткораў і заключаюць социялістычны дагавор. З гэтага часу завязваецца моцная сувязь паміж піонерамі і вучнямі гэтых трох арганізацый.

**Люты, 1932 год.** «Піонер Беларусі»

і «Юнгер ленінец» друкуюць пісьмо 25 вучняў бірабіджанскай школы. Рэбяты пішуць: «Мы — дзеці перасяленцы з Украіны і Беларусі. Нашы бацькі прыехалі у Бірабіджан, каб займацца прадукцыйнай працай. Калі мы прыехалі сюды, тут было пуста. Быў толькі адзін хлеў, у якім жылі людзі разам з жывёлай. Але ўмовы жыцця перасяленцаў палепшаюцца з года ў год. Зараз сярод дамоў знаходзіцца школа, у якой навучаецца 60 дзяцей. У нас ёсць яшчэ шмат недахопаў. Мы не можам увязаць тэорыю з практыкай. Нам не хапае вучэбных падручнікаў. У нас няма фізічнага габінета. Мы жадаем трымаць з вамі сувязь».

Газеты друкуюць гэтае пісьмо і заклікаюць: **«На пісьмо бірабіджанскіх вучняў адкажам арганізацыяй культвагона».** Атрады, школы, грамадскія арганізацыі адклікаюцца на гэта пісьмо і распачынаюць збор кніжак, сшыткаў, глобусаў, політэхнічнага абсталявання для школ Бірабіджана.

Праз некаторы час «Піонер Беларусі» паведамляе: «Вагон вырастае ў эшалон». І хутка пасля гэтага бірабіджанскія піонеры атрымалі ад піонераў Беларусі каштоўны падарунак.

На гэтым работа не заканчваецца. Газеты заклікаюць арганізаваць другі культвагон Бірабіджану і ў хуткім часе з Менска накіроўваецца ў Бірабіджан другі вагон.

І зараз мы не забываем аб сваіх падшэфных таварышах. За добрую сувязь з Бірабіджанам бабруйскія піонеры атрымліваюць пераходны чырвоны сцяг бірабіджанскіх піонераў, за які змагаюцца многія піонерскія арганізацыі Беларусі.

**Студзень, 1933 год.** Краіна падводзіць вынікі першай пяцігодкі.

**«Выходзьце ў незвычайнае падарожжа па гігантах першай пяцігодкі»** — заклікаюць сваіх чытачоў — піонераў і вучняў газеты «Піонер Беларусі» і «Юнгер ленінец».

Тысячы дзяцей «падарожнічаюць» па вялікай будоўлі соцыялістычнай краіны.

«Нашы дзеці пачалі больш чытаць— піша пры падвядзенні вынікаў падарожжа ў рэдакцыю «Піонер Беларусі» рабочы гомельскага завода імя Лапцуцкага таварыш **Гуцін.**

«Мы атрымалі многа цікавых ведаў» —гавораць юныя падарожнікі віцебскія піонеры **Дзяржынскі** і **Малахоўскі.**

10 тысяч піонераў і школьнікаў Беларусі прымалі ўдзел у цікавым мерапрыемстве, праводзімым «Піонерам Беларусі» у другім туры незвычайнага падарожжа па капіталістычных краінах.

«Я падарожнічаў па Германіі,—піша менскі піонер **Левін.**—Я прачытаў па гэтаму пытанню 10 кніг з вялікай цікавасцю. І яны дапамаглі мне ў вучобе. Я стаў лепш вучыцца па геаграфіі».

**Верасень,1933 год.** Піонерская арганізацыя праводзіць перавыбары піонерскага актыва. «Піонер Беларусі» і «Юнгер ленінец» друкуюць **зварот чатырох важатых звенняў Гомеля: Полі Гельман, Ізі Каплана, Асі Пісьман і Рахіль Полінай аб арганізацыі ўсебеларускага спаборніцтва важатых звенняў».**

Газеты разгортваюць па закліку гэтых важатых усебеларускае спаборніцтва, у якое уключаюцца сотні важатых звенняў. У выніку сотні звенняў пачалі лепш працаваць. А 30 лепшых пераможцаў у спаборніцтве былі прэміраваны ЦК комсамола Беларусі паездкай на экскурсію Масква—Ленінград.

**Люты, 1934 год.** 15 год Чырвонай арміі.

**«Разгортвайце паход у гісторыю грамадзянскай вайны»** — заклікаюць газеты «Піонер Беларусі» і «Юнгер ленінец» сваіх чытачоў. Сотні дзяцей вышлі ў паход па вывучэнню гісторыі грамадзянскай вайны па маршрутах — «У штабе рэволюцыі», «Заходні фронт», «Усходні фронт», «Паўднёвы фронт», і «Паўночны фронт».

Газеты заклікаюць дзяцей мацней трымаць сувязь з чырвонаармейскай казармай.

Дзяткор **Сакалоўскі** (Менск) піша: «Мы і раней лічыліся шэфамі чырвонаармейскай часці, але шэфства было дрэнным. А зараз зусім іншае. Мы бываем у казарме. Там выступае наш струнны гурток, дапамаглі чырвонаармейцам абсталяваць ленінскі куток. Чырвонаармейцы ў сваю чаргу наладзілі ў атрадах абарончую работу. Зараз у нас працуе стралковы гурток, хімічная каманда, у якой займаюцца 97 піонераў.

У завяршэнне паходу ў многіх гарадах і раёнах Беларусі праводзяцца злё-

ты юных ударнікаў абароны. І ў ліпені 1934 года па пастанове ЦК ЛКСМБ праводзіцца першы ўсебеларускі злёт юных ударнікаў абароны.

**Верасень, 1934 год.** Піонерская арганізацыя Беларусі прымае актыўны ўдзел у ахове калгаснага ўраджаю і збору каласоў.

Па пастанове ЦК ЛКСМБ і палітсектара Наркамзема **«Піонер Беларусі»** і **«Юнгер ленінец» праводзяць завочны злёт юных дазорнікаў калгаснага ўраджаю.** 64 дазорнікі выступілі на старонках газет «Піонер Беларусі» і «Юнгер ленінец». Яны падзяліліся вопытам сваёй работы. Сярод іх былі героі аховы калгаснага ўраджаю **Коля Арцюшэўскі** з калгаса «Звязда», Дзержынскага раёна, які выкрыў свайго дзядзьку праўшага калгаснае дабро, **Міша Рыжык** з Брагінскага раёна, выкрыўшы свайго бацьку, які краў калгасны ўраджай.

Газеты падвялі вынікі вялікай работы, якую прарабілі піонеры Беларусі і намецілі шлях разгортвання агратэхнічнай вучобы ў атрадах і школах.

«Піонер Беларусі» на сваіх старонках падымае пытанне, каб уся піонерская арганізацыя, усе школьнікі зразумелі, што перад усёй краінай стаіць задача аўладаць тэхнікай, аўладаць навукай.

«Неабходна, каб усе дзеці зразумелі, што барацьба за аўладанне навукай ёсць на данным этапе частка барацьбы палітычнай, класавай, што навука — гэта важнейшы фронт барацьбы за соцыялізм».

Газета ўзнімае не толькі пытанне барацьбы за вучобу, але і барацьбы за культурнага вучня, школу, клас, за ахову школьнай маёмасці.

**У канцы 1934 года «Піонер Беларусі» арганізоўвае завочныя курсы юных авіямадэлістаў.** Праз 10 дзён Цэнтральнай тэхнічнай лабараторыяй атрымана больш 1.200 пісем піонераў і вучняў, якія жадаюць прымаць удзел у завочных курсах.

**К свайму пяцігадоваму юбілею і другому ўсебеларускаму злёту дзяткораў газета «Піонер Беларусі» прышла з 168-тысячнай арміяй падпісчыкаў.** Газета мае **1.200 дзяткораў.** Многія дзяткоры, якіх выхавала газета, зараз працуюць на адказнай комсамольскай рабоце: **Шапіра** — райпіонерработнік Барысава, **Сулімчык** працуе ў райгазеце (Старыя Дарогі), **Шэшка** — вучыцца ў КІЖ'ы, **Калачынскі** (Крупкі) — важаты піонерскага атрада, **Фельдман** — нам. сакратара комсамольскага камітэта лесакамбіната (Бабруйск), **Гарбачэнка Алесь** зараз працуе ў рэдакцыі «Піонер Беларусі», **Глезер** — студэнт КІЖ'а.

Але трэба сказаць, што рэдакцыі газет «Піонер Беларусі» і «Юнгер ленінец» яшчэ недастаткова працуюць са сваімі дзяткорамі. Яшчэ мала працуюць рэдакцыі з пісьмамі дзяткораў, недастаткова кіруюць насценным друкам піонерскіх атрадаў і школ.

На другім усебеларускім злёце дзяткораў, праведзеным у адзнаку пяцігадовага юбілею дзіцячага комуністычнага друку БССР, на які з'ехаліся лепшыя дзяткоры, рабяты з усёй большэвіцкай астратой крытыкавалі ўсе недахопы работы. І далі моцны наказ, як павінны працаваць рэдакцыі газет з дзяткорамі.

Вялікую работу пры дапамозе партыі і комсамола правёў дзіцячы комуністычны друк БССР — газеты «Піонер Беларусі» і «Юнгер ленінец». Немалую ролю яны адыгралі ва ўмацаванні атрада, звяна і павышэнні якасці вучобы дзяцей.

Уступаючы ў сваё другое пяцігоддзе, газеты яшчэ больш будуць змагацца за большэвіцкае выхаванне маладога пакалення, будуць выхоўваць адданых людзей вялікай справе нашай соцыялістычнай краіны, вялікай справе **Леніна-Сталіна.**



**Дэлегат 2-га ўсебеларускага злёта ад дзяткораў Жлобіна.**

**Вл. МЯТЛА**
Рэдактар газеты «Большэвік Барысаўшчыны».

# 1.000 НУМАРОЎ

Юбілей „Большэвіка Барысаўшчыны"

Чатыры гады таму назад — 1 снежня 1930 года — вышаў першы нумар газеты **«Большэвік Барысаўшчыны»**. А зараз працоўныя Барысаўскага раёна адзначаюць вялікую падзею — выхад тысячнага нумара раённай газеты.

Перагортваем камплекты газеты за чатыры гады, і перад вачыма ўстае ўвесь шлях, пройдзены газетай, шлях ад першага да тысячнага нумара. Газета мац- 1930 г., дзе было ясна напісана: **«адной з асноўных крыніц фармавання кадраў газетных работнікаў павінны быць рабкоры і селькоры — ударнікі».**

Па гэтаму шляху мы і пашлі. Пачынаючы з першага і да тысячнага нумара, асноўную частку работнікаў рэдакцыі «Большэвіка Барысаўшчыны» складаюць рабкоры-ўдарнікі, вылучаныя на работу ў газету з барысаўскіх прад-






ЛЕПШЫЯ РАБСЕЛЬКОРЫ «БОЛЬШЭВІКА БАРЫСАЎШЧЫНЫ». (Злева направа) т. т.: Бушман—рэдактар насценгазеты завода імя Домбаля; Рабіновіч—актыўны рабкор газеты; Раскін—рэдактар насценгазеты камбіната «Комінтэрн»; Мазоль Лукаш — актыўны селькор газеты.

нела і палепшалася разам з ростам усёй нашай краіны, разам з ростам культурнасці і запатрабаванняў працоўных мас раёна.

Першы час **газета выходзіла раз у пяцідневку.** Такая малая перыядычнасць ніяк не здавальняла запатрабаванняў тысяч працоўных горада і раёна. І ўжо ў 1931 годзе газета павялічыла перыядычнасць да пяці раз у дэкаду. Але і гэтага было мала і **з 1932 года газета выходзіць штодзенна.** У адпаведнасці з перыядычнасцю рос і фармат газеты. Зараз «Большэвік Барысаўшчыны» выходзіць фарматам рэспубліканскіх газет.

З паліграфічнай базай труднасцей асаблівых не было. Барысаў і да арганізацыі газеты меў добра абсталяваную друкарню. Галоўная задача заключалася ў людзях, у аўладанні рэдакцыйнымі работнікамі і рабочымі друкарні тэхнікай газетнай справы.

У першыя дні выхаду газеты паўстала пытанне: адкуль узяць людзей у апарат рэдакцыі? Адказ мы знайшлі ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 11 лістапада прыемстваў. У рэдакцыі рабкоры праходзяць добрую школу газетнай справы, і цяпер мы маем права ганарыцца тым, што два рабкоры — былыя работнікі «Большэвіка Барысаўшчыны» працуюць самастойна рэдактарамі фабрычна-заводскіх газет.

Галоўная задача рэдакцыі была ў тым, каб згрупаваць вакол газеты моцны актыў рабселькораў, каб як мага цясней звязацца з масамі, каб прасунуць газету ва ўсе куткі раёна. Пачынаць справу прышлося, маючы невялікую жменьку рабселькораў, якія раней пісалі ў цэнтральныя газеты. Гэта быў наш першы актыў. Далей лік рабселькораў газеты расце літаральна з кожным днём. Па гадах лік рабселькораў «Большэвіка Барысаўшчыны» рос так: **у 1931 г. газета мела 218 рабселькораў, у 1932 годзе — ужо 825,** павелічэнне амаль у 4 разы, **і ў 1934 г. лік рабселькораў дасягнуў 944.**

Такі колькасны рост рабселькораў. Але рабселькоры выраслі і ідэйна. Значна ўзрасла роля рабселькораў і як

удзельнікаў нашай газеты і як лепшых ударнікаў прадпрыемстваў і калгасаў. Цэнтральнай фігурай рабселькораў «Большэвіка Барысаўшчыны» цяпер з'яўляецца лепшы ўдарнік.

Калі параўнаць, аб чым пісалі нашы рабселькоры ў 1930 годзе, з тым, што яны пішуць зараз, то і тут мы маем велізарнейшую розніцу. Рабселькоры адгукваюцца на кожную важную падзею, якая адбываецца ў нашай краіне і ў раёне. Тэматыка рабселькораўскіх пісем значна шырэйшая, чым раней. Пытанні ставяцца значна глыбей і сур'ёзней. Тут мы маем прамую залежнасць ад узросшых запатрабаванняў працоўных, ад велізарнейшага ўздыму эканомікі раёна ў выніку правядзення калектывізацыі, разгортвання соцспаборніцтва на прадпрыемствах і ў калгасах, у выніку рэзкага паляпшэння дабрабыту працоўных горада і вёскі.

Лік пісем, што атрымлівае рэдакцыя, таксама расце з кожным годам. Расце і процант змяшчэння пісем на старонках газеты. Возьмем хоць-бы апошнія два гады.

**У 1933 годзе мы атрымалі 5.243 пісьмы. Надрукавалі 4.154 пісьмы і 543 паслалі на расследванне.** Адказы атрымалі на 374 пісьмы.

У 1934 годзе значна ўзрос лік атрымліваемых пісем. **Мы атрымалі за мінулы год 7.250 пісем.** З іх у газеце змешчана 5.870. З пасланых на расследванне і для прыняцця мер 714 пісем к 1-му студзеня 1935 года мы атрымалі адказы на 587 пісем. Многія пісьмы, пасланыя ў канцы года, знаходзяцца яшчэ ў працэсе расследвання.

Вынікі расследвання пісем і паведамленні аб прынятых па нашых выступленнях мерах рэгулярна друкуюцца ў газеце.

Паданыя лічбы і факты гавораць аб узмацненні барацьбы рэдакцыі «Большэвіка Барысаўшчыны» за дзейснасць рабселькораўскіх пісем, аб узмацненні работы рэдакцыі над пісьмамі працоўных. У парадку самакрытыкі ўсё-ж трэба сказаць, што ў гэтай галіне зроблена яшчэ не ўсё. У далейшым цэнтральнай задачай рэдакцыі астаецца неаслабная барацьба за дзейснасць кожнага пісьма рабочага і калгасніка.

За мінулы год значна ўзмацнілася масавая работа газеты. На працягу мінулага года **некалькі выязных рэдакцый «Большэвіка Барысаўшчыны» працавалі ў сельсоветах,** якія найбольш адставалі ў правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній. Газета выдала дзесяткі лістовак па розных пытаннях. Выязныя рэдакцыі выдавалі спецыяльныя бюлетэні.

**Вялікую ўвагу аддала газета рабоце чыгункі,** станцыям, якія знаходзяцца на тэрыторыі раёна. Газета паставіла перад чыгуначнікамі і грамадзянскімі арганізацыямі горада задачу — зрабіць станцыі культурнымі, узорнымі, добра абслугоўваць пасажыраў. Рэдакцыя прыцягнула да гэтай работы рабкораў, совецкі і профсаюзны актывы. Некалькі раз рабкораўскія брыгады правяралі станцыі, работу розных служб чыгункі. Трэба сказаць, што тут мы ўжо маем канкрэтныя дасягненні. Аб тым, што станцыя Барысаў становіцца адной з узорных станцый у Саюзе, нядаўна пісала газета «Известия» і адзначыла нарада старшынь горсоветаў пры ЦВК СССР.

Нядрэнна змагаецца газета і за выкананне раёнам фінансавага плана. Работа газеты ў гэтым напрамку ацэнена — «Большэвік Барысаўшчыны» вось ужо на працягу пяці кварталаў трымае чырвоны пераходны сцяг, як перадавіка ва ўсесаюзным фінансавым конкурсе газет.

Возьмем апошнія падзеі. Напярэдадні разгорнутага гандлю хлебам без картак рэдакцыя разам з брыгадамі рабочага кантролю правяла рэйд па праверцы падрыхтаванасці магазінаў і гандлюючых арганізацый. У рэйдзе прынялі ўдзел звыш 50 рабкораў. Пасля рэйду рэдакцыя мела поўны малюнак таго, як гандлюючая сетка горада падрыхтавана к разгорнутаму гандлю хлебам. Гэта дало нам магчымасць своечасова выявіць слабыя месцы і прымусіць каго належыць падцягнуцца.

1.000 нумароў... Разам з рэдакцыяй і з раённымі арганізацыямі гэту падзею адзначаюць сотні нашых рабселькораў, тысячы чытачоў, дзесяткі тысяч працоўных раёна. І іменна таму мы сёння павінны асабліва рэзка заявіць аб нашых недахопах, тым больш, што недахопаў у нас яшчэ многа, і намеціць шляхі для іх знішчэння.

Слаба мы працавалі з нашымі раб-

**рэдкорамі**, з рэдкалегіямі нізавых **насценгазет.** У гэтым адна з прычын таго, што нізавы друк на гарадскіх прадпрыемствах працаваў дрэнна. Толькі ў апошні час рэдакцыя «Бальшэвіка Барысаўшчыны» пачынае ўзмацняць гэты ўчастак сваёй работы.

Мы дапамаглі партарганізацыі фабрыкі **«Пролетарская перамога»** ўмацаваць работу насценгазет. Стварылі на фабрыцы семінар рабкораў і рэдактароў насценгазет. Выкладаюць у семінары нашы работнікі.

Таксама з нашай дапамогай **створаны семінары на заводах імя Домбаля, імя Молатава і на камбінаце «Комінтэрн».** На камбінаце «Комінтэрн» і лесазаводзе імя Молатава семінары працуюць на яўрэйскай мове. Рабкоры з энтузіязмам сустрэлі адкрыццё семінараў і акуратна іх наведваюць.

Аднак, гэта толькі нашы першыя крокі па наладжанню работы нізавога друку на прадпрыемствах.

Горшая справа з нізавым друкам у калгасах. Тут, трэба адкрыта сказаць, мы амаль яшчэ не пачыналі работы. Такім чынам, **наша першачарговая задача — узмацніць кіраўніцтва нізавым друкам,** асабліва калгасным, і рабсельнкорамі, узмацніць дапамогу ім.

Другая наша задача — **пашыраць тэматыку газеты.** У гэтай галіне, праўда, мы ўжо сёе-тое зрабілі. Пачалі асвятляць некаторыя пытанні, якіх раней не асвятлялі. У далейшым ставім задачу зрабіць газету больш рознастайнай па тэматыцы, ахапляць больш пытанняў гаспадарчага і культурнага жыцця раёна. Звернем асаблівую ўвагу на добрабыт горада і калгасаў, зоймемся пытаннямі культурнага абслугоўвання працоўных.

Усё гэта вельмі неабходныя справы. Мы самі цяпер адчулі, што займацца імі газета павінна сістэматычна, бо гэтага патрабуе рост культурнасці працоўных мас, рост жыццёвага ўзроўню працоўных.

**Зм. СНЕЖКА**

## КОМУНІСТЫЧНЫ ДРУК ЗА МЯЖОЙ

# Друк кітайскай чырвонай арміі

**(Па матэрыялах, атрыманых з Кітая на мове эсперанто).**

Друк кітайскай Чырвонай арміі ўзнік разам з узнікненнем самой Чырвонай арміі Кітая. Ён быў і з'яўляецца магутнейшай зброяй у руках партыі і ўрада, якая дапамагае забяспечваць перамогі Чырвонай арміі Кітая.

З'яўляючыся зброяй партыі, друк у Чырвонай арміі мае тую асаблівасць, што ён не толькі абслугоўвае армію, але і з'яўляецца магутным сродкам у барацьбе партыі, урада і арміі за масы. У часе паходаў Чырвонай арміі яе друк пранікае глыбока ў тыл праціўніка і робіць вялікую справу — арганізуе масы на выступленне за советы, на арганізаваную сустрэчу часцей Чырвонай арміі.

Таму асабліва ў чырвонаармейскім друку Совецкага Кітая шмат месца ўдзяляецца растлумачэнню асноўных задач совецкай улады і таго, што нясе Чырвоная армія рабочым, сялянам і ўсім працоўным.

Чырвонаармейскі друк карыстаецца велізарнай любоўю працоўных мас не толькі Совецкага Кітая, але і па-за яго межамі, у раёнах дзейнасці чырвонаармейскіх часцей, на другім баку — у гаміндановскім Кітаі.

Чырвоная кітайская армія мае велізарную сетку нізавых газет. У кожным падраздзяленні выходзяць свае газеты з малюнкамі і карыкатурамі. На паходзе, у казармах, у часе стаянак, у шпіталях — усюды ёсць газета, любоўна зробленая самімі чырвонаармейцамі.

«Кожная такая газета — піша шанхайскі бюлетэнь ПЭК цэнтра — мабілізуе перш за ўсё масы на барацьбу з узброеным ворагам, за Совецкі Кітай, за вызваленне ўсіх раёнаў Кітая ад гаміндаўскага панавання. Яна мабілізуе

масы на ўзмацненне класавай пільнасці, на барацьбу з астаўшымися ўнутраным ворагам, яна змагаецца за поўнае забеспячэнне боездольнасці Чырвонай арміі.

Кожная газета змагаецца за замацаванне ўлады советаў, за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята, за выкананне народна-гаспадарчых задач краіны (пасевы, уборка, шэфства, пазыкі і т. д.).

Гэтыя газеты робяцца самімі чырвонаармейцамі. У асобных раёнах, Хунань-Хубейскім, Аньхоўскім і інш., палітаддзелы армій выпускаюць свае газеты, у большасці друкаваныя на рататарах, шклографах і інш.

У Аньхоўскім раёне — піша той-жа бюлетэнь — палітаддзел арміі выдае сваю газету **«Чырвоны баец»** і яшчэ дзве газеты: **«Жыццё Чырвонай арміі»** і **«Партыйнае жыццё Чырвонай арміі»**.

Палітківраўніцтва кітайскай Чырвонай арміі выдае цэнтральную чырвонаармейскую газету **«Хун-Сінь»** («Чырвоная звязда») тыражам у 20 тысяч экземпляраў. Газета мае ва ўсіх часцях Чырвонай арміі сваіх ваенкораў, якія актыўна асвятляюць жыццё ў сваіх падраздзяленнях і работу, праведзеную сярод насельніцтва.

«Чырвоная армія — піша ў бюлетэні кітайскага ПЭК цэнтра ваенкор **«Хун-Сіня»** — з'яўляецца барацьбітом не толькі за Советы, яна таксама актыўна і бязлітасна змагаецца за новае культурнае жыццё». Чырвоная армія першая ў Кітаі ўзначаліла і праводзіць жорсткую барацьбу з бескультур'ем і антысанітарыяй — бічом старога буржуазнага Кітая. Чырвонаармейцы тады лічаць занятымі вёску або горад, калі яны ачысцяць іх не толькі ад варожых элементаў, але і ад бруду, нечыстот і інш. Чырвоная армія паказвае ўзор таго, як трэба змагацца за пролетарскую культуру, за здаровую і радасную працу. Прыход чырвоных часцей мяняе адразу выгляд горада і вёскі. Газеты выходзяць з заклікамі: «Быць пільным да ўнутранога ворага», дзе вораг паказваецца не толькі ў выглядзе астаўшыхся кулакоў і інш. контррэволюцыйных элементаў, але і ў выглядзе бруду, нечыстот, эпідэміі.

Гэтаму пытанню чырвонаармейскі друк удзяляе значную ўвагу. Санітарнае кіраўніцтва Чырвонай арміі вядзе праз друк вялікую санітарную прапаганду, і гэта асабліва цяжка і важна ва ўмовах кітайскай вёскі з яе бескультур'ем, брудам і эпідэміямі.

Друк Чырвонай арміі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі заваяваў ужо сабе слаўнае месца сярод усяго друку Советскага Кітая, і далейшы яго шлях — шлях барацьбы за вызваленне ўсяго гаміндаНаўскага Кітая і ўстанаўленне ўсюды советскай улады.

Недалёк час, калі сцяг Советаў будзе рэяць над усім Кітаем. Дапамагчы забяспечыць гэта — асноўная і пачэсная задача чырвонаармейскага друку советскага Кітая.

* * *


# Neue Zeitung
Organ der K.P.D., Bezirk ...
Nr. 2
ZERREISST DEN SCHLEIER DES FASCHISTISCHEN MASSENBETRUGES

Падпольны комуністычны друк Германіі.

★ ★ ★

М. САНАЛОЎСКІ

# Прыслухоўвацца да голасу чытача

**«Чырвоная Полаччына»** знаходзіцца ў радах лепшых газет БССР.

Зайдзіце ў рэдакцыю полацкай газеты і вы там не знойдзеце таго папяровага хаоса, у якім літаральна топяцца многія рэдакцыі раённых газет.

У пакоях чыстата. На сталах няма награмаджэння камплектаў, як гэта назіраецца ў большасці газет. Камплекты газет тут акуратна падвешаны ля сцяны, ў адным пакоі і імі зручна карыстацца.

Значна палепшылася работа рэдакцыі з пісьмамі і допісамі працоўных. Пісьмы і допісы ў рэдакцыі не залежваюцца больш 3-5 дзён, ім без затрымання даецца належны ход. Добра наладжан улік. Кожнае пісьмо і допіс знаходзяцца пад кантролем рэдакцыі. Значна палепшылася рэагаванне на змешчаныя і пасланыя на расследванне матэрыялы.

Палепшылася афармленне газеты. Рэдакцыя здолела набыць каля тоны новых шрыфтоў, і зараз газету прыемна ўзяць у рукі — яна друкуецца чыста і чотка. Нядрэнна і вярстаецца газета.

Але, як і ў пераважнай большасці раённых газет, у «Чырвонай Полаччыны» вельмі **звужаная тэматыка,** зусім невялікі круг асвятляемых пытанняў. А гэта вялікі недахоп, асабліва ў прыстасаванні да «Чырвонай Полаччыны», якая выходзіць штодзенна і мае магчымасць асвятляць усё, што робіцца ў раёне і горадзе.

У рэзалюцыі лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) «Аб палітаддзелах у сельскай гаспадарцы» сказана: «**... для кіраўніцтва ўсёй работай у калгаснай вёсцы — палітычнай, гаспадарчай, культурна-бытавой (школы, больніцы і т. д.) патрабуецца ўмацаванне нармальных партыйных і совецкіх органаў, ахапляючых усю работу адміністрацыйную, гаспадарчую, культурна-бытавую, фінансавую і т. д.**».

У прыстасаванні да газет гэта значыць, што мала займацца толькі пастаўкамі і мабілізацыяй сродкаў (ад раду газет трэба жадаць лепшага і ў асвятленні гэтых пытанняў), а трэба займацца і работай школ, клубаў, дамоў соцыялістычнай культуры, урачэбных установ і т. д.

Гэтага яшчэ не робіць «Чырвоная Полаччына». Яна не ўлічвае таго, што апрача сельскай гаспадаркі ў Полацку і раёне ёсць шмат прадпрыемстваў, прамысловых арцелей, ёсць чыгуначны вузел, школы, клубы і т. д., работу якіх трэба асвятляць на старонках газеты, праводзіць на гэтых прадпрыемствах і ўстановах масавую работу. Наколькі гэта неабходна — сведчыць наступны факт.

Нядаўна ў «Чырвоную Полаччыну» прышла група піонераў, якая прама заявіла рэдактару тав. **Зельманаву:**

— Мы хочам, каб вы асвятлялі, як працуюць асобныя школы, піонер-атрады. Мы хочам чытаць на старонках газеты аб лепшым вопыце комуністычнага выхавання дзяцей.

Піонеры ў сваю чаргу абавязаліся арганізоўваць матэрыял для газеты, быць актыўнымі дзэткорамі.

Гэта яшчэ раз гаворыць аб тым, што газета выпускае рад важнейшых пытанняў. Асабліва ярка аб гэтым гавораць змяшчаемыя ў гэтым нумары выступленні чытачоў «Чырвонай Полаччыны».

«Чырвоная Полаччына» амаль не займаецца пытаннямі культурнага абслугоўвання калгаснікаў. А між тым рабселькоры вельмі многа пісалі ў газету аб рабоце дамоў соцыялістычнай культуры. На пытанне—чаму не змяшчаюцца гэтыя допісы, выконваючы абавязкі сакратара рэдакцыі тав. **Эрдман** адказаў:

— Дамы соцыялістычнай культуры, як правіла, не працуюць, дык навошта аб іх пісаць. Лепш адсылаць гэтыя допісы на расследванне.

Такім чынам амаль усе карэспандэн-

цыі аб рабоце ДСК адсылаліся на расследванне. Ці правільна рабіла газета, не змяшчаючы такіх карэспандэнцый? Зразумела, не. Калі сапраўды ўсе дамы соцыялістычнай культуры не працуюць (а гэта няправільна, бо многія хоць і дрэнна, але ўсё-ж працуюць), то трэба было ўзяць пад свой кантроль адзін — два ДСК, выявіць, чаму яны не працуюць, дабіцца, каб яны працавалі, паказаць, якім чынам гэтыя дамы соцкультуры наладзілі работу. Калі так будуць выкарыстоўвацца дopісы селькораў па культурна-бытавых пытаннях, тады тав. Зельманаву не прыдзецца скардзіцца на тое, што **«і настаўнікі пішуць толькі аб пастаўках і мабілізацыі сродкаў, а не аб школах і культурна-масавай рабоце».**

Рабселькоры сочаць за газетай. І яны, раўняючыся па газеце, дасылаюць карэспандэнцыі на такія тэмы, якія ў большасці асвятляюцца ў газеце. Хіба яны будуць пісаць на тэмы культуры і быту, калі такія матэрыялы не змяшчаюцца, калі ім не даецца ўстаноўка пісаць аб гэтым? Аб недаацэнцы рэдакцыяй гэтых пытанняў сведчыць і той факт, што работнікі рэдакцыі, будучы на раёне, не заходзяць у школы, дамы соцыялістычнай культуры, не цікавяцца іх работай.

«Чырвоная Полаччына» многа займаецца калгасным будаўніцтвам. Гэта добра. Але яна амаль не паказвае асобных калгаснікаў, рост іх заможнасці, чым жыве калгаснік і т. д. Амаль усе матэрыялы па калгаснаму будаўніцтву і іншых пытаннях адмоўнага характару. Гэта таксама вялікі недахоп у рабоце рэдакцыі. Тут забываюць аб тым, што побач з выкрыццём недахопаў трэба паказваць вопыт перадавікоў, што такія матэрыялы не менш, а часта і больш мабілізуюць масы на выкананне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам, чым матэрыялы выкрываючага парадку. Маляўніча паказаць перадавікоў соцыялістычнага будаўніцтва — гэта значыць ліквідаваць аднабаковасць у рабоце газеты, пашырыць яе тэматыку.

Зразумела, даваць адмоўны матэрыял — «прыцягнуць да адказнасці», «аддаць пад суд», «ударыць» і т. д. лягчэй, чым паказаць, якімі шляхамі ажыццёўлены тыя ці іншыя мерапрыемствы. Змяшчаючы матэрыялы толькі адмоўнага парадку, «Чырвоная Полаччына» ідзе па лініі найменшага супраціўлення. У гэтым прызнаўся на нарадзе работнікаў рэдакцыі з удзелам чытачоў газеты тав. Эрдман, які заявіў:

— Нам часта пішуць аб дадатным, але я шмат заметак адпраўляю ў архіў, бо там няма паказу таго, як дабілiся дадатнага.

Гэта грубая памылка, бо не кожны рабселькор **можа** перадаць вопыт, і задача рэдакцыі дапоўніць карэспандэнцыю патрэбнымі фактамі, вучыць рабселькора, як трэба пісаць, а не класці яго допісы ў архіў. А гэта ва ўмовах Полацкага раёна, дзе ўсе сельсоветы і каля паловы калгасаў тэлефанізаваны, лёгка зрабіць нават і тады, калі няма магчымасці выехаць на месца.

Шырока паказваючы дадатнае, выкрываючы канкрэтных вінаватых у дрэннай рабоце, газета павінна быць магутным вагаром большэвіцкай агітацыі за выкананне дырэктыў партыі і ўрада. **«Раённыя-ж газеты,** — піша **«ПРАВДА»** у перадавым артыкуле за 9 студзеня — **бельмі слаба вядуць агітацыю і столькі-ж мала даюць канкрэтнага матэрыяла для вуснай агітацыі».** Гэту заўвагу павінна ўлічыць не толькі «Чырвоная Полаччына», але і ўсе раённыя газеты і шматтыражкі. Даць канкрэтны матэрыял для агітацыі — гэта значыць паказаць, чым жыве калгас, сельсовет, раён, прадпрыемства, установа, паказаць жывога чалавека, давадзіць пачатую справу да канца, падводзіць канкрэтныя вынікі работы.

Чаму такія недахопы ў «Чырвонай Полаччыне»? Таму, у першую чаргу, што тут не прыслухоўваюцца да голасу чытача, не ўлічваюць яго запатрабаванняў. Рэдакцыя не практыкуе правядзення нарад чытачоў, нарад свайго актыва.

Зараз «Чырвоная Полаччына» тое-сёе пачала рабіць у напрамку пашырэння тэматыкі. Пачала яна з таго, што зрэдку дае хроніку «па Полацку». Паказваецца работа новавыбраных сельсоветаў і асобных членаў сельсовета. Прыслухоўваючыся да голасу чытача, улічыўшы ўсе яго запросы, газета павінна не спыняцца на пачатым, а рашуча пашырыць сваю тэматыку. Тады газета стане больш чытабельнай, больш цікавай.

# Чытачы аб газеце „Чырвоная Полаччына“

## Чаму не паказваецца знатных людзей нашага вузла?

**ГУНЬКО—парторг 11-й дыстанцыі шляху.**

Я ў крыўдзе на сваю раённую газету. Яна зусім не займаецца пытаннямі транспарту, пытаннямі работы Полацкага чыгуначнага вузла.

Могуць запытаць: а чаму вы, чыгуначнікі, самі не наладзіце сувязі з газетай, чаму не пішаце ў яе?

Мы рабілі такія спробы. Я, напрыклад, асабіста пішу ў **«Чырвоную Полаччыну»**, але рэдакцыя нават не змяшчае і тых карэспандэнцый, якія ёй дасылаюць, не гаворачы ўжо аб тым, што сама яна не арганізоўвае рабкораў чыгуначнага вузла.

Возьмем такое пытанне, як барацьба са снежнымі заносамі. Тут раённая газета магла аказаць вузлу вялікую дапамогу, арганізуючы на гэту важнейшую справу калгасы. Аднак, яна гэтага не зрабіла. Больш таго, калі я напісаў заметку, дзе ўказваў, што наперакор жаданню калгаснікаў старшыня праўлення калгаса «Чырвоная горка», Булаўскага сельсовета, тав. **Жук** зрывае барацьбу са снежнымі заносамі на чыгунцы, гэта заметка была замарынавана.

Можа ў нас на вузле няма цікавага для раённай газеты, для яе чытачоў? Няпраўда, ёсць. Чаму-б не напісаць, напрыклад, аб тым, што рабочыя і служачыя толькі 11-й дыстанцыі шляху сабралі на дапамогу іспанскаму пралетарыяту дзве з паловай тысячы рублёў?

Або чаму-б не паказаць знатных людзей нашага вузла, як, напрыклад, абходчыка другога акалодка, ударніка **Курылёнка Андрэя.** У мінулым годзе ён папярэдзіў тры крушэнні. Зусім нядаўна быў выпадак, калі з сярэдняга вагона таварнага поезда спаўзло бервяно. На яго напіраў наступны вагон. Бервяно канцом узрывала шпалы, крушэнне было немінуча. Гэта заўважыў Курылёнак, спыніў поезд і папярэдзіў крушэнне. Або другі выпадак. Здарыўся разрыў таварнага састава. Гэта таксама пагражала крушэннем. Але Курылёнак заўважыў гэта і разрыў быў ліквідаван.

Такія факты цікавы не толькі чыгуначніку, але і калгасніку і кожнаму працоўнаму. Яны сведчаць аб высокай свядомасці, самаадданай рабоце многіх чыгуначнікаў. На такіх фактах друк выхоўвае мільёны працоўных. А «Чырвоная Полаччына» праходзіць міма іх.

Няма чаго ўжо гаварыць аб тым, што прамы абавязак газеты змагацца з прастоямі вагонаў, бо ў нас яны яшчэ не зжыты. І прастойваюць вагоны часта па віне кліентуры, якая несвоечасова разгружае і нагружае вагоны. А газета ! аб гэтым маўчыць.

Я ўжо не гавару аб тым, што газета павінна змагацца за паляпшэнне быту чыгуначнікаў, за лепшае культурнае абслугоўванне.

І калі яна зоймецца ўсімі гэтымі пытаннямі, сістэматычна будзе іх ставіць на сваіх старонках, тады не будзе скардзіцца, што чыгуначнікі слаба падпісваюцца на «Чырвоную Полаччыну».

* * *

## Я хачу ведаць як працуюць іншыя парторгі

**БОРТНІКАЎ — парторг калгаса «Новыя Гараны», Шаціпаўскага сельсовета.**

Ад таго, як арганізавана культурна-масавая работа на вёсцы, залежыць і поспех правядзення гаспадарча-палітычных кампаній. **«Чырвоная Полаччына»** займаецца правядзеннем кампаній, але не ўвязвае гэтага з наладжаннем культурна-масавай работы ў калгасах і сярод аднаасобнікаў.

А гэтай справай трэба газеце заняцца. Трэба таксама паказаць рост заможнасці калгасніка, яго быт, параўнаўшы ўсё гэта з мінулым. Што было раней у нашай вёсцы Гаранах? Галеча, бруд, некультурнасць. Усяго гэтага няма ў калгасе «Новыя Гараны». Калгаснікі поўнасцю забяспечаны прадуктамі, сталі жыць культурна. Масальскі Кузьма да калгаса быў

бядняк, жыў у брудзе. Зараз не пазнаць хаты Масальскага. Там чыстата, падлога мыецца, сцены выклеены, на сцяне — гадзіннік. Вокны завешаны фіранкамі.

Большасць калгаснікаў маюць гадзіннікі, наведваюць агратэхгурток.

Усё гэта трэба паказаць на старонках газеты, параўноўваючы цяперашняе жыццё калгасніка з мінулым.

Я, як парторг, незадаволен газетай. Партвучобу яна нерыядычна асвятляе. А вось вопыта работы пярвічных партарганізацый, вопыта работы парторгаў не перадае.

**Я хацеў-бы таксама, каб «Чырвоная Полаччына» больш давала аглядаў насценгазет, паказвала, як працуюць лепшыя з іх, бо я, як парторг, кірую насценгазетай і хачу павучыцца, як лепш арганізаваць яе работу.**

☆ ☆ ☆

# Мы не знаходзім у газеце таго, што нас цікавіць

**ШЛЯХТУНОЎ П. Ф. — настаўнік 2-й полацкай гарадской школы, КАРЖАНЕЎСКІ В. І.—дырэктар лютаўскай НСШ, Сестронскага сельсовета.**

Як «Чырвоная Полаччына» асвятляе работу школ, работу настаўнікаў, дамоў сацыялістычнай культуры? Трэба сказаць, што вельмі і вельмі дрэнна. Калі зрэдку яна і гаворыць аб рабоце школ, то якасць змешчаных матэрыялаў нізкая. Возьмем 180 нумар «Ч. П.». Палова старонкі ў ім была прысвечана склікаемай раённай настаўніцкай канферэнцыі. Мы чакалі, што хоць у гэтым нумары газета пакажа становішча асобных школ, работу асобных настаўнікаў. Але нашы спадзяванні не апраўдаліся.

Вось заметка пад загалоўкам «Як я думаю работаць у новым навучальным годзе». Хапаемся за яе, прачытваем і... не знаходзім у гэтай заметцы, як-жа дырэктар школы т. Бляхман будзе працаваць, апрача сказу, «патрэбна будзе практыкаваць паказальныя лекцыі для падшэфных школ і наадварот». А газета-ж павінна паказваць вопыт перадавых школ, асобных настаўнікаў.

Далей змешчана заметка з 20 радкоў «Школы Чушлікоўшчыны поўнасцю падрыхтаваны», дзе пералічваецца, якія школы гатовы да новага навучальнага года, і заметка «У Семянцах сарвана падрыхтоўка», дзе пералічаны школы, якія не гатовы да навучальнага года. Вось і ўсё, што было ў газеце аб падрыхтоўцы да навучальнага года. А можна было шырока паказаць перадавыя школы, бо газета «За коммунистическое просвещение» адзначыла добрую падрыхтоўку школ Полацкага раёна да навучальнага года.

Пасля гэтага нумара «Чырвоная Полаччына» амаль нічога не пісала аб школах.

Мы не задаволены такім «асвятленнем» работы школ. На асвету выдаткоўваюцца вялікія сумы грошай. Гэтыя грошы павінны да адной капейкі выкарыстоўвацца мэтазгодна. І задача газеты — глыбока ўскрыць прычыны дрэннай работы школ, шырока паказаць вопыт работы тых, якія добра працуюць, напрыклад, ветрынская ўзорная поўная сярэдняя школа, у якой ёсць чаму павучыцца.

Ужо прайшла палова навучальнага года, а газета ні слова не дае, як працуюць школы.

Трэба адзначыць няправільную тэндэнцыю «Чырвонай Полаччыны» даваць на сваіх старонках матэрыял толькі адмоўнага характару. Калі рэдактару тав. Зельманаву далі спісы лепшых і горшых школ, каб змясціць у памянёным вышэй нумары газеты, ён спіс горшых школ змясціў, а лепшыя выкрасліў.

Пытанні культуры, работы Дамоў сацыялістычнай культуры, ясляў, дзіцячых дамоў, пляцовак мы сустракаем на старонках «Чырвонай Полаччыны» ў большай частцы толькі пад рубрыкай «Пісьмы ў рэдакцыю». Даць-жа разгорнуты паказ становішча культурнага будаўніцтва ў раёне газета не хоча.

Калі не асноўнай, то, прынамсі, велізарнейшай культурнай сілай на вёсцы з'яўляецца настаўнік. Там, дзе правільна ім кіруюць, уцягваюць у грамадскую работу, ён праводзіць вялікую культурную работу. Настаўнікі нашага раёна праводзяць культурную работу ў калгасах, уключаюцца ў паход за асваенне мастацкай літаратуры калгаснікамі. У раёне арганізавана сіламі школ 45 гурткоў па чытцы мастацкай літаратуры. Некаторыя з іх распачалі работу, прапрацоўвалі «Паднятую цаліну» Шолахава і іншыя кнігі. Але дарэмна вы будзеце шукаць на старонках «Чырвонай Полаччыны» паказу культурнай работы настаўніка.

Ёсць у нас такія настаўнікі, грамадзкія работнікі, як т. Бруеў, які праводзіць налітзаняткі ў калгасе «Красавік», як т. Дамжонак, актыўны член сельсовета, яго ўчастак заўсёды наперадзе, пры яго актыўнай дапамозе арганізован новы калгас і інш. Вопыт іх работы трэба праз друк перадаваць другім. Гэта павінна ўлічыць у далейшай сваёй рабоце «Чырвоная Полаччына», шырока паказваць культурнае будаўніцтва на вёсцы і работу асобных актывістаў на культурным фронце.

* * *

## Газета праходзіць міма важнейшых спраў

**ГУРЭВІЧ М. Б. — урач полацкай гарадской больніцы.**

Змагацца за лепшае культурнае абслугоўванне працоўных, за ахову іх здароўя, за паляпшэнне матэрыяльна-бытавых умоў — справа гонару большэвіцкай газеты.

Аднак, гэтага не хоча зразумець наша раённая газета **«Чырвоная Полаччына»**. Гэтым пытаньням яна аддае вельмі мала ўвагі.

**Пытаннямі аховы здароўя газета амаль зусім не займаецца.** А імі трэба заняцца, бо іх недаацэньваюць у Полацкім раёне.

«Звязда» ў нумары за 5 студзеня пісала, як у Полацку адносяцца да спецыялістаў. Можна праілюстраваць гэта яшчэ радам фактаў. Восенню мінулага года 7 урачоў (Левін, Мацкевіч і інш.) выехалі з г. Полацка толькі таму, што іх не забяспечылі кватэрамі. І такое становішча, калі не клапоцяцца аб урачэбным персанале, прывяло да таго, што ў раёне зараз 28 урачоў з патрэбных 60. А «Чырвоная Полаччына» ўпарта маўчыць, не змагаецца за паляпшэнне бытавых умоў урачоў і іншых спецыялістаў.

**Не займаецца яна і работай ясляў, не** разумеючы, што клопаты аб спецыялістах, аб яслях ёсць клопаты аб паляпшэнні матэрыяльна-бытавых умоў усіх працоўных. Чым больш у раёне будзе ўрачоў, чым больш будзе арганізавана ясляў, тым лепш будзе абслужан калгаснік і калгасніца, рабочыя і другія працоўныя.

У рабоце полацкай больніцы ёсць многа дадатнага, якое варта таго, каб быць паказаным на старонках друку. Так, больніца арганізавала нядрэнную гаспадарку на 23 га зямлі: мае 22 дойных кароў, 33 свіньні, мае пчол, сад. Больніца заваявала трэцяе месца ў БССР па конкурсу на лепшую больніцу і атрымала прэмію 5.000 руб. Але «Чырвоная Полаччына» ні радка не дала аб гэтым.

Або хіба не цікава для кожнага працоўнага работа полацкага філіяла па пераліванню крыві? А газета маўчыць аб яго рабоце, хоць філіял існуе ўжо два гады.

Усе гэтыя пытанні газеце трэба ўзняць на сваіх старонках. Зараз арганізавана ў гор. Полацку навуковае таварыства ўрачоў. Яго работу таксама трэба паказваць на старонках газеты, бо гэта цікава і ўрачэбнаму персаналу, і студэнтам, і кожнаму працоўнаму раёна.

* * *

## Што робіцца на лесазаводзе, на цагельні?

**ЛАПУЦЭВІЧ ІВАН — рабочы лесазавода.**

Кожны нумар сваёй раённай газеты я ўважліва прачытваю, у кожным нумары шукаю пра прамысловасць гор. Полацка і амаль нічога не знаходжу. Зразумела, што асноўнае ў нашым раёне — сельская гаспадарка. І правільна робіць **«Чырвоная Полаччына»**, што многа ўвагі аддае ёй. Але не трэба забываць і пра прадпрыемствы, якія ёсць у нас.

**Я, як рабочы, хачу ведаць, што робіцца, напрыклад, на шпаларэзачным заводзе, на лесазаводзе горсовета, на цагельні, хлебазаводзе** і т. д. Я хачу ведаць, як там выконваецца промфінплан.

Я хацеў-бы, каб «Чырвоная Полаччына» пісала і пра лесазавод, на якім я працую. Чаму-б не паказаць работніцу-трусавозку **Леонаву** (прэміравана), якая пільна сочыць за варштатам, некалькі раз указала на перагрэў падшыпнікаў, хоць непасрэдна за работу варштата яна не адказвае. Або чаму-б не

наказаць, як наш завод, які ў 1933 годзе выканаў промфінплан толькі на 30.40 проц., дабіўся стопрацантнага выканання промфінплана ў 1934 годзе пры росце зарплаты на 10 проц.

**Трэба часцей і больш паказваць, што робіцца па гораду і раёну, даваць цікавыя здарэнні, тады газета стане больш жывой і цікавай.**

* * *

# Пра мясцовую прамысловасць газета забыла

**ГРЫНБЛАТ САВЕЛІ — рабочы картузнага цэха полацкай швэйнай прамыслова-кааператыўнай арцелі.**

Павінен адзначыць, што газета «Чырвоная Полаччына» нядрэнна асвятляе рад пытанняў. Шмат зроблена ёю па арганізацыі культурнага гандлю, гандлю хлебам і т. д.

Аднак, сёння мне хочацца ўказаць на некаторыя недахопы ў рабоце рэдакцыі. Першае, што я хачу заўважыць, гэта слабае асвятленне работы прамыслова-кааператыўных арцелей.

Ва ўмовах Полацка і раёна вялікую ролю ў снабжэнні працоўных промтаварамі шырокага ўжытку адыгрываюць **прамыслова-кааператыўныя арцелі.** Каб пацвердзіць гэта, даволі прывесці адну лічбу. Толькі на швэйнай арцелі, у якой я працую, у мінулым годзе выпушчана прадукцыі на суму 1.000.350 руб., на 1935 год запраектавана выпусціць прадукцыі на суму звыш двух мільёнаў рублёў. Раённая-ж газета вельмі рэдка займаецца работай арцелей. Даўно я ўжо нічога не бачыў на старонках «Чырвонай Полаччыны» аб іх рабоце. Толькі ў нумары за 1 студзеня змешчана невялікая заметка аб тым, што арцель «Чырвоны возчык» выканала сваё заданне па перавозках за 1934 год.

У швэйнай арцелі нядрэнна працуе маладзёжная брыгада. Наладжваецца культурна-масавая работа: арганізованы і працуюць яўрэйскі літаратурны гурток, палітгурток, драмгурток. Аб гэтым трэба пісаць у газеце, бо такі матэрыял будуць у арцелях чытаць з задаваленнем.

**Я з'яўляюся рэдактарам цэхавай насценгазеты. Але мне «Чырвоная Полаччына» слаба дапамагае.** Ні разу рэдактароў насценгазет не выклікалі ў рэдакцыю для інструктажу. А гэта трэба рабіць, бо калі рэдакцыя будзе інструктаваць нас, мы будзем лепш выпускаць насценгазеты і будзем ведаць, які матэрыял трэба даваць «Чырвонай Полаччыне» аб прамыслова-кааператыўных арцелях.

І апошняе. У арцелях многа працуе рабочых-яўрэяў, якія могуць чытаць толькі па яўрэйску. Газеце гэта трэба ўлічыць і часцей выпускаць яўрэйскія старонкі.

* * *

# Аб жыцці Чырвонай арміі пішуць толькі ў свята

**КАНАВАЛАЎ А. А. — адказны сакратар бюро партарганізацыі Н-скага палка.**

Чырвоная армія праводзіць велізарнейшую выхаваўчую работу. У Чырвонай арміі ёсць чаму навучыцца: і як праводзіць палітработу, і як выпускаць насценгазеты і т. д.

Аднак **«Чырвоная Полаччына»** ўспамінае аб Чырвонай арміі толькі адзін раз у год — у дзень Чырвонай арміі. Яна не ўлічвае таго, што чырвонаармейцы са здавальненнем прачыталі-б нарыс пра байца, карэспандэнцыю пра быт у Чырвонай арміі.

У нас ёсць такія байцы, як тав. **Сафронаў,** які прышоў з калгаса і сваёй настойлівай вучобай дабіўся таго, што яго зрабілі камандзірам аддзялення. Яго аддзяленне на працягу года трымае первынство ў палку. Камандзір узвода тав. **Белаусаў** дабіўся ўзорнай пастаноўкі работы ва ўзводзе. У дзень Чырвонай арміі к нам прыязджаюць лепшыя ўдарнікі прадпрыемстваў і калгасаў. Мы хочам, каб усё гэта было паказана на старонках раённай газеты.

Нядаўна мы дапамаглі правесці па калгасах палітдзень.

Для гэтага было вылучана 50 чалавек. Гэта мы будзем практыкаваць і надалей. Але трэба, каб аб усім гэтым пісала газета.

Нельга сказаць, каб у нас усё было зроблена ў галіне лепшага культурна-

бытавога абслугоўвання чырвонаармейцаў. Трэба многа яшчэ зрабіць у гэтым напрамку. І газета павінна нам дапамагчы.

І нарэшце, апошняе. **Я не бачу на старонках «Чырвонай Полаччыны» ні адной разгорнутай карэспандэнцыі аб асоавіяхімаўскай, абароннай рабоце.**

* * *

## Наша газета аднабокая

**ГАЛАВАЧ — нам. сакратара РК ЛКСМБ**

Наша раённая газета аднабокая. Яна займаецца толькі вытворчымі пытаннямі ў калгасах, упускаючы рад іншых пытанняў, асабліва культурных. Яна амаль зусім не асвятляе работу комсамольскіх, профсаюзных, грамадскіх арганізацый. А работа-ж гэтых арганізацый таксама накіравана на арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, і трэба гэта паказваць на старонках газеты.

Полацкая комсамольская арганізацыя — адна з буйнейшых у БССР. Аднак, за 1934 год у «Чырвонай Полаччыне» амаль нічога ні добрага, ні дрэннага не было аб яе рабоце. Больш таго, газета не падхапляе нашу ініцыятыву. Нядаўна мы правялі рэйд груп «лёгкай кавалерыі» па агляду работы культурна-бытавых устаноў, асабліва іх санітарнага становішча. Былі агледжаны 23 аб'екты. Мы прасілі, каб гэтай важнейшай справе аддалі хоць старонку ў «Чырвонай Полаччыне», але яна змясціла толькі невялічкую заметку радкоў на 50 у нумары за 27 снежня. Зразумела, у такой заметцы нельга было шырока паказаць агіднейшай антысанітарыі ў больніцах і другіх установах, каб мабілізаваць масы на знішчэнне гэтых недахопаў.

Газета не займаецца пытаннямі культурна-выхаваўчай работы. На гэтым фронце ў нас многа недахопаў, недаацэнкі культмасавай работы з боку кіруючых работнікаў. Напрыклад, клуб імя Максіма Горкага адзін з усіх клубаў праводзіў некаторую работу. А вось старшыня горсовета тав. Песін дае загад зняць у клубе тэлефон (гэта лішняя роскаш — кажа ён), адмовіўся адпускаць клубу дровы, у той час, калі ў гэтым клубе працуюць школа снайпераў, фізкультурная секцыя, ТРАМ.



**На віцебскай акулярнай фабрыцы. Працэс штампоўкі.**

* * *

## Не толькі выкрываць, але і вучыць трэба

**КАЗЛОЎСКІ — раённы ветэрынарны ўрач.**

**«Чырвоная Полаччына»** - нядрэнна выкрывае недахопы на жывёлагадоўчых фермах. На яе сігналах нямала шкоднікаў соцыялістычнай жывёлагадоўлі зняты з работы і аддаены пад суд.

Але калгаснік у праве патрабаваць ад рэдакцыі: дайце рэцэпт, як унікнуць адыходу, як гадаваць цялё, парасё, жарабё, як ліквідаваць звяргание кабыл і т. д.

Вось гэтага і не робіць «Чырвоная Полаччына». А рабіць гэта трэба. Я першы абавязваюся пісаць артыкулы на гэтыя тэмы. Не адмовяцца гэта рабіць і другія спецыялісты. Трэба толькі, каб газета змяшчала такія артыкулы.

Я. ЭСТЭРКІН

# ЧЫТАЧ ПЕРАРОС СВАЮ ГАЗЕТУ

Сумны, аднастайны шэрыя старонкі газеты **«Кімавец»** (орган парткома, фабкома і камітэта ЛКСМБ фабрыкі «КІМ», Віцебск). Багата і рознастайна жыццё рабочых фабрыкі.

Скончыўся рабочы дзень. Вясёлая, рэзвая моладзь групамі выходзіць з цэха. Ажыўлена і весела аб нечым спрачаюцца.

Аб чым гавораць рабочыя і работніцы?

Аб набыцці хатняй бібліятэчкі, аб кнігах пра чэлюскінскую эпапею, аб тэарэтычным аднадзённіку, арганізуемым парткомам у бліжэйшыя дні адпачынку, аб фізкультуры, катках і канцках, аб танцах, аб клубнай самадзейнай эстрадзе, аб «Чапаеве», аб вячэрняй школе, аб тым, хто атрымае права падпісаць рапарт XI з'езду саветаў БССР і т. д. і т. д.

Газета «Кімавец» адстала ад гэтага радаснага і кіпучага жыцця. Чужыя ёй вясёлыя мелодыі спеваў работніц, танцы і фізкультура, чужыя ёй кнігі і рабочая школа, тэатр і правядзенне масавага тэарэтычнага аднадзённіка, чужыя «Кімаўцу» і клуб, клубная эстрада, гурткі самадзейнасці. На старонках «Кімаўца» вы не сустрэнеце ні аднаго слова аб гэтым.

Адстала газета «Кімавец». Работніцы, якія нядаўна прышлі на фабрыку з вёскі, **перараслі газету.**

«Кімавец» выходзіць раз у пяцідзёнку. У апараце рэдакцыі тры работнікі.

Што яны робяць? Чым запаўняюцца старонкі газеты?

Абы чым. Прагледаючы камплект «Кімаўца», вы не знойдзеце ў ім цэнтральнага звяна работы газеты.

Старонкі газеты запоўнены матэрыялам аб бракаробах, аб рабоце «ЗОТ», аб тым, што неабходна працаваць па тэхпромфінплану,— змешчаны самаабавязацельствы многіх брыгад і т. д. Усё гэта неабходна, гэтымі пытаннямі газета абавязана штодзённа займацца. Але-ж «Кімавец» вядзе гэтыя пытанні неарганізавана, нямэтаімкнёна, самацёк пануе ў рабоце газеты.

Як арганізавана работа ў самой рэдакцыі?

Пытаюся ў таварыша **Левітана:** «За што ты канкрэтна адказваеш ў рэдакцыі?

«Я рэдагую матэрыял—гэта мой абавязак».



За рамонтам аўтамата
(Віцебск, ф-ка «КІМ»).

□ □

«А ты за што адказваеш?»—пытаюся ў другога работніка, тав. **Бялінскага?**

«Я таксама рэдагую матэрыял».

Ну, а рэдактар — яму-ж «па штату палажана» рэдагаваць матэрыял, што ён робіць?

І так уся рэдакцыя «рэдагуе», ніхто канкрэтна ні за што не адказвае.

Тав. **Магергут** — рэдактар «Кімаўца»—так расказвае пра арганізацыю работы рэдакцыі:

«Пасля выхаду газеты я складаю план наступнага нумара. Даю даручэнне работнікам арганізаваць матэрыял. Рэбята арганізоўваюць і прыносяць».

Аб тым, як работнікі «Кімаўца» «арганізоўваюць» матэрыял, расказвае старшыня фабкома тав. **Барынава:**

«Прыбягае да мяне работнік рэдакцыі з блакнотам у руках і просіць: расскажы, тав. Барынава, аб рамонце кватэр? Я, акружаная работніцамі, якія прыходзяць да мяне па розных пытаннях, адрываюся і на памяць расказваю

аб тым, што робіцца па рамонту. Работнік рэдакцыі запісвае. Назаўтра я чытаю ў «Кімаўцы» «грамавы» артыкул:. Рамонт зрываецца, замест 175 кватэр адрамантавалі 36 і т. д. Гэта ў той час, калі мы па плану абавязаны адрамантаваць 66 кватэр. Былі адпушчаны сродкі, матэрыял і, нарэшце, план рамонта перавыканан. Замест таго, каб глыбока унікнуць у справу, наша рэдакцыя налётам, несур'ёзна арганізоўвае матэрыялы».

Гэты расказ тав. Барынавай адлюстрадае сапраўднасці. «Кімавец» назаўтра забывае тое, што пісаў учора. У № 101 «Кімаўца» змешчан артыкул «Падрыхтавана (сустракаем зіму». У артыкуле расказваецца, што на фабрыцы ўжо адрамантавана 30 рабочых кватэр, што дырэкцыя адпусціла на рамонт 30.000 рублёў, што паасобным рабочым выдана па 650 рублёў і матэрыялы для рамонту, што заключаны дагаворы з жактамі і т. д. Змяшчаюцца пісьмы рабочых, якія дзякуюць дырэкцыю і грамадскія арганізацыі фабрыкі за канкрэтную дапамогу ў рамонце кватэр.

Але ў наступных 102 і 105 нумарах «Кімаўца» мы ўжо чытаем, што адрамантавана ўсяго 20 кватэр, што рамонт зрываецца, што фабком «у ролі чэснага балбатуна», што справы з рамонтам больш чым дрэнныя.

Работнікі рэдакцыі не лічаць патрэбным дэтальна высвятляць справу, добра вывучыць сутнасць і потым пісаць. Тав. **Барынава** і зараз яшчэ не ведае, што адказаць рэдакцыі на гэта выступленне газеты.

Прывядзем другі факт.

У нумары 111 «Кімаўца» была змешчана заметка «Пад акампанімент чорных глаз». У заметцы пісалася, што работніцы Аржаная, Стэркін, Навакоўская і інш. у часе работы пайшлі ў ленкуток спяваць «Черные глаза». Спевы так захапілі работніц, што яны кінулі работу, сарвалі выкананне плана змены.

Для праверкі матэрыялу газеты была вылучана камісія. Начальнік цэха тав. **Каган** даслаў у рэдакцыю вынікі праверкі. Канкрэтна было выяўлена, што ніякіх спеваў не было, што работніцы Аржанай не было нават у ленкутку, што ўвесь матэрыял выдуман, што, нарэшце, прычына зрыву плана ў нявыхадзе 15 работніц на работу. Але, не жадаючы падрываць гонар свайго мундзіра, газета друкуе ў адным з наступных нумароў:

**«Па заметцы «Пад акампаніментам чорных глаз» «Кімавец» № 65 (111) ад 30 лістапада мною за парушэнне праві унутранага распарадку як гапоўнаму вінойніку механіку Стэркіну пастаўлена на від.**

**Начальнік швэйна-кецельнага цэха КАГАН».**

Гэта прамое ашуканства рабочых. Гэта не метады работы партыйнай газеты, а антыпартыйныя, антысавецкія метады.

На фабрыцы—57 насценных газет. Аб колькасці-ж рабкораў рэдакцыя «Кімаўца» не мае ніякага ўяўлення.

Аб рабоце нізавых газет, кіраўніцтве імі з боку шматтыражкі расказваюць самі рэдактары газет.

Тав. **Марчэўская Вера** — рэдактар насценгазеты **«Ударніца»**, брыгады Васільевай, швейна-кецельнага цэха. «З 34 рабочых брыгады — расказвае тав. Марчэўская—у газету пішуць усяго 8, а сістэматычна—толькі 4 чалавекі. У большасці пішам аб бракаробах, дысцыпліне, аб грамадскай рабоце. Ніякай дапамогі з боку рэдакцыі «Кімаўца» не атрымліваю. Работнікі «Кімаўца» вельмі рэдка бываюць у цэху, рэдка чытаюць нашу газету. Можна было-б спыніць выпуск газеты і ніхто слова не сказаў-бы, бо ніхто не цікавіцца работай штодзенак. За рэагаванне на змешчаныя допісы змагаемся самі. Кожную заметку абмяркоўваем на сходах брыгады і тут-жа прымаем меры».

Аб адсутнасці ўсялякага кіраўніцтва нізавым друкам расказваюць і іншыя рэдактары: тав. **Падскотчэва** з брыгады Масаловіч, швэйна-кецельнага цэха, тав. **Гуткіна** з брыгады Гурвіч, вязальнага цэха і інш.

«Ніхто не цікавіцца нашай работай, ніхто не правярае нашых газет, ніхто не вучыць як працаваць»—вось аб чым гавораць, на што скардзяцца рэдактары нізавых газет.

Адсутнасць кіраўніцтва нізавымі газетамі прыводзіць да палітычных памылак у насценках. У насценгазеце брыгады Масаловіч аб забойстве тав. Кірава напісана так:

**«Таварышы! Ад рукі тэрарыстычнага забойцы былага члена Зіноўеўскай апазіцыі Нікалаева, які потым працаваў у Ленінградскім РСІ забіт тав. Кіраў».**

Ніхто не заўважыў, ніхто не выправіў памылкі газеты, бо ніхто з работнікаў «Кімаўца» і кіраўнікоў партарганізацыі не чытаў яе.

Многія рэдактары скардзяцца на тое, што ніхто не піша ў штодзёнкі, прыходзіцца самім членам рэдкалегіі пісаць.

На фабрыцы мелі месца выступленні супроць насценнага друку. Работніца **Рускіх** сарвала насценгазету за тое, што пра яе змясцілі матэрыял. **Паліцан, Трам, Беладзецкая** здзекваліся над членам рэдкалегіі **Ткачовай** за тое, што яна пакрытыкавала іх у газеце. Ёсць яшчэ рад фактаў праследвання рабкораў, зажыму самакрытыкі.

— Многія рабочыя, — заяўляе тав. **Падскотчэва,** — у сувязі з гэтым не хочуць пісаць, баяцца. А «Кімавец» абыходзіць усё гэта моўчкі. Гэта сведчыць аб палітычнай сляпаце, прытупленасці класавай пільнасці.

Аб колькасці рабкораў у рэдакцыі не ведаюць. Няма ўліку і паступаючых рабочых пісем. Шмат рабкораўскіх допісаў валяюцца на сталах, ніхто не звярачае на гэта ўвагі.

Рабочы тав. **Жахаў** расказвае «Падаеш допіс у газету, цэлы месяц ён ляжыць у рэдакцыі. А калі ўжо змяшчаецца, то пасля таго, калі прыняты меры».

Рэагаванне на матэрыялы газеты пастаўлена дрэнна. У апошні час, калі ўмяшаліся газеты **«Віцебскі пролетарый»** і **«Легкая индустрия»,** парткомам была прынята пастанова аб паляпшэнні рэагавання. Але яшчэ і зараз дзесяткі рабочых пісьмаў, патрабуючых рэагавання, ляжаць пад шклом на сталах фабкома, начальнікаў цэхаў і аддзелаў і нават парткома.

Слаба пастаўлена партыйнае кіраўніцтва нізавым друкам. Парторгі **Вайштэйн, Мірына, Багачова** не цікавяцца работай сваіх штодзёнак. Сходы рабкораў, нарады рэдактароў не праводзяцца. Партком пытаннямі работы фабрычнай газеты і штодзёнак не займаўся. Месяц таму назад парткомам была прынята пастанова аб рэагаванні на заметкі і разгортванні масавай работы з рабкорамі і рэдактарамі насценгазет. Але гэта засталося толькі пастановай.

Рэдактар «Кімаўца» тав. **Магергут** не патрабаваў ад парткома паляпшэння кіраўніцтва нізавымі газетамі і рабкорамі, не дабіваўся і рэагавання на допісы рабочых і работніц.

Увагу партыйнага камітэта да сваёй газеты характарызуе яшчэ наступны факт. **З трох работнікаў рэдакцыі адзін п'яніца, другі — сын былога буйнага гандляра,** брат яго нядаўна выслан і асуджан на 10 год.

Партком фабрыкі «КІМ» у першую чаргу нясе адказнасць за дрэннае становішча сваёй шматтыражкі і нізавога фабрычнага друку.

**Н. ТУРЫК**

**Рэдактар штодзенкі брыгады Норкінай фабрыкі «КІМ»**

# ВУЧЫЦЕ НАС ПРАЦАВАЦЬ

**Брыгада НОРКІНАЙ лічыцца лепшай на фабрыцы «КІМ».** Наша брыгада сталінская, трымае, пераходны сцяг Віцебскага гаркома комсамола. За паспяховае выкананне планаў 1934 года па ўсіх паказальніках наша брыгада дабілася гонару падпісаць рапарт XI усебеларускаму з'езду советаў. Наш брыгадзір тав. Норкіна — дэлегат з'езда советаў. Брыгада суцэльна зотаўская. Гэта заваявана брыгадай упартай барацьбой, адданай работай усіх нашых работніц.



тав. Н. ТУРЫК.

Штодзенка «За якасць» у заваяванні пералічаных дасягненняў займае вялікае месца.

Штодзенка «За якасць» выхад двухсотнага нумару якой мы святкавалі нядаўна, з'яўлялася тым калектыўным арганізатарам брыгады, якім павінна быць большэвіцкая газета.

**Як наша штодзенка дабівалася поспеxаў?** У сакавіку 1934 года вышаў першы нумар штодзенкі «За якасць». Тады наша брыгада не была перадавой. Многія работніцы рабілі брак, бо не аўладалі тэхнікай. Дысцыпліна была таксама дрэнная.

З першага нумара мы ў штодзенцы «За якасць» **выступілі па пытаннях аўладання тэхнікай.** Мы моцна крытыкавалі бракаробаў. Узялі пад агонь крытыкі комсамольскага арганізатара тав. Гінзбург, якая нічога не рабіла па паляпшэнню работы брыгады. Па нашай ініцыятыве быў арганізован гурток па вывучэнню тэхнікі.

Потым газета паставіла пытанне перад брыгадай аб ператварэнні брыгады Норкінай у суцэльна-зотаўскую.

Усё тое, чаго мы дабіліся зараз, далося не лёгка. На асобных работніц, як **Давыдава, Несцерава, Кісялёва,** не рабілі ўплыву нашы прызывы, яны дрэнна працавалі і зрывалі выкананне ўзятых абавязацельстваў. Мы пасля неаднаразовай крытыкі перадалі іх у таварыскі суд. Пасля гэтага яны папраўіліся, здалі тэхэкзамен, атрымалі значкі «ЗОТ» і зараз працуюць нядрэнна.

Штодзенка «За якасць» заваявала аўтарытэт сярод работніц брыгады. У ёй прымаюць удзел 15—17 работніц. **Зацікаўленасць газетай павялічваецца і тым, што мы кожную заметку абмяркоўваем на сходах брыгады, дабіваемся прыняцця мер па змяшчаемых матэрыялах.**

Займаемся мы амаль выключна вытворчымі пытаннямі. Вельмі рэдка яшчэ змяшчаем матэрыял аб рабоце грамадскіх арганізацый.

Тэматыка ў нас вельмі абмежаваная.

У гэтым ва многім вінавата рэдакцыя газеты «Кімавец». Вельмі рэдка «Кімавец» збірае рэдактароў штодзенак. Хоць калі работнік рэдакцыі і прыходзіць праглядзець газету, але канкрэтных указанняў ад яго мы не атрымліваем. Яшчэ вельмі дрэнна ў нас з афармленнем штодзенкі. Не заўсёды газета прывабна, граматна. Загалоўкі не выдзяляюцца, не заўсёды разборчыва напісаны заметкі. Ліквідаваць гэтыя недахопы — наш першы абавязак.

Трэба, каб рэдакцыя «Кімаўца» больш цікавілася нашай работай і дапамагала нам, вучыла нас. Вось чаго мы патрабуем.

Таксама і партарганізацыя фабрыкі. Больш увагі трэба аддаваць нізавым газетам, а то нашы парторгі ў цэхах зусім не цікавяцца штодзенкамі. Партком павінен гэта ўлічыць.





**Ударніцы-рабкоркі віцебскай панчошна-трыкатажнай фабрыкі «КІМ». Злева — тав. Логаш, брыгадзір сталінскай брыгады; справа — тав. Марчэўская Вера — рэдактар штодзенкі брыгады Васільевай.**

**В. МАРЧЭЎСКАЯ**

**Рэдактар газеты брыгады Васільевай, швэйна-кецельнага цэха**

# АКТЫЎНАСЦЬ РАБОЧЫХ — ВЫШЭЙ АКТЫЎНАСЦІ ШМАТТЫРАЖКІ

Работніцы нашай брыгады вельмі цікавяцца фізкультурай, мастацкай літаратурай, добрай кінокарцінай, тэатральнай пастаноўкай. Але не заўсёды ты ведаеш, што чытаць, што ідзе ў кіно або тэатры. А наша шматтыражка **«Кімавец»** гэтымі пытаннямі не цікавіцца, не арганізоўвае рабочых на правільнае і культурнае выкарыстоўванне вольнага ад работы часу.

На фабрыцы ёсць каток, але ніхто на ім не катаецца. Гавораць, канькоў няма. Няправільна, канькі ёсць, але ніхто не цікавіцца гэтым. Я лічу, што «Кімавец» павінен удзяляць увагу і гэтаму пытанню.

**Наш «Кімавец» вельмі мала піша аб рабоце групоргаў, брыгадзіраў і начальнікаў цэхаў.** Не цікавіцца «Кімавец» і работай ОРС'а, сталовай. Ёсць факты, калі там часта рабочых абважваюць і даюць нядобраякасныя прадукты, а на старонках газеты ні слова аб гэтым.

Я сама працую рэдактарам насценнай газеты. Ніводнага разу да мяне не прышлі з рэдакцыі «Кімаўца», каб пагутарыць накопт работы, праверыць газету. Яны зусім не цікавяцца маёй работай.

Атрымаеш газету «Кімавец», паглядзіш і чытаць не хочацца. Вельмі ўжо яна аднастайная і ўсё пра адно і тое-ж піша. Бываюць паасобныя выпадкі, калі і вершы змяшчаюцца ў газеце, як напрыклад, пасля забойства тав. **Кірава.** Тады газета цікавейшай становіцца.

Рабочыя нашы чытаюць кнігі. Вельмі было-б добра каб арганізаваць абмен думак аб прачытаным на старонках газеты «Кімавец».

Трэба сказаць, што **«Кімавец» адстаў ад рабочых і яму зараз патрэбна іх даганяць.**



**Адзін з пакояў новапабудаваных дзіцячых ясляў пры фабрыцы «КІМ».**

**НОВАЖЭНЕЦ**

**Ударнік-рабкор трыкатажнага цэха «КІМ»**

# ЗАГЛЯНІЦЕ У ІНТЭРНАТ

Зайдзіце ў інтэрнат пры нашай фабрыцы. Побач з чыстымі, узорнымі пакоямі дзяўчат многа нячыстых, некультурных пакояў, асабліва ў якіх жывуць хлопцы. Там кураць, усюды акуркі параскіданы, ёсць нават выпадкі хуліганства (пакой № 8 і 3). Ніяк нельга правесці культурна час пасля работы, у дзень адпачынку.

А наша газета **«Кімавец»** гэтым зусім не цікавіцца. Я лічу гэта вялікім недахопам рэдакцыі, дзе ёсць тры вызваленыя работнікі.

На выступленні газеты ў нас рэагуюць нядрэнна.

Вось, прыкладна, пісалі мы ў «Кімавец» аб недахваце шпулек у брыгадзе Князевай. Праз кароткі тэрмін шпулькі былі дастаўлены. Пісалі аб рамонце інтэрната — зрабілі рамонт.

Але шкада, што **газета ўпускае рад сур'ёзных пытанняў работы і жыцця рабочых фабрыкі.**

# Афармленне газеты— справа не толькі друкарні, але і рэдакцыі

## Пісьмо тав. Васілеўскаму—рэдактару Чырвонапольскай газ. „Чырвоны сцяг"

Тав. **Васілеўскі!** Наўрад ці трэба даказваць вам, рэдактару раённай газеты, велізарнае значэнне ў газеце правільнай і граматнай вёрсткі, культурнага і чоткага афармлення ўсяго зместу. Аб гэтым пісалася ўжо ў «Большэвіцкім друку», у журнале «Районная и политотдельская печать». Урэшце, вы напэўна сёе-тое чыталі аб гэтым і ў спецыяльнай літаратуры па пытанню вёрсткі.

У нашым пісьме мы хочам спыніцца на канкрэтных недахопах у афармленні рэдагуемай вамі газеты **«Чырвоны сцяг»**, указваючы аднача́сова, як-бы мы разверсталі матэрыял той ці іншай паласы, таго ці іншага аддзела.

Пачнем з **агульнага размеркавання матэрыялу ў вашай газеце.** Нельга сказаць, каб тут у вас была якая-небудзь сістэма. Прагледаючы камплект мы бачым, як у радзе нумароў вы раскідаеце па ўсіх старонках заметкі аднаго і таго-ж аддзела, заметкі, прысвечаныя аднаму і таму-ж пытанню. Няцяжка здагадацца, што ў такой вёрстцы больш ініцыятывы праяўляе вярстальшчык друкарні, чым выпускаючы — прадстаўнік рэдакцыі.

Вазьміце, напрыклад, хоць-бы нумар вашай газеты за 21 снежня. Паглядзіце, як няўмела раскіданы ў гэтым нумары заметкі аб ільне і жывёлагадоўлі. Вы іх знаходзіце і на першай і на другой старонцы. Заметкі — кожная сама па сабе. Яны не згрупаваны ў аператыўныя падборкі, не аб'яднаны, як гэта водзіцца ў газеце, «шапкаю». Такую вёрстку можна тлумачыць толькі поўным падначаленнем выпускаючага ўказанням метранпажа, які выходзіць толькі з памеру, а не са зместу. А пара ўжо ведаць, што форма ніяк неадлучна ад зместу і што выпадковае раскіданне заметак па ўсіх паласах — вялікая страта ў справе іх уплыву на чытача, іх дзейснасці.

Умела зробленая **падборка,** добра арганізаваны і прыгожа пададзены **аддзел** з чоткай «шапкай» — неабходныя элементы ў пабудове кожнай газеты. Падборка куды лепш уплывае на чытача, чым асобныя раскіданыя заметкі.

Паглядзіце на «Праўду», як яна рэзка выдзяляе кожны свой аддзел, кожную падборку. Паглядзіце, як «Праўда» большасць сваіх аддзелаў заўсёды змяшчае на адных і тых-жа месцы. Усё гэта спрыяе чытачу ў лепшым усваенні ўсяго зместу, дапамагае яму хутчэй знаходзіць матэрыял, патрэбны ў даны момант.

Прагледаем нумар вашай газеты за 28 лістапада. На другой паласе нібы «комсамольская старонка». Так, ва ўсякім выпадку, вы пішаце ў правым кутку, пад лінеечкай. А паглядзіце на змест, асабліва апошніх двух калонак, якія складаюць 50 процантаў гэтай старонкі. Зверху ідзе заметачка **«Разгарнулі палітвучобу».** І раптам за ёю падвёрстка: **«Японія прыступае к захвату Чахара».** Якая тут сувязь? А далей дзве заметкі агульнага зместу, накшталт «Нам пішуць»: **«Захаваць належным чынам с.-г. інвентар зімой»** і **«Дзе праверыць аблігацыі?».** Вы ўвялі ў зман чытача, падаючы яму такую нібы «комсамольскую старонку».

Возьмем вашы славутыя «пераносы», «падрэзкі», «працягі ў чарговым нумары». Ад іх проста жудасць бярэ. У нумары 118 у першых двух калонках першай старонкі ў вас быў змешчан перадавы артыкул. Дзве другія калонкі заняло «Пісьмо калгаснікаў калгаса «Усходняя зорка» — Козбудскага сельсовета. Чытаем пісьмо. Аказваецца ў ім няма пачатку. Пісьмо пачынаецца так:

> **«советы. Каб папярэдзіць гэта, нашым калгаснікам цяпер як ніколі трэба быць класава ПЫЛЬНЫМІ» і т. д.**

Не гаворым ужо пра агіднае скажэн-




Сустрэць Окцябрскае сьвята поўным выкананнем закупкі хлеба і ільнаэагатовак. Змыць пляма ганьбы адставання з раёна

Пісьмо калгаснікаў калгаса „Усходняя зорка" Коз-Будскага с-совета

СУСТРЭЦЬ ОКЦЯБР, вытворчым перамогамі

Прол. ўсіх краін, злучайцеся!

ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

Орг. Красноп. РК КП(б)Б, РВК і РПС

Пісьмо калгаснікаў „Усходняй Зоркі"



Злева на здымку няправільна зьвярстаная першая паласа чырвонапольскай раённай газэты „Чырвоны Сцяг". Справа ўзор нашага макета з тымі-ж матэрыяламі.

не слова «пільнасць», якое вы ператварылі ў «пыльнасць». Нас у данным выпадку цікавіць, дзе-ж пачатак пісьма калгаснікаў. Аказваецца пачатак пісьма вы дасціпна замаскавалі ў канцы перадавога артыкула. Вы завярсталі гэты пачатак пісьма ў адну калонку пад невялічкім 12-пунктовым загалоўкам і ўзялі яго, па невядомых нам меркаваннях, у дужкі:

## (ПАЧАТАК ПІСЬМА)

І вы лічыце, што такую паласу можна падаваць чытачу. Хіба можна, тав. Васілеўскі, так блытаць чытача? Хто з калгаснікаў, чытачоў вашай газэты, здагадаецца, што якіх-небудзь 40 радкоў пачатку пісьма вы завярсталі ў канцы перадавога артыкула? І наогул, дзе вы бачылі, каб у якасці пераносу служыў не канец артыкула, а пачатак?

Як-бы мы развярсталі гэту старонку? Скараціўшы перадавы артыкул на 10-15 радкоў і зьменшыўшы яго надзвычай грамоздкі, няўдалы загаловак, мы завярсталі-б перадавы на ўсю першую калонку. Ад гэтага ён выйграў-бы, больш вылучыўся-б, прыкаваў-бы да сябе ўвагу чытача. Загаловак газэты мы перакінулі-б у тры апошнія калонкі і пад ім развярсталі-б пісьмо калгаснікаў. Папрабуйце, тав. Васілеўскі, узяць гэты нумар, склеіць такі макет і вы ўбачыце, як ад гэтага выйграе паласа.

Па вашых няправільных пераносах і падрэзках відаць, як вы часамі зусім напрасна баіцеся скараціць заметку або артыкул на 5-10 радкоў. Пры ўмелым скарачэньні пяці радкоў зьмест артыкула ніколькі не парушыцца. А паглядзіце як вы ў № 118 зьвярсталі артыкул **«Як праводзіць селькораўскі рэйд»**. У велізарным артыкуле не ўвайшло ў другую калонку літаральна тры радкі. І вы іх пераносіце ў трэцюю калонку, падразаеце. Усё гэта гаворыць **аб адсутнасці ў работнікаў рэдакцыі элемэнтарных ведаў і жадання правільна афармляць сваю газэту.**

Злоўжываеце вы і рознымі **зводкамі, табліцамі.** У вас ёсць рад нумароў, дзе **на 2 чатырохкалонныя старонкі вы ўмудраецеся даць аж 3 зводкі-табліцы.**

Найбольш слабае ваша месца — гэта так званыя «падрэзкі», калі некалькі не ўвайшоўшых радкоў канца заметкі вы падвёрстваеце ў другія калонкі пад лінейку. Паглядзіце, як вы заверсталі ў 88 нумары пастанову ЦК СССР. Уся пастанова ў вас увайшла ў дзве калонкі, там, дзе звычайна даецца перадавы. Увайшоў і подпіс старшыні СНК тав. **Молатава** (да рэчы набраны нават не з абзаца). А для кіраўніка справамі СНК тав. **Міроўшнікава** «не знайшлося месца». І вы яго подпіс спакойна пераносіце ў наступныя калонкі, «падразаеце», так сказаць, пад лінейку. Дапускаць такія эксперыменты ў вёрстцы — гэта здзек над самым разуменнем афармлення газеты, здзек над чытачом. Гэтага не дапусціць нават насценная газета. А вы дапускаеце гэта ў раённай друкаванай газеце, якая павінна быць узорам для нізавога друку.

Вы запытаеце, які-ж выхад можна было знайсці? А выхад можна было знайсці вельмі лёгка, хоць-бы шляхам пераносу звычайнага радка «орган Краснапольскага РК КП(б)Б, РВК і РПС» у загаловак, дзе ёсць вольнае месца побач са словам «сцяг». Ад гэтага вы выйгралі-б 2-4 патрэбныя радкі.

У вашай вёрстцы пануе адзін прынцып: развёрстваць кожную заметку адну за другой на дзве калонкі. Ніхто — ні сакратар газеты перад адпраўкай матэрыялу ў друкарню, ні выпускаючы — не думае аб тым, **якім шрыфтом** і як лепш падаць дадзеную заметку: **на адну, на дзве або на тры калонкі, або падвярстаць яе падвалам.** Да рэчы, што такое падвальчык? Чытач чырвонапольскай газеты не бачыў такой формы падачы матэрыялу ў «Чырвоным сцягу». А гэта далёка не мудрая форма часамі значна ажыўляе паласу.

Вазьміце вашу заметку **«Папярэдзіць зрыў прыёмкі ільнотрасты заводам»** (№ 93). Як-бы прыгожа яна выйшла, калі-б вы яе заверсталі падвальчыкам на першых трох калонках. Вы-ж пачалі заметку пад перадавым, а радкі, якія не ўмясціліся «падразаеце» на дзве апошнія калонкі пад лінейку. Як шкада, што такая форма вёрсткі, якая дапускаецца толькі ў выключных выпадках, у вас практыкуецца амаль у кожным нумары (№№ 74, 87, 94, 95, 99, 111, 114, 128, 129 і т. д.).

Тэхнікай вёрсткі рэдакцыя павінна дапамагаць чытачу хутчэй знаходзіць найбольш актуальны сёння матэрыял. У «Чырвоным сцягу», напрыклад, не знойдзеш заметак, набраных на дзве калонкі, тлустым шрыфтом, або разбітых на шпоны, **заметак, выдзеленых чым-небудзь сярод іншага матэрыялу.** А гэтыя сродкі паліграфічнага афармлення значна дапамаглі-б зрабіць газету больш даходчывай да чытача, больш усцяпыймальнай. Вы гэта ігнаруеце.

На старонках «Чырвонага Сцягу» не заўважыш ніякай адбіўкі загалоўкаў, у газеце за ўвесь час не было ні аднаго клішэ. Усе старонкі як адна: шэры, аднастайны тэкст.

На загалоўках і «шапках» вашай газеты варта спыніцца асобна. Хіба нельга дабіцца, каб загаловак сваім зместам і формай хоць крыху прыцягваў чытача. Шрыфты ў вас да таго пераблытаны, што ў іншае слова пападаюць літары чатырох узораў, чатырох розных гарнітур.

**Вялікім недахопам для работніка газеты з'яўляецца і няведанне шрыфтоў.** Асабліва гэта датычыць таго кола работнікаў, якія непасрэдна звязаны з друкарняй, якія афармляюць газету. У вас, мяркуючы па старонках газеты, не аўладалі шрыфтамі. Часамі вы набіраеце загаловак светлым корпусам, які нічым не выдзяляецца ад звычайнага радка

КАЛГАС „ПЕРАМОГА" ГАРАДЗЕЦКАГА С/С

КАТУШЭНКА

Няправільная вёрстка заметкі „Пакончыць з недаацэнкай масава-растлумачальнай работы". 10 радкоў пачатку заметкі вынесены і падрэзаны ў 2-гой калонцы, пад перадавым артыкулам.

вашага тэксту (№ 75). Або, наадварот, загаловак займае каля паловы ўсяго артыкула (перадавы № 107). Загаловак перадавога артыкула ў № 124 займае 5 радкоў. Набран ён буйным тлустым шрыфтом. На гэтай плошчы ўмясціла-ся-б 26 радкоў тэксту. У перадавым 127-га нумара вы «плошчу» пад адзін толькі загаловак павялічваецца ўжо да размераў, дзе смела ўмяшчаецца заметка па 30 радкоў. Хіба гэта загаловак перадавога артыкула:

> **«Да раённага з'езда советаў засталося 3 дні. Усе сілы і сродкі на поўнае выкананне паставак, хлеба, бульбы, мяса, загатовак, тэхкультур, закупак хлеба, бульбы, да з'езда. Зняць раён з чырнай дошкі».**

Пасля такога загалоўка чытачу не астанецца чаго чытаць у перадавым артыкуле. На граматнасць-жа гэтага загалоўка могуць навесці крытыку нават вучні пачатковай школы.

За граматнасць газеты адказвае і **карэктар.** Якасцю работы вашага карэктара вы павінны пацікавіцца. Ці ведае ён беларускую мову, ці знаём з новым правапісам? Чаму ў газеце замест «ВКП(б)» з'яўляецца «УсеКП(б)Б», чаму замест слова «класавая пільнасць» карэктар прапускае «класавая пыльнасць»? **Пастаўце, урэшце, справу так, каб за бязграматнасць газетнай паласы канкрэтныя вінаватыя адказвалі не толькі перад чытачамі, але і перад рэдакцыяй.**

У барацьбе за культурную, чотка надрукаваную газету вялікую ролю адыгрывае і **друкар.** А паглядзіце, што ў вас робіцца на другой старонцы 82 нумара, як раз'ехалася ўся паласа, як парассоўваліся лінейкі. Дзе быў друкар, калі друкаваў такую паласу? Не думайце, што чытач-калгаснік не заўважыць гэтага браку.

Такога браку ніяк нельга дапускаць далей. Яго можна пазбавіцца. Збярыце, т. Васілеўскі, увесь свой калектыў, уключаючы і вярстальшчыкаў, і наборшчыкаў, і нават друкара і правядзіце з імі некалькі гутарак аб паляпшэнні якасці выпуску газеты. Дабіцеся таго, **каб работнік, які адказвае за афармленне газеты, прачытаў хоць пару кніжак па гэтаму пытанню,** прачытаў хоць тыя матэрыялы, якія друкаваліся на старонках «Большэвіцкага друку».

Адказны за афармленне газеты работнік рэдакцыі павінен ведаць, што форма ніяк неадлучна ад зместу і што **у кожнай друкарні ёсць тыя ці іншыя сродкі для таго, каб выдзеліць, выпукліць перад чытачом той матэрыял, які мае найбольш актуальнае палітычнае значэнне.** Падача матэрыялу ў добра арганізаваных падборках, **выдзяленні пры дапамозе шрыфтоў і набору розных фарматаў, малюнкі, карыкатуры, адпаведная развёрстка матэрыялу, ініцыятыўная, правільная і граматная падача «шапак» і загалоўкаў і, урэшце, нават звычайная друкарская лінейка — усё гэта магутныя сродкі паліграфічнага афармлення газеты.** Іх вы павінны ведаць і выкарыстоўваць.

Добра афармленая, правільна зверстаная газета — паказальнік таго, што рэдакцыя змагаецца за даходчывасць да чытача ўсяго зместу. Дык пастаўце, т. Васілеўскі, справу так, каб чытач не пытаў у вас — хто так бязграматна афармляе раённую газету. Няхай для работніка вашай газеты будзе ганарам арганізоўваць чытача-калгасніка не толькі зместам, але і правільнай вёрсткай газетнай паласы.

**З таварыскім прывітаннем выпускаючы журнала «Большэвіцкі друк»**

**А. МАТУСЕВІЧ.**

# Своечасова і правільна ўскрылі нашы недахопы

## Адказ на адкрытае пісьмо тав. Паўлоўскага

Уважліва прачыталі ўсе работнікі **«Комунара»** адкрытае пісьмо т. Паўлоўскага ў 23 нумары «Большэвіцкага друку». У той-жа дзень, як быў атрыман нумар журнала, я сабраў нараду работнікаў рэдакцыі і пункт за пунктам мы разабралі пісьмо.

«Большэвіцкі друк» праз пісьмо т. Паўлоўскага зусім правільна і своечасова ўскрыў недахопы нашай работы — такава аднадушная думка ўсіх работнікаў газеты.

На рэдакцыйнай нарадзе мы парашылі пачаць сістэматычны паказ на старонках газеты лепшых ударнікаў— жывых арганізатараў соцыялістычнага будаўніцтва і знатных людзей прамысловасці (лесазавода імя Халтурына, картоннай фабрыкі імя Сталіна, гарадскога камбіната, леспрамгаса, саматужных арцелей), сельскай гаспадаркі і фронту культурнага будаўніцтва (школ, педтэхнікума, Турскай навукова-даследчай станцыі і т. д.). Гэту работу мы ўключаем у агульны план рэдакцыі і ў план кожнага аддзела. Зразумела, гэтых ударнікаў мы пакажам на фоне поспехаў прадпрыемства, калгаса і ўстановы.

Апрача таго мы арганізоўваем у цэнтры горада **вітрыну знатных людзей** Рагачоўскага раёна. Там па хадайніцтву агульных сходаў і па пастанове рэдакцыйнай нарады будуць выстаўлены партрэты лепшых ударнікаў.

Выправілі мы ўжо і ўказаны ў пісьме т. Паўлоўскага істотны недахоп газеты — друкаванне пераважна выкрываючых заметак — «крымінальнай хронікі», як назваў гэта т. Паўлоўскі. З апошніх нумароў нашай газеты вы можаце ўпэўніцца, што больш гэтага няма.

Зусім правільна абвінавачвае нас т. Паўлоўскі ў адсутнасці ў газеце інфармацыі. Правільна і тое, што нашы работнікі яшчэ не ўмеюць пісаць інфармацыйных заметак.

Пытанне аб вучобе кожнага работніка рэдакцыі мы сур'ёзна абмеркавалі на сваёй рэдакцыйнай нарадзе.

Якія-ж мы маем вынікі ў гэтай галіне?

У нас акуратна працуе пачатковая комсамольская палітшкола (большасцьжа нашых работнікаў — комсамольцы). Арганізавалі мы літаратурны гурток, заняткі якога будзем праводзіць раз у дэкаду. (Першыя заняткі ўжо адбыліся і прайшлі нядрэнна).

Практыкуем мы ў сябе і рэдакцыйныя нарады, на якіх крытыкуем асобныя нумары сваёй газеты, даем указанні работнікам, як ім выправіць памылкі, недахопы. Праўда, за апошні час гэтыя нарады ў нас неяк спыніліся, але зараз мы зноў будзем іх рэгулярна праводзіць.

На 1935 год усе работнікі рэдакцыі забяспечаны журналамі «Большэвіцкі друк» і «Рабоче-крестьянский корреспондент», якія вельмі дапамагаюць нам у рабоце.

Вядома, гэтым мы не абмяжоўваемся, большасць работнікаў рэдакцыі чытаюць мастацкую літаратуру, працуюць над творамі Леніна і Сталіна.

Спадзяюся, што ўсе намечаныя намі мерапрыемствы значна падымуць наш узровень, дапамогуць нам лепш авалодаць тэхнікай сваёй справы, а значыць і палепшыць газету.

Чакаю ў бліжэйшы час указанняў і заўваг аб якасці апошніх нумароў «Комунара». Думаю, што «Большэвіцкі друк» увагу да рагачоўскага «Комунара» не аслабіць і ў далейшым.

**З комуністычным прывітаннем рэдактар «Комунара» А. ЛЕВІН.**

# Аб плане і планаванні газетнай работы*)

План газеты павінен выходзіць з неабходнасці задаволіць усебакова запатрабаванні свайго чытача.

Рабочы, калгаснік прымаюць актыўны ўдзел у палітычным, вытворчым і культурным жыцці нашай краіны. Яны цікавяцца не толькі тым, што робіцца на заводзе, у калгасе, але і тым, што робіцца ў краіне ў цэлым, за граніцай. Яны цікавяцца пытаннямі культурнага будаўніцтва, тэатрам, спортам і т. д.

Кожная газета **абавязана** гэтыя патрабаванні ўлічыць і будаваць план у адпаведнасці з гэтым. Зразумела, што на першым месцы пытанні вытворчыя. Але дрэнная тая газета, якая абмяжоўвае сваю работу толькі пытаннямі вытворчасці, бо правільная арганізацыя вытворчасці прадпалагае штодзенную, добра арганізаваную работу над падняццем культурнага ўзроўню рабочых і калгаснікаў, над усебаковым іх абслугоўваннем. Гэта значыць, што ў плане павінны знайсці сваё месца і пытанні становішча міжнароднага рабочага руху, і інфармацыя аб жыцці СССР, і пытанні культурнага абслугоўвання і т. д.

План газеты павінен складацца на пэўныя, дакладна акрэсленыя тэрміны.

Мы лічым мэтазгодным распрацоўваць планы дваякага роду:

1. Планы, якія ахапляюць працяжны перыяд работы (у сельскай гаспадарцы гэта планы, якія ахапляюць вялікі цыкл работы — веснавы, асенні, зімовы; у прамысловасці — гэта квартал). У гэтым плане павінны быць намечаны вузлавыя пытанні, форма іх пастаноўкі ў газеце і, што асабліва важна, сістэма мерапрыемстваў па арганізацыі мас (работа з рабселькорамі, з рэдактарамі насценных газет, з лепшымі вытворцамі і т. д.), звязваючы гэтыя мерапрыемствы з канкрэтнымі задачамі плана.

2. Асноўваючыся на гэтым перспектыўным плане, належыць скласці план на больш кароткі тэрмін (месяц, 15 дзён, дэкада — у залежнасці ад абстаноўкі). Гэты план павінен быць ужо больш дэталізаваным. У ім павінны быць дакладна ўстаноўлены тэмы выступленняў, канкрэтныя выканаўцы, метады арганізацыі **і т. д.**

Складаючы месячны або дэкадны план, неабходна **загадзя прадумаць асноўны змест кожнага нумара,** загадзя павінна быць устаноўлена, якія пытанні будуць стрыжнявымі, рашаючымі ў тым ці іншым нумары, вызначыць яго твар.

Пры складанні плана нумара нельга падыходзіць ураўнілаўскі да ўсіх пытанняў. Сіла бальшэвіцкага друку ў тым, што ў кожны даны момант мы мабілізуем масы вакол асноўных, рашаючых, вузлавых задач. Выпукленне асноўных задач дапамагае адначасова бачыць і задачы другарадныя, дапамагае адводзіць ім іменна тое месца, якое яны заслугоўваюць.

### ПЛАН І ЯГО ВЫКАНАННЕ

Складаннем плана справа, натуральна, не заканчваецца. Тав. **Сталін** не раз падкрэсліваў, што сапраўднае планаванне толькі пачынаецца пасля таго, як план складзен. План газеты мае справу з жывымі людзьмі. Гэтымі людзьмі трэба кіраваць. Сутнасць кіраўніцтва заключаецца ў тым, каб актыўна змагацца за выкананне плана газеты, на хаду ўносіць неабходныя змены ў адпаведнасці з тымі зменамі, якія адбываюцца ў акружаючых умовах.

Ёсць рэдактары, якія думаюць, што даволі скласці план, каб далей усё пашло ў парадку самацёку. Гэта шкодны, не бальшэвіцкі падыход. Толькі тады газета будзе выконваць сваю ролю калектыўнага арганізатара, калі план стане штодзеннай сапраўднай дырэктывай к дзеянню, прычым такой дырэктывай, правільнасць якой кожны дзень правяраецца на вопыце асобных мерапрыемстваў, праводзімых газетай.

Чым рашаецца поспех гэтай газеты?

Па-першае, чоткай расстаноўкай сіл. Звычайна рэдактары шматтыражак спа-

---

*) Пачатак глядзі ў №№ 23 і 24.

сылаюцца на немагчымасць правільна размяркоўваць сілы, паколькі людзей у газеце мала, неабходна пастаянна раз'язджаць і т. д.

**Размяркоўваць сілы трэба не толькі тады, калі іх многа, але ў асаблівасці тады, калі іх мала.**

Што значыць правільна расставіць сілы? Гэта значыць — кожнай справе даць канкрэтнага выканаўцу.

Па-другое, неабходна дакладна ўстанавіць канкрэтныя тэрміны рэалізацыі кожнага пытання.

Па-трэцяе, загадзя прадумаць канкрэтныя формы рэалізацыі кожнага пытання.

Рэдактар палітаддзельскай газеты «За большевистские колхозы» склаў выдатны план, аднак, план гэты не быў рэалізован. У Вяцка-Палянскай МТС у раёне яе дзейнасці значная колькасць аднаасобнікаў. Газета правільна высунула лозунг: «Дапамагчы працоўным аднаасобнікам уступіць у калгас», але лозунг астаўся толькі лозунгам. У самой газеце ён адлюстравання не знайшоў. Між тым газета мела ўсе магчымасці гэты лозунг рэалізаваць, звязаўшы яго выкананне з правядзеннем вытворчага паходу імя XVII партыйнага з'езда.

Ці можна арганізаваць размеркаванне работы ў палітаддзельскай газеце? Можна і трэба. Возьмем найбольш цяжкі выпадак. У газеце працуе адзін работнік. Ці значыць гэта, што газету робіць адзін чалавек? Не, ні ў якім разе. Палітаддзельская газета, як і газета заводская, робіцца цэлым калектывам. Правільна арганізаваць работу газеты — гэта значыць прыцягнуць к газетнай рабоце ўвесь актыў, які ёсць у даным палітаддзеле, скарыстаць кіруючыя кадры палітаддзела, скарыстаць спецыялістаў, скарыстаць у парадку грамадскай работы лепшых селькораў, настаўнікаў, палітасветработнікаў і т. д.

**Задача рэдактара ў тым і заключаецца, каб забяспечыць такое становішча, пры якім кожны нумар газеты робіцца магчыма большай колькасцю людзей.** Не гнацца за павелічэннем штата, не ператвараць рэдакцыю ў дэпартамент, а будаваць газету на аснове максімальнага прыцягнення добраахвотніцкага актыва, правільна арганізуючы работу гэтага актыва. Толькі пры гэтай умове можна забяспечыць правільнае скарыстанне рабочых пісем, сапраўдную апору газеты на найшырэйшыя масы рабочых і калгаснікаў.

Выкананне плана не завяршаецца выпускам нумара газеты. Сіла большэвіцкага друку ў яго дзейснасці. Патрабаванні партыі аб усямерным узмацненні праверкі выканання, указанні на тое, што праверка выканання з'яўляецца састаўным элементам кіравання, арганізацыі работы, у поўнай меры адносіцца і да газеты.

**Толькі тая газета да канца выконвае сваю функцыю калектыўнага арганізатара, якая кожную справу даводзіць да канца, па кожнаму свайму выступленню дабіваецца рэзультатаў.** Іменна дзейснасць выступленняў газеты вызначае яе аўтарытэт. Газета, якая заваявала сваёй работай, веданнем справы пэўны аўтарытэт, лягчэй за ўсё дабіваецца рэзультатаў па сваіх выступленнях. Усе шляхі павінны быць выкарыстаны для таго, каб кожную справу даводзіць да канца. **Правяраць рэзультаты можна і з дапамогай спецыяльных брыгад, і праз рабселькораў, і праз лепшых вытворцаў, і праз нізавыя партыйныя арганізацыі, і праз пракуратуру, міліцыю** і т. д. Скарыстаць трэба іменна ўсе шляхі, памятаючы, што ўсякі метад, усякая форма праверкі выканання добрая, калі толькі яна забяспечвае хуткае знішчэнне недахопаў, паляпшэнне работы. У рознай абстаноўцы, у залежнасці ад канкрэтных умоў і прыходзіцца звярачацца да розных форм уздзеяння.

Рэагаваннем на выступленні газеты трэба лічыць не адніські аб тым, што меры прыняты, а **паказ сапраўдных рэзультатаў.** Газеты абавязаны паказваць свайму чытачу рэзультаты па найбольш важных выступленнях. Ва многіх газетах ёсць аддзелы «Па слядах выступленняў». «Нам адказваюць» і т. д. Такія аддзелы патрэбны і карысны пры ўмове, калі яны гавораць аб сапраўдных справах, а не з'яўляюцца месцам збору канцылярскіх адпісак. Вось, напрыклад, газета СВАРЗ'а «На канавах» надрукавала наступны адказ на заметку:

«На заметку «ОРС, падумай аб ударніку» дырэктар ОРС тав. Быкаў адказвае: «Паведамляю, што ОРС думае аб ударніку, але ў сучасны момант у многіх звольненых з завода ёсць на руках ударныя кніжкі, што нават не ўдаецца ўлічыць. Пытанне зараз вырашана: у бліжэйшы

час ў цэхах будуць выдаваць новыя ўкладкі ва ўдарныя кніжкі, і тады будзем снабжаць ударнікаў».

Горшы від канцэлярскай адпіскі. Газета гэту адпіску надрукавала, суправадзіўшы доўгай заўвагай ад рэдакцыі на тэму аб тым, што «і ОРСу і заўкому папра прыняць канкрэтныя меры для паляпшэння снабжэння ўдарнікаў, праводзячы гэты клопат аб ударніку штодзенна, а не рыўкамі, не штурмоўшчынай».

**Гэта не барацьба за дзейснасць.** Тут мы маем справу з заменай барацьбы за дзейснасць балбатнёй. На жаль, такая балбатня часта сустракаецца на старонках газеты. Людзі часамі радуюцца ўжо таму, што ім проста адказалі. Такі падыход — не бальшэвіцкі падыход. Бальшэвіцкая барацьба за дзейснасць — гэта барацьба за сапраўднае паляпшэнне работы, за хуткае знішчэнне выяўленых недахопаў.

Пастаянна памятаць і выконваць указанні тав. Сталіна на XVII партыйным з'ездзе — важнейшы абавязак кожнага рэдактара.

«Можна з упэўненасцю сказаць, што дзевяць дзесятых нашых прарэх і прарываў тлумачацца адсутнасцю правільна пастаўленай праверкі выканання. Не можа быць сумнення, што пры наяўнасці такой праверкі выканання прарэхі і прарывы былі-б напэўна папярэджаны».

«Але каб праверка выканання дабілася мэты, неабходны прынамсі дзве ўмовы: па-першае, каб праверка выканання была сістэматычная, а не эпізадычная; па-другое, каб на чале справы праверкі выканання ва ўсіх звеннях партыйна-савецкіх і гаспадарчых арганізацый стаялі не другарадныя асобы, а davolі аўтарытэтныя людзі — самі кіраўнікі арганізацыі» **(І. Сталін).**

**(З кнігі «Рэдагаванне і масавая работа бальшэвіцкага друку»).**

## АРГАНІЗАЦЫЯ РАБОТЫ Ў РЭДАКЦЫІ

☆ ☆ ☆

# Аб рабочым дні рэдактара шматтыражкі

**(У парадку абмеркавання).**

Рэдактар газеты менскага хлебакамбіната тав. **Язмір** скардзіцца: «Да двух ночы прыходзіцца быць на заводзе, няма часу нават чытаць газеты, дома бываю рэдка. Не астаецца часу для вучобы, сям'і».

Тав. Язмір часта нават начуе ў парткоме, дома бывае рэдка. Рэдка чытае газеты, мастацкай літаратуры зусім не чытае.

Вось фатаграфія аднаго рабочага дня рэдактара.

Прышла на завод у 9 гадзін раніцы. Пашла ў цэх, гутарыла з брыгадзірамі аб рабоце, з бракёрамі, на гэта пашло 40—50 мінут. З 10 да 11 з пал. выконвала заданні парткома па афармленню вестак для гаркома аб рабочай сіле. З 11 з пал. да 13 з пал. гадзіны правярала матэрыял перад здачай у друкарню. Потым занесла матэрыял у друкарню. Перапынак на абед. Пасля абеду правярала матэрыял аб шавіністычнай вылазцы. З 17 да 24 гадзін прымала ўдзел у пасяджэнні трыкутніка камбіната. З 24 да 2 з пал. гадзіны ночы пісала перадавую ў газету і артыкул аб калдагаворнай кампаніі.

Гэта малюнак рабочага дня тав. Язмір за 14 снежня 1934 года, за два дні да выхаду чарговага нумара газеты.

Такіх дзён шмат.

Як бачыце, рабочы дзень цягнуўся 18 гадзін. У гэты дзень тав. Язмір не чытала газет, дамоў прышла не раней 4 гадзін ночы. Хто вінават у гэтым? У чым няправільнасць арганізацыі работы тав. Язмір? Перш за ўсё гэта адсутнасць плана работы. Тав. Язмір прышла на завод і не ведае з чаго пачаць. Яна ідзе ў цэх, гутарыць з брыгадзірамі, рабочымі, бракёрамі. Гэта неабходна. Але які толк, калі за 40 мінут яна пагаварыла з дзесяткам людзей ды яшчэ ў часе работы.

Потым тэхнічная работа па афармленню вестак аб рабочай сіле. Ці гэта справа рэдактара? Або гэта пасяджэнне з 17 да 24 гадзін.

А пасля ўжо 24 гадзін тав. Язмір пі-

ша перадавы артыкул для газеты. Аб якасці гэтага матэрыялу пасля 7-гадзінных мытарстваў на пасяджэнні гаварыць не прыходзіцца.

***

**Бясплананавасць, дрэнная арганізацыя рабочага дня, трата каштоўнага часу ўпустую — гэта хвароба не толькі ў рабоце т. Язмір, але і многіх рэдактароў фабрычна-заводскіх газет.**

Рэдакцыя просіць рэдактароў фабрычна-заводскіх шматтыражак выказацца на старонках журнала па сутнасці гэтага пытання.

Раскажыце, як у вас арганізавана работа, ваш рабочы дзень. Колькі адводзіце часу чытанню газет, літаратуры, рабоце над сабой. Апішыце ваш рабочы дзень, грамадскую работу. Напішыце вашу думку, як лепш арганізаваць рабочы дзень рэдактара фабрычна-заводскай газеты.

# Усё засталося па-старому

**(Пісьмо работнікаў раённай газеты)**

Рэдакцыі нашай газеты **«Ленінскі шлях» (Сіроціна)** не раз указвалі на буйныя недахопы ў яе рабоце. Аб вельмі дрэннай рабоце газеты з рабселькорамі і пісьмамі працоўных «Бальшэвіцкі друк» пісаў яшчэ ў студзені мінулага года.

Цяпер — студзень 1935 года, а справы ў рэдакцыі нікольк не палепшыліся. Па-ранейшаму амаль ніякай работы з рабселькорамі ў раёне няма.

Характэрны наступны факт. Райком партыі два разы выносіў пастановы аб скліканні раённага злёта рабселькораў. Першая пастанова была вынесена за восем дзён да дня, у які меркавалі адкрыць злёт. Ніякай падрыхтоўкі правесці не ўдалося. Злёт рашылі адкласці.

Другая пастанова была апублікавана за пяць дзён да злёта. Большасць селькораў не паспелі нават даведацца аб тым, што склікаецца злёт. У рэзультаце на злёт з усяго раёна прыехала толькі 26 селькораў.

**Рэдактар газеты т. Шэпелеў вельмі мала цікавіцца работай газеты.** Вось у якім становішчы знаходзіцца зараз наша рэдакцыя. У рэдакцыі работнікаў, апрача рэдактара, толькі два. Апрача арганізацыі матэрыялу, апрацоўкі селькораўскіх заметак мы-ж і карэктары, і выпускаючыя, і тэхнічныя работнікі, адным словам—«універсалы». Вядома, якая якасць работы можа быць пры такой пагрузцы.

Пашукалі мы для работы ў рэдакцыі тав **Скобава,** аднаго з актыўных нашых селькораў. Тав. Шэпелеў нават не пагутарыў з ім, не даў ніякіх указанняў, парад, а адразу-ж паслаў у сельсовет. Па заданню рэдактара т. Скобаў за тры дні павінен быў арганізаваць для газеты матэрыял адразу па пяці розных пытаннях. Зразумела, тав. Скобаў не змог справіцца з даручэннем і пакінуў работу ў рэдакцыі. Так рэдактар Шэпелеў адносіцца да селькораў-вылучэнцаў.

Другі факт. Не так даўно на працягу двух дзён наш рэдактар не прышоў у рэдакцыю. Кінуліся мы даведвацца: што здарылася? Заходзім у райком партыі і даведваемся, што Шэпелеў ужо два дні, як паехаў у адпачынак. Ідучы ў адпачынак, Шэпелеў не палічыў патрэбным хоць-бы сказаць аб гэтым работнікам рэдакцыі. Мы не гаворым ужо аб тым, што трэба было даць указанні, як нам працаваць, што рабіць.

Цяпер газета пакінута па сутнасці без ніякага кіраўніцтва. Ні па рэдакцыі, ні па друкарні яшчэ не складзен нават каштарыс на бягучы год.

Просім аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б зацікавіцца становішчам нашай газеты і паводзінамі яе рэдактара.

**І. КАЛТУНОЎ, Т. ГАНЧАРОЎ —работнікі газеты «Ленінскі шлях».**

# Калі-ж вы навучыцеся граматна пісаць?

Мы працуем настаўнікамі ў Полацкім раёне і выпісваем ушацкую раённую газету **«Прымежны калгаснік».** Газета выдаецца так няграматна, што лічым патрэбным давесці аб гэтым да ведама грамадскасці.

Рэдакцыя «Прымежнага калгасніка» на старонках газеты ўзаконьвае каверканне беларускай мовы, не лічыцца з граматыкай, не прытрымліваецца новага беларускага правапіса.

Згодна новага правапіса словы «ўчот», «участак», пішуцца без **«в»,** а ў «Прымежным калгасніку» ўсюды друкуецца «вучот», «вучастак» і т. д. Таксама ўвесь час рэдакцыя блытае напісанне канчатка слоў у родным склоне: калі пішацца «а», калі «у».

Неахайнасць работнікаў рэдакцыі адбіваецца і на сэнсе сказаў. Газета, напрыклад, піша: **«Калгаснікі абураны такому агіднаму факту», «кіраваць калгаса».**

«Бальшэвіцкі друк» ужо ўказваў рэдакцыі ўшацкай газеты на недапушчальную неахайнасць у падачы загалоўкаў у газеце. Указанняў журнала газета не ўлічыла. Вось якія загалоўкі надрукаваны ў газеце за 2 студзеня. **«Калгас «15 гадавіна», не падрыхтаваўся да размеркавання»** (пятнаццатая гадавіна **чаго?** Да размеркавання **чаго** калгас не падрыхтаваўся?), **«Умовы ёсць, а адставанне не ліквідавана» (якія** ўмовы? чаму ў слове «ліквідавана» два **«н»?), Дарашкевіч неможа быць у складзе сельсовета»** (у слове «неможа» — «не» павінна стаяць асобна).

**«Праўда»** не раз указвала рэдакцыям газет на тое, што нельга ўжываць у газетах незразумелых скарачэнняў. Работнікі «Прымежнага калгасніка» лічаць, што ўказанні «Праўды» для іх не закон, і прадаўжаюць наводняць газету скарачэннямі: «ДСК», «НСШ», «Райана», «Райза», «проц.», «с-с», «м-с», «цэнт.» і т. д.

**Я. ГЕРЦЫК, М. ВАСІЛЕЎСКІ.**
**Бабінічы, Полацкі раён.**

# Прыходзіцца разгадваць рэбусы

Наша раённая газета **«Калгаснік на варце»** наогул не вызначаецца граматнасцю і культурнасцю мовы.

Надыходзіў раённы з'езд советаў. Мы, чытачы, з нецярплівасцю чакалі нумара раённай газеты, прысвечанага раённаму з'езду. Кожны быў упэўнен, што к такой вялікай у раёне падзеі, як з'езд советаў, рэдакцыя пастараецца даць чытачам добры па якасці нумар.

Нашы надзеі аказаліся марнымі. Як гэта ні дзіўна, з'ездаўскі нумар «Калгасніка на варце» атрымаўся вельмі няграматным. Я ўкажу толькі некаторыя ляпсусы, якія я заўважыў у гэтым нумары раённай газеты.

У газеце ёсць такі выраз:

> **«... Паасобныя члены прэзідыума яшчэ не працуюць па-новаму. Жывое канкрэтнае кіраўніцтва падмяняе пісанінай доўгіх рэзалюцыяй, якія ў сваёй большасці не ажыццяўляюцца».**

«Дубовы» стыль і граматычныя памылкі гэтай вытрымкі настолькі кідаюцца ў вочы, што наўрад ці трэба на іх указваць. А вось другая вытрымка:

> **«Зусім не да твару нашаму раёну злачынна адставаць у ільназагатоўках, закупка хлеба дзяржаве, у выкананні абавязковых пастаўках бульбы і нават хлеба, за што мы занесены на чорнай дошцы».**

Падобнымі ляпсусамі, граматычнымі і друкарскімі памылкамі, няправільнымі зваротамі стракаціць увесь нумар «Калгасніка на варце», прысвечаны раённаму з'езду советаў. Па граматнасці нічым не адрозніваюцца ад гэтага і іншыя нумары нашай раённай газеты.

**Я лічу сябе падрыхтаваным чытачом, але і мне вельмі цяжка чытаць «Калгаснік на варце». Некаторыя артыкулы газеты — сапраўдныя рэбусы.** Прыходзіцца толькі здагадвацца аб тым, якую думку хацела выказаць рэдакцыя. Што-ж гаварыць аб сотнях малаграматных калгаснікаў, якія атрымліваюць «Калгаснік на варце».

**Настаўнік М. ЛАЎНІКОВІЧ.**
в. Грабяні, Лельчыцкага раёна.

# Стары халтуршчык зноў выплыў на паверхню

З некаторага часу ў газеце **«Калгаснік Беларусі»** пачалі часта з'яўляцца нарысы і артыкулы нейкага **М. Марчанкі.** Пладавітасць гэтага аўтара проста здзіўляе. Як толькі чалавек спраўляецца. Марчанка піша падвальныя артыкулы і нарысы з розных месц і па любых пытаннях. Як высвятлілася, ларчык адчыняецца вельмі проста: Марчанка **крадзе** чужыя матэрыялы і выдае іх за свае.

Апошнім «пацярпеўшым» ад плагіятара Марчанкі з'явіўся я.

У бытнасць маю рэдактарам газеты **«Калгаснік Уздзеншчыны»** я надрукаваў у № 16 журнала **«Работніца і калгасніца Беларусі»** нарыс «Ізатаўка падсочкі» пра брыгадзіра брыгады падсочніц **Алесю Казей** з Уздзенскага раёна. Ледзь паспеў выйсці ў свет нумар журнала з маім нарысам, як у «Калгасніку Беларусі» ў нумары за 10 лістапада з'явіўся нарыс П. Марчанкі «Брыгадзір Алеся». Калі не лічыць некалькіх нязначных змен, гэты нарыс цалкам, слова ў слова бессаромна спісан з майго нарыса «Ізатаўка падсочкі».

Для пацвярджэння падам некалькі параўнанняў.

У мяне напісана:

**«Раптам лес ажывіўся звонкімі дзявочымі галасамі. Гэта ішла брыгада Казей Алесі.**

**— Алеська, ты ўжо даўно тут?**

**— А як ты думала, — падхапілася Жэня, — яна штодзень то ўсё раней прыходзіць».**

А вось адпаведнае месца з нарыса «Брыгадзір Алеся».

**«Раптам лес ажывіўся звонкімі, бадзёрымі галасамі дзяўчат.**

**— Ты даўно тут, Алеська? — пытае таварышка»... і т. д.**

У другім месцы майго нарыса надрукавана так:

**«Падсочны промысел, здабыча жывіцы, з'яўляецца новай справай у нашай краіне. Толькі пяты год, як арганізаваўся гэты промысел у Уздзенскім раёне.**

**...Ішлі дні напружанай працы. Алеся прывыкла к лесу, прыглядалася, палюбіла работу, старанна вывучала тэхніку ўздымкі. Сваёй уласнай практыкай яна знайшла лепшы метад здабычы жывіцы і заваявала права на званне лепшага ўдарніка-ізатаўца. Яе пяць раз прэміравалі: грашыма, значком ударніка і граматай. Ужо другі год яна працуе брыгадзірам на ўчастку».**

Гэту вытрымку Марчанка таксама цалкам перапісаў у «сваім» нарысе. Але для таго, каб яна хоць крыху адрознівалася ад арыгінала, ён пашоў на адкрытую хлусню, сказіўшы некаторыя факты. У мяне напісана: «Толькі пяты год, як арганізаваўся гэты промысел (падсочка) у Уздзенскім раёне». Марчанка замест слоў «у Уздзенскім раёне» напісаў «у Беларусі». Толькі з-за здзіўляючай неахайнасці рэдактара «Калгасніка Беларусі» гэта сцвярджэнне з'явілася ў друку, бо ўсім вядома, што ў БССР падсочка існуе больш пяці год.

Я пісаў, што брыгадзір Алеся Казей прэміравалася пяць раз і працуе брыгадзірам другі год. Марчанка і тут сказіў сапраўднасць, напісаўшы, што Алеся працуе брыгадзірам пяць гадоў і шэсць раз прэміравалася.

П. Марчанка канчае «нарыс» апісаннем злёта ўдарнікаў лесу і сплаву і падае, як быццам, словы Алесі Казей, сказаныя ёю на злёце. Тут справа дайшла ўжо да простых здзекаў над ударніцай Казей, бо Марчанка ніколі не бачыў Алесю Казей, не быў на злёце, як не быў і ў Уздзенскім раёне наогул.

На гэтым можна было-б і скончыць гэту агіднейшую гісторыю з халтуршчыкам Марчанка. Але мяне хвалюе большае, чым асабістыя пачуцці, звязаныя з гэтым плагіятам.

Марчанка даўно вядомы ў асяроддзі газетных работнікаў Беларусі, як плагіятар і безнадзейны халтуршчык. За халтуру яго выгналі з рэдакцыі аршанскай газеты «Ленінскі прызыў».

Тым больш здзіўляе тая лёгкасць, з якою рэдакцыя «Калгасніка Беларусі» ласкава прадастаўляе старонкі газеты для яго халтуры.

**Ю. СНЫТКО.**

**рэдактар газеты «Калгаснік», м. Чырвоная Слабада.**

## КРЫТЫЧНЫЯ ЗАМЕТКІ

* * *

### „СЦЯГ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ" УЗВОДЗІЦЬ ПАКЛЁП НА СОВЕЦКАЕ НАСТАЎНІЦТВА

Настаўнік — вялікая культурная сіла на вёсцы. Іастаўніка можна ўбачыць і за выпускам калгаснай насценгазеты, і за чыткай калгаснікам мастацкай літаратуры і газет.

Але з гэтым не згодна чачэрская раённая газета **«Сцяг калектывізацыі»**. У перадавым артыкуле «За культурную зіму, за радасны вясёлы адпачынак» газета піша:

> **«Настаўніцтва, як гэта не странна (трэба было напісаць дзіўна, але не ў гэтым справа. — РЭД. «Б. Д.») у большасці сваёй апалітычна, не з'яўляюцца арганізатарамі і праваднікамі соцкультуры на вёсцы».**

Няправільная, палітычна-шкодная заява, якая супярэчыць сапраўднасці.

Калі паверыць «Сцягу калектывізацыі», то выходзіць, што настаўніцтва Чачэрскага раёна ў большасці сваёй «апалітычна», «не з'яўляецца арганізатарам і праваднікам соцкультуры на вёсцы».

Узводзіце паклёп вы, тав. **Каплун** (адказны рэд. «С. К.»), на настаўніцтва Чачэрскага раёна. У Чачэрскім раёне няма-ла адданых настаўнікаў, якія добра працуюць на культурным фронце, прымаюць актыўны ўдзел ва ўсёй правадзімай партыяй палітычна-гаспадарчай рабоце на вёсцы. Аб гэтым трэба было напісаць, паказаць работу лепшых совецкіх настаўнікаў, выкрыць бяздзейнікаў, а не абвінавачваць большасць настаўніцтва раёна ў апалітычнасці і бяздзейнасці.

### ЧЫЯ ГЭТА ГАЗЕТА?

Нядаўна, праглядаючы раённыя газеты, атрымліваемыя намі ў парадку абмену, мы знайшлі нумар газеты **«Трыбуна калгасніка»**. У гэтым нумары, датаваным 1 студзеня 1935 г., нідзе не ўказана, чыя гэта газета, чый гэта орган.

У канцы нумара пад подпісам рэдактара т. **Пецярэнка** надрукавана — «Брагін». Гэта слова дае падставу меркаваць, што газета выходзіць у Брагінскім раёне.

Ці так гэта? Просім тав. Пецярэнка вырашыць нашы сумненні.

**КУЛІНКОВІЧ, ШЭДАЎ** — **работнікі клімавіцкай «Комуны».**

### АБ НУМАРАЦЫІ ГАЗЕТЫ „ЗА ТОРФ"

Папрабуйце даведацца па камплекту газеты **«За торф»**, які нумар газеты выходзіць. Заблытаецеся.

14 лістапада «За торф» выходзіць пад нумарам 133 (406), 16 лістапада таксама 133 (406), 20 лістапада — ужо 134 (409) (адразу праз тры нумары пераскочылі), 21 лістапада — 135 (410), 24 лістапада — зноў 135 (410), 30 лістапада — 141 (421) (тут ужо пераскочылі праз цэлыя 11 нумароў), 6 снежня — таксама 141 (421), 8 снежня — 142 (422) і 11 снежня — зноў такі 142 (422).

Гэта не выпадковая тэхнічная памылка, а сістэматычны недагляд і неахайнасць работнікаў рэдакцыі, — гэта вынік безадказных адносін да выпуску газеты.



# Ініцыятыва на месцах

## СЕЛЬКОРАЎСКІ ЭШАЛОН З АПАЛАМ МЕНСКУ

Па ініцыятыве селькораў калгаса «Комсомольская праўда» селькоры Глускага раёна, у адзнаку надыходзячага ўсебеларускага з'езда рабселькораў, арганізавалі пасылку ў Менск спецыяльнага эшалона з апалам. Для дапамогі селькорам у хутчэйшай адгрузцы дроў у Бярозаўскім і Азямлянскім сельсовеце працуе **выязная рэдакцыя** раённай газеты **«Сцяг калектывізацыі»**.

10-га студзеня ў Менск накіраван першы эшалон імя III усебеларускага з'езда рабселькораў.

## РЫХТУЕМ КАНЯ К СЯЎБЕ

Наркамзем БССР і рэдакцыя газеты **«Калгаснік Беларусі»** склікалі ў Слуцку нараду конюхаў, ветэрынараў і зоатэхнікаў 10-ці раёнаў БССР. Нарада, на якой прысутнічала звыш 50 чал., абмеркавала пытанне аб падрыхтоўцы каня да веснавых работ і папярэджанні абартавання конематак. У сваім пісьме да ўсіх калгаснікаў Беларусі ўдзельнікі нарады пішуць: «Мы былі ўдзельнікамі судовага працэса ў Слуцку над вінаўнікамі абартавання конематак. Як працэс, так і наша нарада паказалі, што аборты кабыл — гэта рэзультат варварскіх, грубых адносін да іх, рэзультат няправільнага кармлення, паення халоднай вадой, гонкі і празмернай перагрузкі».

Конюхі і зоаветэрынарныя работнікі прапануюць абвясціць усебеларускі конкурс-спаборніцтва калгасаў і конегадоўчых ферм на лепшую падрыхтоўку каня да сяўбы. У пісьме падаюцца ўмовы конкурса.

Практычную работу па конкурсу ўзначальвае газета «Калгаснік Беларусі».

## ЗА КУЛЬТУРУ, ЗА ЧЫСТАТУ Ў КАЛГАСЕ

Любаньская раённая газета **«Калгаснік Любаньшчыны»** заклікае калгаснікаў усяго раёна падхапіць каштоўны пачын калгаса «Першае жніўня» па ўкараненню культуры ў калгасны быт, арганізацыі зімовых работ у калгасе і ўзмацненні культурна-масавай работы. Калгас «Першае жніўня» адным з першых у раёне пабудаваў лазню, арганізуе кравецкую і шавецкую майстэрню, абсталёўвае калгасны клуб, чырвоны куток.

На агульным сваім сходзе калгаснікі

УДАРНІК — ДЗЕЦЯМ

ПІЯНЕРЫ І ВУЧНІ, БУДЗЦЕ АКТЫЎНЫМІ ДЗЕТКОРАМІ СВАЁЙ ГАЗЕТЫ

РЭБЯТА

Вітаем выпуск газеты для дзяцей

**«УДАРНІК—ДЗЕЦЯМ» — новая друкаваная дзіцячая газета. Газету выдае шматтыражка барысаўскага дрэваапрацоўчага камбіната «Комінтэрн».**

пастанавілі радыёфікаваць калгас, дабіцца ўзорнай чыстаты ў хатах і дварах калгаснікаў, прывесці ў культурны выгляд калгасную канцылярыю і ўсе дамы грамадскага карыстання.

У першы дзень абвешчанага культпаходу агледжаны хаты і двары 13 калгаснікаў. У іх адрамантавалі печы і коміны, зашклілі вокны, падвезлі апал.

### ВЫЯЗНАЯ АШЧАДКАСА ДЛЯ ПРАВЕРКІ І АПЛАТЫ ВЫЙГРЫШАЎ

Па ініцыятыве пухавіцкай раённай газеты **«За калгасы»** пухавіцкая ашчадкаса арганізавала выезд у Наваселкаўскі сельсовет для праверкі і аплаты працсўным выйгрышаў па дзяржаўных пазыках. За першы дзень праверана аблігацыі ў 100 калгаснікаў. Каля 10 чалавек атрымалі свае выйгрышы.

Вопыт выезду ў сельсоветы работнікаў пухавіцкай ашчадкасы для арганізацыі масавай праверкі выйгрышаў па пазыках газета прапануе перанесці ва ўсе ашчадкасы раёна.

### ШОСТЫ НУМАР ТЭХНІЧНАЙ ГАЗЕТЫ

Шматтыражка віцебскай швэйнай фабрыкі **«Сцяг індустрыялізацыі»** выдала шосты нумар **«Тэхнічнай газеты»**. Нумар прысвечан пытанню асваення новых фасонаў. У газеце побач з такімі артыкуламі, як «Апрацоўка жылета» або «Пецельная машына» друкуецца цікавы аддзел «Над чым працуе вынаходніцкая думка на другіх швэйных фабрыках». У гэтым аддзеле газета расказвае аб апошніх вынаходствах на буйнейшых швэйных фабрыках Саюза.

### ЮНКОРЫ ДАПАМАГАЮЦЬ РЫХТАВАЦЦА ДА СЯЎБЫ

Злёт юнкораў і членаў рэдкалегій школьных і піонерскіх газет Дзяржынскага раёна абмеркаваў задачы юнкораў у справе дапамогі калгасам у падрыхтоўцы да вясны.

Юнкоры піонеры калгаса «Звязда» у адказ на пастановы раённага злёта разгарнулі збор попелу ва ўсіх брыгадах калгаса, дапамагаюць арганізаваць праверку ўсхожасці насення, сталі актыўнымі памочнікамі ў выпуску брыгадных насценгазет.

Праз палітаддзельскую газету **«Большэвіцкі сцяг»** піонеры звярнуліся да палітаддзела МТС і раёна з прапановай арганізаваць на старонках друку пераклічку піонератрадаў па пытаннях падрыхтоўкі да вясны і якасці вучобы.

### АГРАЗООТЭХВУЧОБА НА СТАРОНКАХ РАЁННАГА ДРУКУ

Следам за «Калгаснікам Беларусі», на старонках якога друкуюцца завочныя курсы па жывёлагадоўлі, асобныя раённыя і палітаддзельскія газеты пачалі друкаваць лекцыі па агразоатэхвучобе. Капыльская палітаддзельская газета **«За большэвіцкі калгас»** змясціла ўжо 4-ю лекцыю старшага аграномa МТС аб раслінах. Ушацкая раённая газета **«Прымежны калгаснік»** друкуе лекцыі раённага агранома аб севазваротах і спосабах павышэння ўраджаю.

### КАЛЕКТЫЎНАЯ ПАЕЗДКА СЕЛЬКОРАЎ НА ПРАГЛЯД «ЧАПАЕВА»

Глуская раённая газета **«Сцяг калектывізацыі»** арганізавала **калектыўную паездку селькораў і былых чырвоных партызан** у горад Бабруйск **на прагляд гукавога фільма «Чапаеў»**. 16 і 18-та студзеня газета надрукавала аб гэтым выдатным фільме водгукі селькораў і былых чырвоных партызан.

«Фільм «Чапаеў» — перамога квітнеючай соцыялістычнай культуры. Я горача вітаю ініцыятыву раённай газеты па арганізацыі калектыўнага прагляду карціны «Чапаеў» — піша селькор **Дудар**.

Селькоры ўнеслі прапанову арганізаваць другую калектыўную паездку лепшых калгаснікаў-ударнікаў на прагляд «Чапаева».

**ЦАНА 1 руб.**

Менск, друкарня „Звязды" заказ № 59. Здана ў набор 23—I—35 г. Падпісана да друку 29—\—35 г.
Ул' Галоўлітбела № 2817 Тыраж 1230 экз. 3 з пап. друк. арк. У арк. 73.600 зн.